ва, або вылічаны вельмі прыблізна. Да такіх эр можна аднесці рымскую эру ад стварэння Горада, грэчаскую эру ад Алімпіяд і інш. Да канкрэтна-гістарычных эр адносяць такія, пачатковы пункт каторых дакладна вядомы, зафіксаваны ў гісторыі, мае канкрэтна-гістарычную дату. Прыкладам такой эры можа быць эра, прынятая як пачатковы пункт новага адліку часу ў перыяд Вялікай французскай рэвалюцыі.

### Эра ад Стварэння Свету/СС/

У найбольш ранніх пісьмовых кірылічных крыніцах выкарыстоўваецца эра ад Стварэння Свету (далей эра ад СС), аднак у залежнасці ад паходжання крыніцы, пратографаў, якія выкарыстоўваў аўтар для яе стварэння, маглі ўжывацца розныя варыянты гэтай эры. У гістарычнай храналогіі да найбольш часта ўжываных эр, дзе пачатковым пунктам адліку было стварэнне свету, далучаюць александрыйскую, антыяхійскую, візантыйскую (канстантынопальскую, грэчаскую) эры, іўдзейскую «ад Адама» (пачатковы пункт адліку – 6/7 кастрычніка 3761 г. да Раства Хрыстова) і шэраг іншых. Як адзначае расійскі даследчык А.Кузьмін, «У IX—X стагоддзях Русь уваходзіць у арбіту хрысціянскага свету, і на яе пісьменства аказваюць уплыў спосабы летазлічэння суседніх хрысціянскіх народаў, а таксама, пэўна, традыцыя, якая ішла ад славянаў і іх цюрка-іранскіх і балта-варажскіх суседзяў».[30] Прычыны і прынцыпы выбару пункту адліку ў гэтых эрах былі рознымі: візантыйская эра з'явілася як вынік узгаднення двух сістэм лічэння часу – пасхальнага цыклу і традыцыйнага рымскага лічэння індыктамі. За пачатковы пункт гэтай эры быў абраны, калі лічыць да эры ад Раства Хрыстова (далей эра ад РХ), у залежнасці ад вызначэння пачатку года 5508 ці 5509 год. Аднак адначасова з ёй у Візантыі ўжывалася так званая старая візантыйская эра, дзе пачатковым пунктам лічыўся 5505 г. да

[30] Кузьмин. А. Г. Начальные этапы древнерусского летописания.- М., Изд-во МГУ, 1977 - с.224.

РХ. Для нас важна, што менавіта гэтая апошняя – з пачатковым пунктам адліку ў 5505 г. – у канцы IX в. была пакладзена ў падставы балгарскага летазлічэння. Балгарскія тэксты дастаткова часта выкарыстоўваліся славянскімі кніжнікамі для стварэння ўласных летапісаў і агіяграфічных твораў.

У старажытных кірылічных рукапісах маглі ўжывацца антыяхійская эра, якая сваім пачатковым пунктам мела 1 верасня 5969 г. да н.э. ; эра Іпаліта, якая была на год маладзейшай за антыяхійскую; александрыйская, якая пачатковым пунктам мела 5501, 5472, 5493 або 5624 гг. да н.э. – у залежнасці ад месца і часу яе ўжывання.

Найбольшая разнастайнасць эр, якія сваім пачатковым пунктам маюць ўяўны дзень стварэння свету, на славянскіх землях назіраецца ў крыніцах, створаных у першыя стагоддзі пасля прыняцця хрысціянства. Летазлічэнне ад розных эр ад СС найбольш уласціва для летапісаў і агіяграфічных твораў, што тлумачыцца характарам крыніц, якія выкарыстоўвалі летапісцы і багасловы: перапісваючы звесткі з візантыйскіх, балгарскіх тэкстаў, яны часцей за ўсё не рабілі рэдукцыю дат. Каштоўныя назіранні за ўжываннем александрыйскай і антыяхійскай эр у «Аповесці мінулых гадоў» зрабіў А.Кузьмін. Расійскі даследчык падкрэслівае, што гэта, так бы мовіць, «сляды» выкарыстанага ў пратографах летазлічэння, якія пазначыліся ў першым усходнеславянскім летапісе.[31] Аб выкарыстанні антыяхійскай эры ў Ніканаўскім летапісе піша Б.Рыбакоў, адзначаючы, што яна трапіла ў крыніцу, хутчэй за ўсё, з балгарскага тэксту, паколькі ўжываецца ў датаванні падзеяў, якія звязаны з гісторыяй Балгарыі.[32]

У летапісах і хроніках, а таксама актавых крыніцах, якія сёння вядомыя даследчыкам і якія паходзяць з беларускіх земляў, эра ад СС ужываецца ў візантыйскім варыянце – то бок пачатковым пунктам адліку ў ёй абраны 5509 г. да н.э.

---

[31] Кузьмин А. Г. Хронология начальной летописи. Вестн. МГУ, 1968, № 6 - с. 40-53.

[32] Б. А. Рыбаков. Древняя Русь.- С. 165—173.

Надзвычай важным момантам для работы з датамі эры ад СС з'яўляецца стыль – гэтым тэрмінам пазначаецца ў дадзеным выпадку дата пачатку года. Найчасцей пачатак новага года звязвалі з акрэсленымі сталымі астранамічнымі з'явамі: сонцазваротам, поўняй, уваходжаннем свяціла ў акрэслены знак задыяка і г.д. У славянаў, як земляробчага народа, яшчэ з часоў паганства замацаваўся сакавіцкі пачатак года, калі адбывалася вясновае раўнадзенства і пачыналіся працы на зямлі. Сакавіцкі стыль быў шырока распаўсюджаны ў летазлічэнні. У сакавіку пачыналі год да рэформы Юлія Цэзара рымляне.[33] Адначасова з гэтым былі і іншыя стылі: у Старажытнай Грэцыі, спадчыну якой падхапіла Візантыя, выкарыстоўваўся чэрвеньскі стыль – год пачынаўся ў дзень летняга сонцастаяння. Але ў час, калі візантыйскае летазлічэнне прыйшло на землі ўсходніх славянаў, у ім ужо панаваў вераснёўскі стыль – год пачынаўся першага верасня. У расійскай, а затым савецкай гістарычнай храналогіі на працягу амаль стагоддзя дыскутавалася пытанне, паводле якога стылю пададзены даты ў самых ранніх усходнеславянскіх летапісах, найперш у «Аповесці мінулых гадоў». Важнасць для гістарычнай навукі дадзенага пытання не выклікае сумнення: пры рэдукцыі даты на сучаснае летазлічэнне, у якім выкарыстоўваецца студзеньскі стыль, ігнараванне асаблівасцяў датавання з дапамогай іншых стыляў можа прывесці да памылак, сказіць агульную карціну даследавання або нават прывесці да абсурду. Апошняе можа адбыцца ў тым выпадку, калі ў даследаванні будуць выкарыстоўвацца дадзеныя некалькіх крыніц з рознымі стылямі (паводле адной «князь ужо памёр», а ў другой – пасля пазначанай у папярэднім летапісы «смерці» выправіўся ў паход).

Вырашэнне пытання аб пачатку года, які выкарыстоўвалі першыя ўсходнеславянскія летапісцы, прайшло дастаткова доўгі шлях. З грунтоўнай гістарыяграфіяй праблемы можна

[33] Селешников С. И. История календаря и хронология. - С. 53.

пазнаёміцца ў артыкуле І.Данілеўскага «Нерешенные вопросы хронологии русского летописания».[34] У прыватнасці, ён адзначае, што бясспрэчным з'явіўся факт выкарыстання ў летапісах вераснёўскага і сакавіцкага пачатку года. Гэта было высветлена першымі даследчыкамі летапісаў яшчэ ў XIX ст., але доўгі час адкрытым заставалася пытанне аб тым, ці адстае вераснёўскі стыль ад сакавіцкага, ці апярэджвае яго. Кампраміс быў знойдзены М.Сцяпанавым, які канстатаваў, што сакавіцкі год можа і адставаць ад вераснёўскага (сакавіцкі стыль), і апярэджваць яго (ультрасакавіцкі стыль).[35] Гэтую гіпотэзу падцвердзіў і ўдакладніў М.Беражкоў, які, прааналізаваўшы найбольш значныя помнікі летапісання (Лаўрэнцьеўскі, Іпацьеўскі, Ноўгарадскі І летапісы і інш.), акрэсліў, у якіх з іх ужываецца сакавіцкі, ультрасакавіцкі і вераснёўскі стылі. Даследчык пісаў, што да XIV ст. вераснёўскі стыль рэдка выкарыстоўваўся ў летапісанні, часцей сустракаецца сакавіцкі і ўльтрасакавіцкі стылі. М.Беражкоў акрэсліў, які з стыляў быў характэрны для найбольш буйных цэнтраў летапісання і пісьменнасці. Аднак невысветленым застаўся вельмі важны момант – чаму сакавіцкі стыль з'явіўся ў летапісанні, ці была гэта даніна паганскім славянскім традыцыям, ці ўплыў заходніх суседзяў, дзе сакавіцкі стыль таксама ўжываўся. На нашую думку, пэўную ролю тут маглі адыграць і даўнія антычныя, найперш старажытнарымскія традыцыі, якія яшчэ не былі забытыя на тэрыторыі Візантыі. Застаецца адкрытым і пытанне, ці цалкам зніклі сакавіцкі і ультрасакавіцкі стылі ў летапісных крыніцах, напісаных пасля XIV ст., у тым ліку тых, якія паходзяць з беларускіх земляў. Выкарыстанне сакавіцкага і ўльтрасакавіцкага стыляў магло быць і ў XV ст., найперш у Маскоўскай дзяржаве. Такая выснова набывае высокую верагоднасць у сувязі з тым, што афіцыйна праваслаўная маскоўская царква прызнала вераснёўскі стыль

---

[34] Данилевский И.Н. Указ. соч. - с.62-71.
[35] Там же, с. 66.

адзіным магчымым для ўжывання толькі ў 1492 г., калі былі складзеныя «Пасхаліі» мітрапаліта Зосімы, у якіх, апрача ідэі «Масква-Трэці Рым», мелася і абгрунтаванне вераснёўскага пачатку года. Пэўна, такое абгрунтаванне было актуальным, калі Зосіма звярнуў увагу на гэты элемент летазлічэння. У актах, летапісах і хроніках, якія паходзяць з беларускіх земляў ці тэрыторыі ВКЛ і створаных не раней за XIV ст., з вялікай верагоднасцю можна гаварыць пра ўжыванне вераснёўскага стылю. Ускосна гэта падмацоўваецца наяўнасцю ажыўленых і разнастайных па характары (змаганне за ўласную мітраполію і г.д.) сувязей з Візантыяй, найперш у часы Вітаўта, уплывам, які аказалі паўднёваславянскія кніжнікі, у тым ліку Рыгор Цамблак, на пісьменства, на багаслоўскую літаратуру, увогуле на культурнае жыццё краіны ў гэты час. У палеаграфіі змены ў графіцы пісьма, афармленні рукапісаў, якія былі абумоўлены паўднёваславянскім уплывам, часам называюць палеаграфічнай рэвалюцыяй. Думаецца, што гэты ўплыў не мог не закрануць і сістэму летазлічэння ў кірылічных рукапісах, якая магла цяпер больш сцісла арыентавацца на візантыйскія ўзоры.

Выкарыстанне эры ад СС у беларускіх летапісных крыніцах патрабуе грунтоўнага, уважлівага даследавання. Апошняе абумоўлена, апрача іншага, тым, што пры іх публікацыі робяцца памылкі ў датах, не ўлічваюцца метады рэдукцыі дат з улікам стыля, які выкарыстаны летапісцам і храністам. Памылковыя даты пасля тыражыруюцца, трапляюць у энцыклапедыі і падручнікі, на іх будуюцца навуковыя канцэпцыі, фармуецца гістарычная памяць насельніцтва. Найбольш яскравай у гэтым сэнсе з'яўляецца публікацыя беларускіх летапісаў і хронік, зробленая М.Улашчыкам. Выдатны беларускі гісторык, знаўца летапісных тэкстаў і археограф, пры складанні і апрацоўцы летапісных тэкстаў для «Полного собрания русских летописей» [36] выкарыстаў памылковую методыку пераводу дат па

[36] Полное собрание русских летописей. Т. 32. - М., 1975, Т. 35. - М., 1980.

эры ад СС на эру ад РХ. У прадмове да выдання М.Улашчык, у прыватнасці, піша: «Літарныя пазнакі гадоў замененыя на лічбавыя (побач у квадратных дужках змешчаны гады сучаснага стылю). У тым выпадку, калі ў рукапісе паказаныя гады «ад стварэння свету», **перавод на сучаснае летазлічэнне зроблены шляхам адымання 5508 ад пазначанай даты** (падкрэслена намі - С.К-С.)».[37] Такім чынам, не ўлічана, што розніца паміж гадамі па РХ (студзеньскі стыль) і гадамі па СС (вераснёўскі, ультрасакаваіцкі і сакавіцкі стылі) змяняецца ў залежнасці ад месяца, калі адбываліся апісаныя ў летапісе падзеі. Ігнараванне правілаў працы са стылямі прывяло ў выніку да шматлікіх памылак у датаванні падзей у публікаваных М.Улашчыкам тэкстах летапісаў. Так, да прыкладу, не ўжываецца падвойнае ці патройнае напісанне дат у выпадках, калі невядомы стыль, якім карыстаўся летапісец, і месяц, калі адбывалася падзея. Няслушна паказваюцца нават дакладныя даты – з пазначэннем дня і месяца падзеі. Дарэчы, метады гістарычнай храналогіі, у праватнасці, распрацаваныя М.Беражковым, даюць магчымасць з пэўнай дакладнасцю акрэсліць стыль летапісу па ўскосных прыкметах – пазначэнню сонечных і месячных зацменняў, індыкце і інш.[38] Высветліць стыль можна і на падставе параўнання з іншымі крыніцамі, летазлічэнне якіх вядомае. Падобным прыкладам можа быць Супраскі летапіс, даты якога публікуюцца па заганнай методыцы. У тэксце летапісу ёсць некалькі месцаў, якія дазваляюць вызначыць стыль, каторы выкарыстоўваў летапісец. Так, да прыкладу, пры публікацыі падзей, пазначаных у летапісы 6918 г., М.Улашчык паказвае гэтую дату з дапамогай эры ад РХ як 1410 г. Але ў артыкуле летапіса падаюцца падзеі ад вясны (Вялікдзень) па студзень уключна. Такім чынам, пры рэдукцыі дата павінна была выглядаць так: 1410/1411г.[39]Артыкул, датаваны ў летапісе 6939 г., які апавядае

[37] Улашчык М. Прадмова / Летапісы і хронікі Беларусі. - С.46.

[38] Бережков Н. Г Хронология русского летописания. М., 1963.

[39] Супраскі летапіс./Летапісы і хронікі Беларусі. - С.101.

пра смерць Вітаўта («...приставися велики князь Витовт месяца октября 23, на паметь святого Якова»[40]), мае наступны каментар беларускага даследчыка: «так у рукапісе, Вітаўт памёр у 1430 г.»[41]. Калі б рэдукцыя дат была зроблена ў адпаведнасці з правіламі, такі каментар быў бы не патрэбен. Дадзеная дата паказвае, што летапісец ужываў вераснёўскі ці ўльтрасакавіцкі стылі – розніца з эрай па РХ у 5509 гадоў для восеньскіх месяцаў характэрна менавіта для гэтых стыляў (6939-1430 = 5509).

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што дакладная рэдукцыя дат у летапісах часта бывае вельмі складанай. Летапісцы карысталіся markрознымі крыніцамі і, здаралася, пераносілі даты, якія ў іх былі, без адаптацыі да ўласных нормаў летазлічэння. Да таго ж у артыкул, пазначаны адным годам, маглі трапляць падзеі, якія адбываюцца на працягу некалькіх гадоў, што ўскладняе вызначэнне стылю, якім карыстаўся летапісец. Так, да прыкладу, у Румянцаўскім летапісе ўжываюцца як эра ад СС, так і эра ад РХ; у артыкул, прысвечаны Аршанскай бітве і датаваны 7022 г. (1514 г.), трапілі падзеі ад 16 мая да 8 верасня. [42]Апошняе магло быць толькі ў тым выпадку, калі ў летапісе ўжываўся сакавіцкі стыль, што не пацвярджаецца іншымі запісамі.

Можна меркаваць, што М.Улашчык быў, апрача іншага, абмежаваны ў выбары методыкі работы з датамі. «Полное собрание русских летописей» – серыйнае выданне, археаграфічныя правілы яго мусяць быць, такім чынам, аднастайнымі ва ўсіх публікацыях серыі. Першыя тамы, выдадзеныя яшчэ ў XIX ст, ужывалі менавіта такі метад рэдукцыі дат. Рэдактар выдання Я.І.Пярэднікаў пры ўказанні гадоў ад СС паўсюль аднімаў 5508, хаця з улікам сакавіцкіх і вераснёўскіх гадоў падлік трэба было весці больш дыферэнцыравана. Такі прыём у публікацыі сустрэў падтрымку

40 Тамсама, с. 105.
41 Тамсама.
42 Румянцаўскі летапіс. Тамсама, с. 261.

А.А.Куніка, які быў прыхільнікам «старшынства» вераснёўскага года ў адносінах да сакавіцкага, пры тым, на ягоную думку, да XIV ст. рускія кніжнікі не выкарыстоўвалі вераснёўскі год.[43]

Зыходзячы з вышэйнапісанага, на нашую думку, належыць зрабіць перагляд дат у надрукаваных М.Улашчыкам летапісах і хроніках. Гэта пацягне за сабой змены ў цэлым комплексе гістарычнай літаратуры і іншых выданняў, заснаваных на гэтых крыніцах. Але памылкі ў датах цягнуць за сабой няслушнасць канцэпцый, высноваў, меркаванняў, што недапушчальна ў гістарычнай навуцы.

У летапісах, якія вяліся або складаліся праваслаўнымі кніжнікамі, святарствам, як можна меркаваць па захаваных крыніцах, у той час, калі справаводства ў ВКЛ дапускала ўжыванне і візантыйскай, і лацінскай эр (да сярэдзіны XV ст.), выкарыстоўвалася візантыйская эра. Паказальны ў гэтым сэнсе Еўраінаўскі летапіс, частка якога напісана з выкарыстаннем візантыйскай эры - да сярэдзіны XV ст. , наступныя ж падзеі датуюцца эрай ад РХ. Аўтар спіса, які зроблены ў канцы XVII ст., карыстаўся больш раннімі крыніцам. У гэтых пратографах летазлічэнне вялося па эры ад СС, што і было перанесена летапісцам без рэдукцііі ва ўласны твор. Затым, працягваючы апісанне падзей, ён пазначае даты па замацаваўшымся ў яго часы летазлічэнні - эры ад РХ. Гэтая змена наступае пасля 1440 г., пры тым аўтар робіць рэдукцыю даты: «Лѣта 6948-го, а по божію рожденію 1440»[44]. Між іншым, аналіз перадачы дат у летапісе можа быць дадатковай прыкметай пры вызначэнні складу крыніц, якімі карыстаўся летапісец ці храніст. Гэтую асаблівась адзначыў і бліскуча выкарыстаў А Кузьмін пры аналізе «Аповесці мінулых гадоў». Відавочна,

---

[43] Свердлов М.Б. Указ. соч. - с.61.

[44] Еўраінаўскі летапіс.// Летапісы і хронікі Беларусі. - с. 351.

«...храналогія нашых летапісаў з'явілася вынікам разлікаў і кампілявання крыніц рознага паходжання»,[45] – адзначае ён.

Вывучэнне храналогіі беларускіх летапісаў і хронік патрабуе грунтоўнага, уважлівага і руплівага падыходу. Няслушна пададзеныя даты павінны быць выпраўленыя, па-магчымасці ўдакладнены стыль, якім карысталіся летапісцы і храністы.

Эра ад СС была першай, якую мы сустракаем у актах. Да Крэўскай уніі ў ВКЛ, як можна меркаваць па вядомых крыніцах, у актавых дакументах ужывалася, у пераважнай большасці, візантыйская эра ад СС і вераснёўскі пачатак года. Пры аналізе апублікаваных матэрыялаў Метрыкі і іншых актавых крыніц можна заўважыць, што візантыйская эра ўжывалася ў дакументах, пісаных кірыліцай г.зв. «рускім пісьмом». Пры транслітарацыі гэтых дакументаў з дапамогай лацінкі ў час рэформы канцылярыі ВКЛ ў XVI ст. пісары захоўвалі пазначэнне даты па візантыйскай эры і не рабілі яе рэдукцыю на эру ад РХ. Так, да прыкладу, пазначаны дакумент 1392г.[46] : «6898. Listy ruskiego pisma Swydrygala kx(iążęcia) ku wyczytaniu trudne, pod datą roku oth stworzenia swiata; w miessączu czerwczu» («6898. Лісты рускага пісьма Свідрыгайла к(нязя) для прачытання цяжкія, пад датай года ад стварэння свету у месяцы чэрвені»). [47] Можна меркаваць, што пры капіраванні і разборы дакументаў пісары і дзякі канцылярыі, якія ўжо слаба валодалі летазлічэннем па эры ад СС, а таксама чытаннем кірылічнага паўустава, маглі рабіць памылкі ў перадачы дат або паказваць іх непрымальным спосабам. Так, да прыкладу, памылкова пададзена дата прывілея на вёску Сяльцо, які даў Вітаўт Гіацынту Ланевічу: 6905 г.[48]; спецыфічна запісвалася дата, у якой фігуравала сем тысяч - 700014 год[49] і г. д.

---

[45] Кузьмин, А.Г. Начальные этапы древнерусского летописания. - С.254.

[46] Дата рэдуцыравана паводле вераснёўскага стыля.

[47] Lietuvos Metrika=LithuanianMetrica Литовская Метрика. Kn. 1. (1380-1584) - Vilnus, 1998, № 5 -p.23.

[48] Lietuvos Metrika=Lithuanian Metrica Литовская Метрика. Kn. 1. (1380-1584), № 357 -p.81.

[49] Ibidem - № 188, p.54.

Найбольш разнастайнымі прыёмамі ўжывання эры ад СС і эры ад РХ адрозніваецца XV- пачатак XVI ст. На нашую думку, такая разнастайнасць была наступствам працэсаў геапалітычнай пераарыентацыі ВКЛ: краіна паступова вестэрнізіравалася, успрымала заходнеўрапейскія звычаі, нормы, традыцыі, у тым ліку, і ў лічэнні часу. Кожны з уладцаў меў уласныя звычкі і прыхільнасці ў напісанні даты, пазначэнні ў ёй эры; гэтыя прыхільнасці ўрэшце станавіліся правілам для канцылярыі ВКЛ і Кароны, распаўсюджваліся паступова і на справаводства іншыхураднікаў. У разлік бралася таксама канфесійнае пытанне і даўнія традыцыі ВКЛ. Да пераезду Ягайлы ў Кракаў Польшча, з якой ВКЛ была з 1385 г. звязаная персанальнай уніяй, як і іншыя каталіцкія краіны, лічыла час паводле лацінскай сістэмы. Кракаў, у адрозненне ад Вільні, вёў адлік ад эры ад Раства Хрыстова, ужываў студзеньскі або снежаньскі (ад 25 снежня, Раства Хрыстова) пачатак года, не выкарыстоўваў візантыйскіх індыктаў, а замест нумароў дзён ужываў пазначэнне з літургічнага календара. У каронных дакументах візантыйская эра найчасцей сустракаецца тады, калі яны адрасаваны жыхарам ВКЛ ці апошнія ў іх фігуруюць.[50]Адначасова, да прыкладу, у прысяжных лістах літвінскай шляхты на вернасць Ягайле ўжываецца толькі эра ад РХ.[51] Уласцівасці адрасата, хутчэй за ўсё, абумоўлівалі абранне сістэмы летазлічэння: праваслаўная літвінская шляхта, прысягаючы каралю-каталіку Уладыславу-Ягайлу, датавала дакументы лацінскай эрай, якая ўжывалася кракаўскай канцылярыяй, у сваю чаргу, кароль, пішучы да праваслаўных літвінаў па-старабеларуску, ужываў візантыйскую эру, якая звыклай была для канцылярыі віленскай. Тут, пэўна, уласную ролю адыгрывалі і пісары, якія рыхтавалі дакументы. Такая практыка – улічваць летазлічэнне адрасата захавалася і пасля 1431 г., калі эра ад РХ стала афіцыйным элементам справаводства папскай канцылярыі. Падкрэслім, што эра ад СС выкарыстоўвалася

[50] Ibidem, Kn. 25(1387-1546) -Vilnus, 1998 - № 102, p. 163, № 116, p.175.
[51] Ibidem - №1,2, p.23

толькі ў кірылічных дакументах, у лацінскамоўных жа, нават калі ў іх фігуруюць праваслаўныя, ужывалася эра ад РХ. Таксама датаваны прысяжны і іншыя лісты Івашкі, сына валошскага ваяводы Пятра, адрасаваныя Ягайлу і напісаныя на кірыліцы: «...розства Х(ри)с (то)ва тисѧча лѣт и чотыриста лѣт». [52] З'яўленне Ягайлы ў Кракаве, несумненна, унесла змены ў звыклы для Польшчы парадак летазлічэння. Адзначым, аднак, што візантыйская эра і «рускае пісьмо» ўжываліся разпораз мясцовымі пісарамі і да Крэўскай уніі, бо тут вялася карэспандэнцыя з валашскім землямі, дзе выкарыстоўваліся візантыйскі летазлік і кірыліца. Дзеля гэтых дакументаў вылучалася асобная, гэтак званая «малдаўская канцылярыя».

Спосаб летазлічэння, найперш такі яго элемент, як эра, меў не толькі практычнае, але і палітычнае значэнне. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца датаванне дакументаў пры Казіміры Ягелончыку і ягоным сыне Аляксандры. Абмежаванасць іх улады ў ВКЛ воляю Сойма, буйных феадалаў, адмежаванне на некаторы час ад уніі з Каронай, на нашую думку, адбівалася і на датаванні актаў – у іх ужываецца толькі эра ад СС, або толькі індыкт. Гэта датычыць, найперш, прывілеяў і данін, якія даваліся літвінскім нобілям.[53] Важным тут было і канфесійнае пытанне: візантыйская эра лічылася ў той час эрай праваслаўнай царквы, лацінская – эрай каталіцкага касцёла. Выкарыстанне той ці другой магло разглядацца ў тыя часы як даніна акрэсленай канфесіі, прыхільнасць да адпаведнага веравызнання. У гэтым сэнсе можа тлумачыцца выкарыстанне ўжо архаічнай на той час эры ад СС у фундушавым акце 1517 г., якім жонка Валынскага кашталяна Агап'я Пясечынская са згоды кіеўскага мітрапаліта Солтана закладвала праваслаўны манастыр Св. Троіцы у сваім маёнтку Рэчыцы. Дата ў ім паказаная наступным чынам: «Писан в Берестьи, в лѣто седьмты-

[52] htpp//dziedzictwo. polska. .pl - (дата доступу - 12.02.2011).

[53] LietuvosMetrika=LithuanianMetrica Литовская Метрика. Kn. 3. (1440-1598) - Vilnus, 1998.

сячное двадцать пятое, мѣсяца Априля въ двадцатый день, индикта пятого».[54] Гэтымі ж прычынамі можа тлумачыцца такая ж даціроўка, ужытая дзяканам праваслаўнага Лаўрышаўскага манастыра ў фундушавым акце 1520 г. на дзьве валокі зямлі ў Шчорсаўскай пушчы: «Писанъ въ Новгородцѣ, въ лѣто семь тысечей двадцать девятое, Ноября петьнадцатого, индикта девятого».[55] Гэтыя акалічнасці, хутчэй за ўсё, акрэслілі і напісанне даты на прывілеі, які Кіеўскі архімандрыт Мялецій Храбтовіч даў брэсцкаму праваслаўнаму брацтву: «Въ лѣто отъ созданіа миру семитысящнаго девятдесятъ осмого, а отъ воплощеніа Господа нашего Іисуса Христа тысеча пятсотъ деветдесятъ первого, мѣсеца октябра двадцатъ шестого дня».[56] На жаль, у дадзеным акце адсутнічаюць элементы летазлічэння, якія дазволілі б акрэсліць каляндар, што выкарыстаны Храбтовічам. У 1591 г. у афіцыйным справаводстве ўжо ўжываўся грыгарыянскі каляндар, У дадзеным выпадку паказаны толькі нумар дня, што не дазваляе акрэсліць каляндар.

Эра ад стварэння свету не знікла канчаткова са справаводства ВКЛ і пасля Люблінскай уніі, эпізадычна ўзнікаючы ў дакументах у сувязі з рознымі абставінамі. Датаванне па эры ад СС можна знайсці, у прыватнасці, у магілёўскіх і пінскіх гродскіх кнігах сярэдзіны XVII ст. – у перыяд, калі Беларусь была акупавана маскоўскімі войскамі. Упісы грамат Аляксея Міхайлавіча тут рабіліся з ужываннем візантыйскай эры («от создания миру»), пры тым часам з памылкамі.[57] Паказальна, што

---

[54] АВАК, т.11 – Вильна, 1880. - с.10

[55] Тамсама, с. 11. Рэдукцыя даты зроблена намі з улікам вераснёўскага стылю. Пры публікацыі ў АВАК пры рэдукцыі даты дапушчана памылка, паколькі дадзены акт датаваны 1521 г., што не адпавядае індыкту.

[56] Диариуш берестейского игумена Афанасия Филипповича // Русская историческая библиотека. Т. 4. Памятники полемической литературы в Западной Руси. Кн. 1, СПб., 1878. - столб. 69.

[57] У Пінскай гродскай кнізе за 1662 г. Грамата Аляксея Міхайлавіча аб прыняцці на службу палкоўніка Станіслава Вікенція Орды датуецца 8 студзеня 8064 г. - АВАК, Т.34, Вильно, 1909 - с.233.

эра ад стварэння свету прысутнічае, пераважна, ва ўпісах, справа ў якіх ідзе аб перадачы «царскім вернападданым» маёмасці асоб, якія не прынялі расійскага падданства і выступілі на баку Рэчы Паспалітай.[58] Асобныя запісы магілёўскіх гродскіх кніг у гэты час датаваны па візантыйскай эры без рэдукцыі даты на эру ад РХ.[59]Звычаем таксама было пры ўпісанні ў гродскія кнігі актаў, якія выдадзеныя былі маскоўскімі ўладамі ў час захопу імі земляў ВКЛ, запісваць дату адразу па дзвюх эрах: у пачатку ўпісу магла быць пастаўлена дата па эры ад РХ, у канцы - па эры ад СС.Рэдукцыя дат ад СС на эру ад РХ звычайна не рабілася. Прыкладам такога пазначэння даты можа быць наступнае ўпісанне: «Року 1655, м(еся)ца авъгуста 10 дня... перед райцами и лавниками места Его Царского Величества Могилева, того року на справах заседаючыми, остановивъшы се очевисто его м(и)л(о)сть панъ Миколай Кгельда, войт Могилевъский, сознане свое доброволное до книг меских Могилевских тыми словами учынил, иж што ми од Его Царского Величества привилием датою в в городе Вязме лѣта од создания миру семъ тысячном сотом шестьдесять третим, м(еся)ца декабра двадцат осмого дня списаным...» [60]

Візантыйскую эру выкарыстоўвалі ў сваіх дакументах некаторыя праваслаўныя іерархі. Да сярэдзіны XVI ст. яе маглі ўпісваць таксама праваслаўныя нобілі пры фундушах на праваслаўную царкву[61], тады як просты праваслаўны клір нават у тастаментах мог прастаўляць г.зв. «лацінскую» эру.[62] Пры ўпісанні дакументаў з датай ад СС у гродскія ці земскія кнігі пісары прастаўлялі дзве даты – дату ўпісання па эры ад РХ і дату па візантыйскай эры, пазначаную ў пададзеным да ўпісання дакуменце. Так, да прыкладу, выглядае ўпісанне дарчай князя Яраславіча Пагоскай царкве ў Пінскія гродскія кнігі:

[58] АВАК, т.34, Вильно, 1909 - с.47-48,64.
[59] Тамсама - с.90.
[60] Тамсама. - с.64.
[61] АВАК, т. 33, Вильно, 1908 - с. с.14,15, 21.
[62] Тамсама - с. 5.

«Лета от нароженя Сына Божого тисеча шестсотъ шестдесят осмого июля трыдцатого дня...Писан у Пинску в лѣто по семой тисячы двадъцатого, индикта пятнадцатого, м(еся)ца Апреля двадцат второй денъ»[63]

## Эра ад Раства Хрыстова /РХ/

Дадзеная эра прайшла доўгі час зацвярджэння ў сістэмах еўрапейскага летазлічэння, перш чым прыйсці на беларускія землі. Як вядома, гэтая эра (aera vulgaris) была ўведзена ў 525 г Дыянісіям Малым (Dionisius Exiguus), скіфам па паходжанні, папскім сакратаром, які ў той час займаўся вылічэннем пасхалій.

Дыянісі, абапіраючыся на ўзровень тагачасных ведаў па астраноміі, сістэме летазлічэння, а таксама на прынцыпы вылічэння Пасхі, аднёс дату нараджэння Хрыста да 753 г. ад заснавання Рыму, або да 284 г. па эры Дыяклетыяна.[64] Пры вылічэннях Дыянісі памыліўся на пяць або сем гадоў, што было звязана з узроўнем тагачаснай тэалогіі. Гэтая памылка ніколі не была папраўленая, хаця сённяшні ўзровень як гістарычных ведаў, так і біблеістыкі дазваляе гэта зрабіць. Метады, па якіх праводзілася вылічэнне даты нараджэння Хрыста, неаднаразова падлягалі крытыцы, у вылічэннях Дыянісія Малога шмат недакладнасцей, у тым ліку адносна выкарыстання такіх элементаў лічэння часу, як Круг Месяца, або г.зв. Вялікі Індыктыён. Аднак, нягледзячы на недакладнасць даты, якую прапанаваў Дыянісі Малы ў якасці дня нараджэння Хрыста, ягоная эра прыжылася і сёння з'яўляецца найбольш распаўсюджанай.

У XVIII ст. пачалі ўжываць лічэнне часу да эры ад РХ. Менавіта тады склалася яшчэ адна памылка, якая дасёлета не выпраўленая і з-за якой належыць рабіць карэляцыю пры вызначэнні адлегласці паміж датамі да н.э. і пасля н.э. У да-

[63] Тамсама, с.14.
[64] Введение в специальные исторические дисциплины : учебное пособие. – с.183.

дзеным выпадку не быў уведзены нулявы год. На стужцы часу мы маем сёння 1 г. н.э. і 1 год да н.э. Такім чынам, да прыкладу, ад увядзення Цэзарам юльянскага календара (46 г. да н.э.) да знішчэння Пампеі (79 г. н.э.) прайшло не 125 гадоў, а 124 года.

Эра ад РХ не адразу ўвайшла ва ўжытак. Упершыню яна з'яўляецца ў сістэме летазлічэння ў VII ст. Адным з першых яе выкарыстаў для датавання гістарычнай хронікі Беда Высокашаноўны (Beda Venerabilis) у «Царкоўнай гісторыі англаў». У тэксце гэтай працы ён ужывае датаванні па эры ад стварэння Рыму і паралельна ёй - па эры ад РХ, праўда, рэдукцыя дат не заўсёды дакладная.[65] Упершыню гэтая эра была ўжыта ў якасці афіцыйнай для датавання дакументаў у 607 г. папам Баніфацыем IV, часам яе ўжывалі і пры Яне XII. Трывала яна ўваходзіць ва ўжытак папскай канцылярыі пры Яўгене IV (1431 г.).[66]

Дадзеная эра можа мець разнастайныя стылі – пачатак года тут можа быць як 1 студзеня, так і 25 снежня. Студзеньскі стыль звязаны з антычнай традыцыяй, з сазігенаўскай рэформай і ўвядзеннем юльянскага календара. Гэты стыль часам называюць цывільным (stilus communis), паколькі яго доўга не прызнавалі ні каталіцкая, ні праваслаўная цэрквы, або стылем Абразання Гасподня (stilus Circumcisionis) , бо на гэтую дату прыпадае такое царкоўнае свята. Студзеньскі стыль доўга прыжываўся ў еўрапейскім летазлічэнні. Да XIV ст. ён рэдка ўжываўся ў афіцыйных дакументах і набыў прызнанне ў большасці еўрапейскіх краін толькі ў XVI ст. У Гішпаніі ён быў афіцыйна зацверджаны ў 1556 г., у Даніі і Швецыі – у 1559, у Францыі – у 1563 г., апошнімі на яго перайшлі афіцыйна Германія, папская канцылярыя – у 1691 г. і Венецыя – у 1797 годзе.[67] Паводле меркавання І. Клімішына, у Поль-

---

[65] Беда Достопочтенный. Церковная история народа англов / Пер. с латинского и комментарии В.В.Эрлихмана. - СПб.: Алетейя, 2001.

[66] Климишин И.А. Указ. соч., с.250

[67] Введение в специальные исторические дисциплины :Учебное пособие / - с.183-184.

шчы студзеньскі стыль стаў ужывацца з 1364 г.[68] Б.Уладарскі высоўвае больш асцярожнае меркаванне, адзначаючы, што ўпершыню студзеньскі стыль сустракаецца ў кракаўскіх гродскіх кнігах у 1319 г. і на працягу ўсяго XIV ст. паступова выцясняе снежаньскі. Але яшчэ ў канцы гэтага стагоддзя яго можна сустрэць у асобных дакументах, складзеных на ўскраінах краіны.[69]

Што ж датычыць снежаньскага стылю, гэты стыль быў вельмі папулярны ў сярэднявечнай Еўропе. Побач з Дабравешчанскім (25 сакавіка) і Пасхальным (ад дня Пасхі), ён вельмі часта сустракаецца ў дакументах многіх еўрапейскіх краін. На думку Ю. Шыманскага, менавіта снежаньскі стыль ужывала кракаўская канцылярыя ў час пераезду ў Кракаў Ягайлы. Польскі навуковец адзначае, што даследчыкі рэдка звяртаюць увагу на гэтую акалічнасць, бо памылка пры ігнараванні стылю складае толькі 7 дзён.[70] Мы ўсё ж такі схільны прыняць вышэй прыведзенае меркаванне Б. Уладарскага, што кракаўская канцылярыя ўжо перайшла на пачатак года не са снежня, а са студзеня.

Для Беларусі снежаньскі стыль, на нашую думку, увасобіўся ў народнай назве свята Раства Хрыстова – Каляды. Сваё паходжанне дадзеная назва бярэ ад старажытнарымскага пазначэння ***першага*** дня месяца – календы. 25 снежня не з'яўлялася ***першым*** днём месяца, але снежаньскі стыль рабіў гэты дзень пачаткам новага года, ці, карыстаючыся народным меркаваннем, пачаткам новага календара. Вельмі верагодна, што менавіта гэтая акалічнасць выклікала ўзнікненне такога пазначэння гэтай даты – календы. Можна меркаваць, што гэтая назва была перанесена праз каталіцтва і на беларускія землі. Узнікненне народнай назвы – Каляды, на нашую думку, магло такім чынам адбыцца не раней XIII ст., калі пачынаюць

[68] Климишин И.А. Указ. соч., с. 260.
[69] WłodarskiB. Dz.cyt, s.67-68.
[70] Szymański J. Dz.cyt., s. 128

узмацняцца сувязі з Польшчай, а таксама складваюцца кантакты з Ордэнам, дзе снежаньскі стыль быў у той час пануючым.

Эра ад РХ пачала шырока распаўсюджвацца на беларускіх землях пасля Крэўскай уніі і пераезду Ягайлы ў Кракаў[71]. У Кароне ў гэты час эра ад Раства Хрыстова была звычайным элементам летазлічэння, яна вядома ўжо ў самых ранніх напісаных ў Польшчы календарах і пасхаліях. Яна на той час была асноўнай ў актавых дакументах. З пераездам Ягайлы ў Кракаў каронная канцылярыя ў ліставанні з Вільняй ужывае як эру ад РХ, так і эру ад СС, у залежнасці ад характару дакумента і адрасата.

Эра ад РХ, безумоўна, была вядомая на беларускіх землях і да Крэўскай уніі – яе выкарыстоўвалі не толькі саюзнікі-палякі, але і крыжакі. Пры тым трэба памятаць, што дакументы, у першую чаргу, дагаворы з Ордэнам, могуць быць напісаныя з ужываннем снежаньскага стылю. У дадзеным выпадку, як правіла, лацінскамоўныя тэксты датаваліся менавіта па гэтым стылі, кірылічныя ж іх копіі, ці г. зв. «проціўні» - па стылі, які ў той час ужываўся на беларускіх землях (вераснёўскі, калі дата па эры ад СС)[72].

У лацінскамоўных дакументах назва эры ад РХ гучыць па-рознаму: «annus Domini» (год Госпада); «annus ab nativitate

---

[71] Ю. Шыманьскі адзначае, што эра ад РХ пачала ўжывацца ў Полацку,Смаленску і ў Галічы яшчэ ў 13 ст., але прыкладаў такога ўжывання не прыводзіць(SzymańskiJ.Dz.cyt., s. 128.) Дакументальных сведчанняў такога ранняга ўжывання гэтай эры намі не знойдзена, магчыма, эра ад РХ магла ўжывацца пры ліставанні з Ордэнам, але паколькі і Полацк, і Смаленск, і Галіцкая землі з'яўляліся ў той час праваслаўнымі, каталіцкая эра ад РХ не магла набыць тут перавагу ці замацавацца ў справаводстве і летапісанні.

[72] Ліцкевіч, А. Дагаворы паміж князямі ВКЛ, нобілямі Жамойціі і прадстаўнікамі Тэўтонскага ордэна ў Прусіі і Лівоніі (1367-1398 гг.)/ А.Ліцкевіч // «ARCHE», № 10, 2010 - с 39-129; ; №12, 2010 - с.312; Хорошкевич, А.Л. Договоры Полоцка 1405-1406 гг. как источник по истории его внешней торговли и тоговой политики. /А.Л. Хорошкевич// Археографический ежегодник за 1962 г. - М, 1963 - с. 92-97.

Domini» (год ад нараджэння Госпада»; «annus ab verbi incarnati» (год ад увасаблення слова); «annus gratiae» (год ласкі [Гасподняй])»; «anno dominicae», «anno in incarnatione Domini» (год ад увасаблення Госпада) і інш. У кірылічных дакументах, якія напісаныя на беларускіх землях, дадзеная эра можа пазначацца як кірылічнымі лічбамі, так і словамі. Дастаткова часта ўжывалася камбінаванае напісанне, у якім тысяча і сотні гадоў пісаліся словамі, а дзесяткі і адзінкі - кірылічнымі лічбамі. Сустракаюцца і іншыя напісанні падобнай даты: «Данъ в Луцьку, по*д* ле*т* Исус Х(ри)с(то)во рождества 1000 ле*т* 400 шес*т*десять 1-е лето».[73] Існавала таксама традыцыя не згадваць тысячы пры напісанні даты. Гэта было ўласціва як тым, хто карыстаўся эрай ад СС, так і тым, хто пісаў даты па эры ад РХ: « В року теперь идучом осмъдесятъ втором м(е)с(я)ца июня четвертого дня, в понеделок»[74]. У сувязі з гэтым трэба зважаць на сотні і тысячі гадоў, каб акрэсліць, па якой эры пададзена дата.

Цікавыя назіранні за выкарыстаннем дзвюх эр – эры ад СС і ад РХ – дае аналіз даціроўкі ліставання ВКЛ, а затым Рэчы Паспалітай з Масковіяй. Каштоўнай крыніцай для такога аналізу можа служыць вопіс архіва Пасольскага прыказа, зроблены ў 1626 г.[75] Пры пажары, які здарыўся ў гэтай установе, быў моцна пашкоджаны архіў, таму дзякам было загадана зрабіць вопіс таго, што захавалася, адзначаючы стан дакумента, яго асноўны змест і дату. Асобную частку архіва складалі г.зв. «літоўскія справы», дакументы якія ахоплівалі XIII – канец XVI стст. У Масковіі эра ад СС была скасаваная толькі ў 1700 г., Дзякі, робячы вопіс, як можна лічыць па каментарыях да дат, іх рэдукцыю не рабілі. Разам з тым нельга

[73] Lietuvos Metrika=LithuanianMetrica Литовская Метрика. Kn. 25. (1387-1546) - № 240, p.292.

[74] АВАК, т 36, Вильно, 1912. - с.128.

[75] Опись архива Посольского приказа 1626 года / Подгот. В.И. Гальцов; под ред. С.О.Шмидта. Ч. 1. М., 1977. - сс. 32-37; 84-111; 228-235; 289-291; 346-347.

не браць пад увагу, што дакументы пры паступленні ў прыказ маглі рэгістравацца датай ад СС, і пасля менавіта яна трапіла ў згаданы вопіс. Аднак, нават беручы ў разлік такую сітуацыю, матэрыялы вопісу даюць дастаткова выразную карціну выкарыстання эр у ліставанні паміж дзвюма дзяржавамі, а таксама змен у сістэме летазлічэння на беларускіх землях. Да пачатку XVI ст. акты і граматы, у тым ліку пагадненні, прысягі, дамовы, тут датуюцца з дапамогай эры ад СС. Так, 6902 г. (1393/94/95) датуецца даканчальная грамата Дмітрыя Іванавіча (Данскога) і ягонага брата Уладзіміра з Ягайлам, Скіргайлам і Карыбутам[76]; 25 студзеня 6930 г. (1421/1422/1423) пазначана даканчальная грамата Свідрыгайлы і ноўгарадскага біскупа Яўфімія і пасаднікаў[77]; 7016 г. (1508/1509) датаваны ліст Івану III ад Міхала Глінскага[78]. Праўда, у апошнім выпадку дата напісана іншымі чарніламі і можа быць неаўтэнтычнай. Першай датай, напісанай з дапамогай эры ад РХ, з'яўляецца 16 красавіка 1513 г. Так датаваны не міждзяржаўны дакумент, а прывілей Жыгімонта, дадзены жыхарам Смаленска па просьбе смаленскага ўладыкі Варсанофія і мясцовых ураднікаў[79]. У міждзяржаўных дакументах дадзенага вопісу ўпершыню эрай ад РХ датаваны дагавор аб полацкіх землях, які павінен быў рэгуляваць адносіны паміж дзяржавамі да часу прыезду ў Маскву паслоў ад ВКЛ, ён пазначаны «от рождества Христова лета 1542-го»[80]. У час Лівонскай вайны паміж дзвюма варагуючымі дзяржавамі ішло ажыўленае ліставанне, дасылаліся паслы, вяліся перамовы. У перыяд, калі з Іванам IV вёў перамовы Жыгімонт Аўгуст, абедзве эры сустракаюцца ў дакументах, але эра ад РХ выкарыстоўваецца часцей. Невялікая колькасць дакументаў, якія засталіся з часоў Генрыха Валуа, датуецца, за рэдкім выключэннем, заходнееўрапейскай эрай.

[76] Опись архива Посольского приказа 1626 года - с.35
[77] Тамсама - с.84.
[78] Тамсама - с.85.
[79] Тамсама.
[80] Тамсама - с.87.

Пераважае яна і ў перапісцы і дамовах у часы Стэфана Баторыя. З апошняй чвэрці XVI ст. літвінскія дакументы, якія пазначаны ў дадзеным вопісе, датаваны толькі эрай ад РХ.

Паказальна, як маскоўскія дзякі называюць эры, якія напісаны ў згаданых дакументах. У адным з запісаў вопісу эра, якая выкарыстоўваецца ў Маскоўскай дзяржаве, звязваецца са «стварэннем свету» : «...с лета от созданія міру 7090-го году: на 10 лет»[81]; у некалькіх месцах яна названая эрай ад Раства Хрыстова: «...от Рождества Христова лета 7031-го до рождества ж Христова лет 7036»[82]; «Писана от рождества Христова лета 7566-го году».[83] Вельмі часта маскоўскія дзякі называюць эру ад РХ літоўскай: «Лета по-литовски от рождества Христова 1574-го году месяца апреля в 30 день»[84]; «Лета политовскии 1577-го месяца марта в 10 день»[85]; «Даты писаны по-литовски, от рождества Христова 1581-го году месяца февраля 14 день»[86].

Тое, што эра ад РХ асацыявалася ў свядомасці жыхароў Маскоўскай дзяржавы менавіта з ВКЛ і Рэччу Паспалітай можа быць звязана таксама з карыстаннем ёю палонных і вывезеных у час войн майстроў. Расійскі даследчык А.Аўдзееў, аналізуючы надпісы на будоўлях у Маскве і яе бліжэйшых ваколіцах, зробленыя ў XV-XVIII стст., адзначае, што менавіта з сярэдзіны XVII ст. у іх з'яўляецца падвойная даціроўка. Дойліды пакідаюць дату пабудовы ці закладкі будынка як па эры ад СС і верасьнёўскім стылі, так і дату па эры ад РХ і студзеньскім стылі.[87] Пры тым у апошнім выпадку выкарыстоўваецца юльянскі каляндар, які ў гэты час ужываўся побач з эрай ад РХ праваслаўнымі і ўніятамі беларускіх і ўкраінскіх земляў.

[81] Тамсама - с.100.
[82] Тамсама. – с. 85-86
[83] Тамсама. - с.89.
[84] Опись архива Посольского приказа 1626 года. - с.91.
[85] Тамсама - с.93
[86] Тамсама. - с.96.
[87] Авдеев А.Г. Календарь строительных надписей Москвы и Подмосковья конца XV – началаXVIII в.// Календарно-хронологическая культура и проблемы ее изучения. – с.77.

Побач з гэтымі дзвюма эрамі ў актавых дакументах сустракаецца датаванне з дапамогай гадоў праўлення манарха. Гэтая традыцыя запазычана была еўрапейскімі краінамі з антычнага Рыму. Упершыню для датавання дакумента дата праўлення была ўжытая Юстыніянам І у 537 г.[88] і пасля набыла шырокае распаўсюджанне. Падобнае пазначэнне даты сустракаецца ў актавых дакументах часоў Казіміра, Аляксандра, Жігімонта Старога, Яна Казіміра. Менавіта з канца XIV ст. яна ўваходзіць ва ўжытак і ў кароннай, і ў літоўскай канцылярыях.

Традыцыя датаваць дакументы з дапамогай года пантыфіката была характэрна для папскай канцылярыі. Гэты звычай увёў ва ўжытак папа Адрыян І (792–795 гг.); дата пантыфіката пісалася поруч з датамі праўлення імператараў. У часы Льва IX (1048–1054 гг.) даты праўлення свецкіх манархаў перасталі ўжывацца, і дакументы датаваліся толькі гадамі ад пантыфіката.[89] Да ўвядзення ва ўжытак і замацавання ў XV ст. эры ад РХ папская канцылярыя менавіта так датавала свае дакументы, таму, калі ў падобнай крыніцы не згадваецца імя папы, бывае цяжка акрэсліць, які год яе стварэння. Прыклад датавання з дапамогай згадкі пантыфіката знаходзім у тастаменце Зоф'і Гальшанскай, удавы Аляксандра князя Гальшанскага: «W Wołpie, we dworze sądowym, po obiedzie, w piąthek pierwszego maia, indyct 5, papiestwa naswętszego w Chrystusie Oyca. Pana Pana Pana naszego, Lwa z Bozego przeyzrzenia Papieza Dziesiątego, Szcząsliwie będącego». («У Воўпе, у судовым двары, па абедзе, у пятніцу першага мая, індыкт 5, пантыфіката найсвяцейшага ў Хрысце Айца. Пана Пана Пана нашага, Льва з Божай ласкі Папы Дзясятага шчасліва будучага».[90]

Пры датаванні з дапамогай гадоў праўлення манарха звычайна згадвалася, да якой дзяржавы стасуецца пазнача-

---

88 Szymański J. Dz. cyt. - s. 129.

89 Ibidem.

90 Lietuvos Metrika=Lithuanian Metrica Литовская Метрика. Kn. 1. (1380-1584) - p.125-126

ная дата панавання, што станавілася абавязковым, калі даты ўваходжання на пасаг у розных краінах не супадалі: «W Wilnie, we wtorek, w wigiliią s(więtego) Jana Baptysty. Panowania roku piątego» («У Вільні, у аўторак напярэдадні с(вятога) Яна Баптыста. Панавання пятага года)[91] (Аляксандр, 1506 г.); «Roku pańskiego tysąc szejsetszesćdziesiąt pierwszego, panowania krolewstwa naszych Polskiego y Szwiedskiego trzynastego roku» («Года Панскага тысяча шастсот шасцядзясят першага, панавання каралеўстваў нашых Польскага і Шведскага трынаццатага года».)[92]; «Dan w Warszawie, na seymie roku Panskiego MDCL miesiąca Stycznia dnia dwunastego, panowania na szego Polskiego pierwszego, Swedskiego wtorego roku» («Дадзены ў Варшаве на сейме года Гасподня 1650 месяца студзеня дня дванаццатага, панавання нашага Польскага першага, Шведскага другога года)[93] (Ян Казімір).

У савецкі час эра ад РХ атрымала назву «наша эра» – тое, што яна пачатковым пунктам мае нараджэнне Хрыста, не згадвалася, што было абумоўлена панаваннем ідэй ваяўнічага атэізму ў СССР.

Яшчэ адной эрай, якая існавала на Беларусі, але, праўда, не набыла шырокага распаўсюджання, з'яўлялася г.зв. Савецкая эра, або эра ад Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яна была прапанаваная ў 1920-я гады як альтэрнатыва эры ад РХ у межах барацьбы з рэлігіяй у СССР. Пачатковым пунктам дадзенай эры было 7 лістапада (па грыгарыянскім календары). Да пачатку 1990-х гадоў летазлічэнне па дадзенай эры можна сустрэць у друкаваных календарах побач з датай па эры ад РХ. Ідэя ўвесці новую эру, пачатковым пунктам якой былі палітычныя падзеі, запазычаная ў гісторыі летазлічэння Францыі. 21 верасня 1793 года Нацыянальны Канвент прыняў новую сістэму летазлічэння, згодна з якой адлік гадоў павінен быў весціся

---

[91] Ibidem. -№ 22, p.27

[92] АВАК, т. 34 - с.195.

[93] АВАК, т. 33 - с. 375.

менавіта ад гэтай даты. Гэтая т.зв. Эра Свабоды таксама была скіравана на адмову ад рэлігійнай сутнасці былога летазлічэння і традыцый манархічнай феадальнай Францыі.



Во имя с(вя)тое троици аминь к вечной памяти и к вечи высокая княжата рада
оуставила што бы безрадство и неоуставность межи речей што ся
имуть дѣяти потом пакости бы не было оуставили на то твердости гра
моты и сведоцсви выкладаючи знамя иж бы то было вечно протом мы Жикги
монт Б(о)жью милостью великий кн(я)зь литовский жомойтский руский и иных
вызнаваем сею грамотою всем кому надобно есть нинешним людем и ко
торый потом будуть который сю грамоту нашу оузрять или оуслышать чтучи
иже мы хотячи и жадаючи што бы нашому местцу Вилни всим там што оу нем живуть..
....... Дан оу троцех в городе нашом по лѣтам ... тисяча
чотыриста тридцать второго семтя(бря) КЗ ин(дикта) ...

Індыкт, пэўна, з'яўляецца адным з найбольш цікавых элементаў летазлічэння. У адрозненне ад іншых складаючых гэтай сістэмы індыкт не быў напрасткі звязаны з астранамічнымі з'явамі ці зменамі ў стане навакольнага асяроддзя. Яго існаванне, ўжыванне і трансліраванне абумоўлена было, амаль выключна, традыцыяй. Індыкт быў патрэбны тады, на нашую думку, калі лічэнне часу яшчэ не было дастаткова ўнармавана, калі існавалі некалькі сістэм летазлічэння, якія ўжывалі розныя пачатковыя пункты – эры. Індыкт меў адносна дыскрэтны характар, бо звычайна не згадвалася пачатковая кропка адліку індыктамі. Індыкт у пачатку свайго ўзнікнення быў цесна звязаны з гаспадарчым жыццём, арыентаваўся на дэмаграфічныя рытмы, што таксама спрыяла яго распаўсюджанню і захаванню.

Індыкт – парадкавы нумар года ў пятнаццацігадовым цыкле. Часам індыктам называюць і сам пятнаццацігадовы цыкл, але часцей пятнаццацігоддзе называюць індыктыёнам. Пры датаванні з дапамогай індыкта парадкавы нумар індыктыёна не згадваўся, а пазначаўся толькі нумар індыкта (года) у дадзеным пятнаццацігадовым цыкле. Лічэнне пятнаццацігоддзямі мае даўнюю гісторыю.

Паходжанне назвы гэтай адзінкі звязана з лацінскім словам «абвяшчэнне» (indiktiōn) і падатковай сістэмай, якая існавала ў Рымскай імперыі. Раз у пяць гадоў насельніцтва павінна было выплачваць дзяржаве прадуктовы падатак (ён мог плаціцца і грошамі), а раз на пятнаццаць гадоў рабілася пераацэнка маёмасці, з якой гэты падатак выплачваўся. Заблытаная сістэма летазлічэння, у якой за пункт адліку браліся праўленні імператараў ці консулаў, ці іншыя эры, не была зручнай для падаткаплацельшчыкаў; больш зразумелым і надзённым для іх быў адлік па гадах, калі трэба рабіць чарговую плату дзяржаве. Як піша Э.Бікерман, з другой паловы IV ст. н.э. індыкцыя (час выплаты падаткаў) згадваецца ва ўсіх тыпах дакументаў імперыі, у тым ліку не звязаных з па-

даткаабкладаннем. На ягоную думку, падобнае лічэнне магло прыйсці з Егіпта, дзе было зацверджана ў 297 г.[94] У 312 г. адлік з дапамогай індыктаў быў замацаваны ў якасці адзінкі летазлічэння імператарам Канстанцінам. Лічэнне індыктамі вялося паралельна з лічэннем гадамі, лічба індыкта (парадкавы нумар дадзенага года ў пятнаццацігадовым цыкле) магла пісацца побач з нумарам года ад акрэсленай эры.

У гісторыі летазлічэння вядомы некалькі індыктаў, іх адрозненне абумоўлена перш за ўсё днём, калі змяняецца нумар індыкта. У Заходняй Еўропе ў часы сярэднявечча быў распаўсюджаны так званы папскі індыкт. Гэты індыкт, ужываючы лічэнне пятнаццацігоддзямі, мяняў нумар года ў індыктыёне 1 студзеня – разам з пачаткам новага юльянскага каляндарнага года; або 25 снежня – таксама з пачаткам новага года, але па снежаньскім стылі. Такі індыкт можна сустрэць у дакументах папскай канцылярыі ў XII ст.

У XI ст. у еўрапейскіх дакументах можна сустрэць імператарскі індыкт, які таксама называюць індыктам Беды (Caesariana; indictio Bedana) па прозвішчы англійскага манахахраніста, які ўвёў яго ва ўжытак. У індыкце Беды нумар індыкта змяняецца 24 верасня. Абраная дата змены індыкта была звязана з восеньскім раўнадзенствам.

Апарача гэтых маглі ўжывацца і мясцовыя варыянты лічэння індыктамі. Так, у Сіене існаваў *indictio Senensis,* у якім змена нумара індыкта адбываецца 8 верасня. У Генуі змена індыкта адбывалася 24 верасня, але нумарацыя індыктаў была парушана і не супадала з агульнаўжыванай.[95]

Шырока распаўсюджаны быў так званы грэчаскі (візантыйскі) індыктыён (Constantinopolitana або indictio Graeca), у якім змена індыкта наступала да сярэдзіны V ст. з 25 верасня, а пасля – з 1 верасня. Гэты індыктыён выкарыстоўваўся ў антычным Рыме, хаця і там яго пачатак не быў устойлівым.

[94] Бикерман Э. Хронология древнего мира. - С. 73.

[95] Введение в специальные исторические дисциплины :Учебное пособие. -С.182

У Егіпце, які ў той час уваходзіў у склад Рымскай імперыі, індыкт мог змяняцца летам, калі абвяшчалі чарговы збор падаткаў.[96]

Лічэнне індыктамі, як спадчына антычнага Рыму, праіснавала ў еўрапейскай традыцыі да пачатку 19 ст. – да распаду ў 1806 г. Свяшчэннай Рымскай імперыі, у якой дадзеная адзінка, не гледзячы на яе архаічнасць і практычную непатрэбнасць, сімвалізавала пераемнасць даўняй імперскасці. Грэчаскі індыкт часам называюць візантыйскім індыктам, бо ён цесна звязаны з візантыйскай эрай ад Стварэння Свету і вераснёўскім стылем: пачатковым пунктам адліку пятнаццацігадовых цыклаў у ім абраны 5509 г. да эры ад РХ. Менавіта гэты індыкт быў успрыняты на ўсходнеславянскіх землях разам з хрысціянствам па праваслаўным абрадзе і стаў найболей тут ужываным.

Як адзначае А.Кузьмін, у першыя стагоддзі пасля прыняцця хрысціянства лік індыктамі не быў шырока распаўсюджаны на землях усходніх славянаў. Уменне вылічваць індыкт у тыя часы сведчыла аб адукаванасці перапісчыка ці летапісца. Спецыфіка выкарыстання індыктаў, на яго думку, можа быць «пуцяводнай ніткай» для атрыбуціравання тэкстаў, вызначэння іх аўтара ці перапісчыка[97]. Паказальна ў гэтым сэнсе рэдкае ўжыванне індыкта ў адным са старажытнейшых летапісаў – «Аповесці мінулых гадоў». Тут індыкт пры даціроўцы падзей згадваецца толькі 7 або 8 разоў (колькасць адрозніваецца ў Іпацьеўскім і Лаўрэнцьеўскім спісах).

Летапісцы і храністы на беларускіх землях увогуле рэдка выкарыстоўвалі індыкт пры даціроўцы падзей. Гэта, магчыма, было звязана з характарам крыніц, якія яны прыцягвалі пры стварэнні сваіх твораў. Аналіз найбольш вядомых

[96] Бикерман Э. Указ. соч, с.73.

[97] Кузьмин, А.Г. Начальные этапы древнерусского летописания. -с.283

летапісаў і хронік, якія сёння выкарыстоўваюцца ў айчыннай гістарыяграфіі, дае наступную карціну ўжывання індыкта.

У летапісах Нікіфараўскім, Супраскім, Акадэмічным, Слуцкім, Альшэўскім, Віленскім, Еўраінаўскім, Красінскага, Археалагічнага таварыства, Рачынскага, Баркулабаўскім, Хронiцы Літоўскай і Жамойцкай індыкт не ўжываецца.[98] Паказальна ўжыванне індыкта ў Румянцаўскім летапісе. Да 1492 года (7000 г. па эры ад СС) даціроўка ідзе без індыктаў. Пасля даюцца дакладныя індыкты трох дат. У кароткім хранографе, які завяршае летапіс, яшчэ адна дата – дзень смерці жонкі Жігімонта Аўгуста Эльжбеты, даецца па двух эрах з узгадваннем індыкта (7053 па эры ад СС, 1545 па эры ад РХ, індыкт трэці).[99] Тую ж карціну назіраем і ў Валынскім кароткім летапісе: першы індыкт тут згадваецца адносна 1491 г. (6999 г. па эры ад СС) і затым спарадычна з'яўляецца ў датах да 1543 года (7052 г. па эры ад СС, індыкт другі).[100] У апошняй даце індыкт названы «індыктыёнам»[101].

Больш шырокае распаўсюджанне атрымаў індыкт у актавых дакументах. Гэта, на нашую думку, абумоўлена некалькімі акалічнасцямі. Калі летапісцы і храністы вялі запісы спарадычна, карысталіся рознымі крыніцамі, у тым ліку звесткамі, якія не ўтрымлівалі дакладнай даты, дык акты абавязкова павінны былі датавацца, а з часоў станаўлення ВКЛ як дзяржавы, справаводства станавілася неад'емнай часткай жыцця, акты афармляюцца часта, складаецца іх фармуляр. Ужыванне індыкта, апрача таго, сігналізавала аб палітычнай, канфесійнай сітуацыі на беларускіх землях, часам мела знакавы характар для тых, хто выдаваў акты ці іх атрымліваў. Ужы-

[98] Летапісы і хронікі Беларусі. - с. 47-164; 170-202, 264-360; 376-571.
[99] Тамсама, с.261, 262.
[100] Пры публікацыі ўказана няслушная дата 1544 г. Пры рэдукцыі не было ўлічана, што падзея адбываецца ў верасні, і розніца паміж эрамі складае не 5508, а 5509 гадоў (вераснёўскі стыль).
[101] Валынскі кароткі летапіс.// Летапісы і хронікі Беларусі. - с.375.

ванне індыкта ў справаводстве эвалюцыянавала, трансфармавалася ў сувязі з засваеннем еўрапейскай (лацінскай) сістэмы летазлічэння і еўрапейскага актавага фармуляра.

Як можна меркаваць па матэрыялах Метрыкі ВКЛ, да XVI ст. індыкт быў, бадай што, абавязковым элементам датавання актаў. Дастаткова часта ён ужываўся замест нумара года. У гэтым выпадку тапаграфічная і храналагічная даты маглі выглядаць наступным чынам: «Datum w Trokach, dnia 21 miesiącaczerwca, indykta 15»[102]; « П(и)санъ у Горо*д*не, фе*в*(раля) 18 де*н*, инъдикта 12»[103]; «П(и)санъ у Кракове, апрел 16 де*н,* инъдикта 15»[104] і інш.

Абавязковасць пазначэння індыкта звязана была, на нашую думку, з паходжаннем і вераспавяданнем уладцы, а таксама пісараў і вярхоўныхураднікаў. Так, пры Жыгімонце Старым у польскамоўных дакументах, якія выдаваў ці падпісваў кароль і вялікі князь, індыкты не сустракаюцца. Гэта можна растлумачыць звыкласцю Жыгімонта, які да сталых гадоў жыў у Польшчы, да лацінскай сістэмы летазлічэння, у якой візантыйскі індыкт не ўжываўся. Як правіла, індыкты ў гэты час шырока распаўсюджаны ў кірылічных дакументах; абавязкова яны пазначаны там, дзе акт візіравалі пісары Сапега, Копаць, Богуш-Багуцінавіч.

Традыцыя лічэння індыктамі, прыйшоўшы на землі ВКЛ разам з праваслаўем, выглядала арганічнай адзінкай лічэння часу толькі ў візантыйскай сістэме. Нумар года і нумар індыкта ў ёй змяняліся адначасова – у верасні, а адлік індыктаў пачынаўся, так, як і эра – ад стварэння свету. Але паступовае выцісканне візантыйскай эры і вераснёўскага стылю лацінскай сістэмай летазлічэння, у якой год змяняўся 1 студзеня (або ў шэрагу выпадках 25 снежня), а адлік вёўся на эры ад

[102] Lietuvos Metrika=Lithuanian Metrica. Литовская Метрика. Kn. 1. (1380-1584) - s.37.

[103] Тамсама, Kn. 25. (1387-1546) - s. 83.

[104] Ibidem -s. 89.

РХ, рабілі грэчаскі індыкт чужародным элементам новага пазначэння дат. Нягледзячы на гэта, індыкт актыўна ўжываўся да сярэдзіны XVI ст., калі эра ад РХ і студзеньскі стыль ужо занялі дамінуючае месца ў летазлічэнні.

Пакуль што нельга сказаць з дакладнасцю, пачынаючы з якога года індыкт знікае са справаводства ў ВКЛ. К.Ш.Станг заўважае, што гэта адбылося прыкладна ў 1550 г.[105] Можна меркаваць, што знікненне індыкта з фармуляра дакументаў Віленскай канцылярыі было звязана з яе рэформай у 1540-я гады, калі быў ліквідаваны падзел на рускіх і лацінскіх пісараў. Аднак вызначыць дакладны год, калі індыкт перастаў ужывацца ў іншых літвінскіх урадах, магдэбургіях і г.д., а таксама ў прыватных актах і дакументах, немагчыма. Многае залежала ад асобы пісара, ад месца, урада і акалічнасцяў стварэння дакумента. Але, ва ўсякім выпадку, сярэдзіна XVI ст. была часам, калі і гэты элемент візантыйскай сістэмы летазлічэння канчаткова перастаў быць абавязковым пры датаванні афіцыйных дакументаў.

Аб тым, як эвалюцыянавалі адносіны да выкарыстання індыкта ў актавым фармуляры, сведчыць колькасць памылак у яго вылічэннях. Паколькі нумар індыкта змяняўся ў верасні, а нумар года – у студзені, пісар павінен быў увесь час весці «падвойны лік». Калі звычкі да такога лічэння часу не было, у вылічэнні магла закрасціся памылка. Між іншым, цяжкасці ў выкарыстанні індыкта пры датаванні падзей, на думку А.Кузьміна, былі абумоўлены менавіта рознасцю эр і стыляў, якія выкарыстоўваліся на славянскіх землях з першых гадоў пасля прыняцця хрысціянства. Так, у «Аповесці мінулых гадоў», стваральнікі якой чэрпалі звесткі з розных пісьмовых крыніц, выкарыстоўваюцца як візантыйскі індыкт, так і антыахійская, александрыйская і іншыя эры, што

---

105 Станг, К.Ш. Заходнеруская канцылярская мова Вялікага Княства Літоўскага/ К.Ш. Станг// «ARCHE», 2010, №. 6 - с.171.(127-297).

выклікае няўзгодненасць дат і стракатасць храналогіі[106]. У XIV-XV стст. памылкі ў выкарыстанні індыкта сустракаюцца параўнальна рэдка, звыклым было таксама ўжыванне нумара індыкта замест нумара года пры датаванні дакументаў. Паказальна, што індыкты ў гэты час пазначаліся як у кірылічных старабеларускіх, так і ў польскамоўных дакументах, напісаных лацінкай. У лацінскамоўных дакументах, як можна меркаваць па матэрыялах Метрыкі, візантыйскі індыкт не ўжывалі. Сітуацыя змяняецца ў XVI ст. Цяпер памылкі ў вызначэнні індыкта становяцца вельмі частымі, пры тым пісары памыляюцца на некалькі адзінак, часам проста не пішуць нумар індыкта, а толькі само слова «індыкт». Між іншым, літоўскія гісторыкі, публікуючы матэрыялы Метрыкі, улічылі гэтую акалічнасць і ўнеслі папраўленыя нумары індыктаў у заўвагі. З падобнай праблемай сутыкнуліся таксама А.Х.Вастокаў і К.Ш.Станг, аналізуючы копію літоўскай граматы, датаваную 6845 г. і чацьвёртым індыктам. Падаецца, што належыць пагадзіцца з іхняй высновай аб больш познім стварэнні дадзенага дакумента, якая грунтуецца, між іншым, на тым, што ў XIV ст. памылкі ў выкарыстанні індыкта сустракаюцца дастаткова рэдка[107].

На слушнасць і абавязковасць выкарыстання індыкта пры датаванні дакументаў, як можна меркаваць, уплываў і парадак вядзення спраў у вялікакняскай канцылярыі. Як адзначае А.Груша, у другой чвэрці XVI ст. нярэдкімі былі выпадкі, калі кірылічныя дакументы афармляў «лацінскі» пісар[108]. Можна меркаваць, што ў гэтым выпадку індыкт мог не пазна-

---

[106] Станг, К.Ш. Заходнеруская канцылярская мова Вялікага Княства Літоўскага- с.171(127-297).

[107] Тамсама, с.141.

[108] Груша, А. Службовы склад і структура канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага 40-х гадоў XV-першай паловы XVI ст. /А. Груша// METRICIANA Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Т.І - Мінск, 2001. - с. 26-27(11-45).

чацца або пазначацца памылкова, паколькі ў польскамоўных дакументах у гэты час ён не з'яўляўся абавязковым элементам фармуляра, і «лацінскі» пісар не меў звычкі да яго вылічэння і выкарыстання. Думаецца, што аналіз ужывання індыктаў пісарамі канцылярыі мог бы стаць дадатковым індыкатарам вызначэння аўтарства дакументаў.

М.Улашчык, аналізуючы слушнасць ужывання індыктаў і іншых элементаў даты ў летапісах, адзначаў, што часам памылкі маглі быць выкліканы невыразным напісаннем кірылічных літар-лічбаў у крыніцы, якой карыстаўся летапісец [109].Можна меркаваць, што частка памылак у актавых дакументах, найперш дакументах Метрыкі, якія дайшлі да нас у копіях, таксама тлумачацца невыразнасцю літар-лічбаў у арыгіналах.

У Маскоўскай дзяржаве, як вядома, да 1700 г. ужываўся вераснёўскі стыль, і выкарыстанне грэчаскага індыкта са зменай у верасні было арганічнай часткай сістэмы летазлічэння. Табліцы, складзеныя расійскімі даследчыкамі для вылічэння года па індыкту, разлічаны менавіта на такі парадак летазлічэння. У большасці падручнікаў па гістарычнай храналогіі, выдадзеных у Расіі і СССР, не агаворваецца методыка працы з індыктамі, калі яны ўжываюцца побач з эрай ад РХ і студзеньскім пачаткам года. Калі ж і маецца падобная згадка, яна носіць маргінальны характар [110]. У беларускай гістарыяграфіі, на жаль, пакуль што не існуе спецыяльнай работы, прысвечанай гэтай адзінцы летазлічэння, а таксама метадам дэдукцыі і рэдукцыі дат з дапамогай індыктаў. Да сённяшняга дня застаецца актуальнай праца М.Гарбачэўскага, у якой маецца невялікі раздзел, дзе агаворваецца методыка работы з індыктамі, калі яны ўжыты побач з эрай ад РХ[111]. Ад-

[109] Горбачевский, Н. Краткие таблицы. - с.65
[110] Черепнин, Л.В. Русская хронология. - с.34.
[111] Горбачевский, Н. Краткие таблицы - с.39-41.

нак тлумачэнні, дадзеныя адным з пачынальнікаў айчыннай археаграфіі, не высвятляюць усіх нюансаў выкарыстання гэтай адзінкі летазлічэння ў крыніцах беларускага паходжання, тым болей яе эвалюцыю ў актавым фармуляры. Разам з тым, на нашую думку, аналіз выкарыстання індыктаў у летазлічэнні можа даць цікавыя вынікі.

Індыкт, цесна звязаны з візантыйскай сістэмай летазлічэння, г.зн. з вераснёўскім пачаткам года і эрай ад стварэння света, ва ўмовах канфесійнага памежжа, калі праваслаўныя ўжывалі «візантыйскі лік», а каталікі «лацінскі», мог служыць своеасаблівым кампрамісным элементам. Дадаючы да «лацінскай» даты «праваслаўны» індыкт, пісар рабіў своеасаблівую канкардацыю. Гэткім чынам напісаную дату лёгка суадносілі з уласнай сістэмай летазлічэння як «лаціняне», так і «візантыйцы». Знікненне індыкта з летазлічэння можа быць выклікана некалькімі фактарамі. Найперш, гэта адназначна сведчыць аб умацаванні еўрапейскай сістэмы летазлічэння. Апошняе ж было абумоўлена як цеснымі палітычнымі, культурнымі, гандлёвымі сувязямі з еўрапейскімі краінамі ў часы Рэнесансу, так і развіццём матэматычных і астранамічных ведаў. Іншым фактарам магло быць удасканаленне сістэмы справаводства паводле еўрапейскіх стандартаў, у якія архаічны індыкт не ўпісваўся. Але, пэўна, найбольш паўплывалі на трансфармацыю сістэмы летазлічэння канфесійныя і палітычныя працэсы як у самім Княстве, так і за яго межамі. У 1453 г. з падзеннем Канстантынопаля знікае цэнтр праваслаўя, на які арыентаваліся вернікі як у Маскоўскай дзяржаве, так і ў ВКЛ, і які ў некаторай ступені пагаджаў гэтыя канфліктуючыя краіны ў пытаннях веры. Разам з гэтым страціла цэнтр, які яе культываваў і распаўсюджваў, візантыйская сістэма летазлічэння. Такім чынам, эра ад стварэння свету і лічэнне індыктамі станавіліся традыцыяй Маскоўскай дзяржавы, дзе праваслаўе было па-

нуючай канфесіяй, што асабліва ўзмацнілася пасля абвяшчэння Масквы «трэцім Рымам» і дэкларацыі аб пераемнасці ёю функцый абароны праваслаўя. У гэтых умовах выкарыстанне візантыйскай сістэмы летазлічэння, уключаючы эру і індыкт, станавілася не толькі фармальнай праблемай, але ў значнай ступені палітычным пытаннем. У самім Княстве пазіцыі праваслаўя моцна пахіснуліся, краіна ўсё больш паланізавалася і акаталічвалася. У гэтых умовах традыцыі праваслаўнага летазлічэння станавіліся менш запатрабаваныя, у першую чаргу гэта датычыла г.зв. «народа палітычнага» – нобіляў. Рэарганізацыя вялікакняскай канцылярыі, у якой былі ліквідаваны «рускі» і «лацінскі» аддзелы, была, поруч з трансфармацыяй сістэмы летазлічэння, адным з паказчыкаў гэтага працэсу.

Сезон быў адной з першых адзінак лічэння часу побач з месяцам і годам. Верагодна, што першымі сезонамі, якія пачалі вылучацца ў свядомасці нашых продкаў, былі зіма і лета. Ускосна гэта пацвярджаецца падобнымі назвамі гэтых пор года ў большасці славянскіх народаў (Табл.1).

*Табліца 1. Назвы сезонаў у некаторых славянскіх народаў*

| **Украінскія** | **Беларускія** | **Польскія** | **Палабскія** |
|---|---|---|---|
| Весна | Вясна | Wiosna | Proleto |
| Літо | Лета | Lato | Lato, Let |
| Осінь | Восень | Jesień | prenja zaima, jisin |
| Зима | Зіма | Zima | Zaima |

| **Чэшскія** | **Славацкія** | **Славенскія** | **Македонскія** |
|---|---|---|---|
| Jaro | Jar | Pomlad | Пролет |
| Léto | Leto | Poletje | Лето |
| Podzim | Jeseň | Jesen | Есен |
| Zima | Zima | Zima | Зима |

Далейшы падзел года і вылучэнне вясны і восені былі звязаныя з развіццём земляробства і размеркаваннем у адпаведнасці з сезоннымі зменамі палявых работ. Змена сезонаў звязаная са станам Сонца, і гэтая акалічнасць адзначана была нашымі продкамі ў першых, яшчэ паганскіх календарах, заснаваных на разуменні сонцазвароту. У беларускім народным календары да сёння захаваліся святы, якія пазначалі пачатак сезонаў і якія звязаныя са станам Сонца – Купалле, Багач, Каляды і Масленіца.

Такі падзел на сезоны існаваў, як можна меркаваць па звестках крыніц, у дахрысціянскі час і першыя стагоддзі пасля прыняцця хрысціянства. Сляды яго можна сустрэць у традыцыйнай культуры і пазней. Ужо ў XV-XVI ст. умацавалася цяпер існуючае меркаванне аб падзеле месяцаў па сезонах, згодна з якім сезон пачынаецца 1 чысла адпаведнага месяца: восень пачынаецца ў верасні, зіма ў снежні, вясна ў сакавіку, а лета ў чэрвені.

Цікавыя назіранні за фармаваннем назвы сезонаў у індаеўрапейскіх мовах зрабіў вядомы расійскі мовазнавец В. Іваноў. На падставе лінгвістычнага аналізу назваў сезонаў ён высунуў меркаванне аб больш познім вылучэнні асобных назваў для вясны і лета. На ягоную думку, «...пераўладкаванне трохскладовай сістэмы пораў года ў чатырохскладовую магло быць звязана са зменай экалагічных і геаграфічных умоваў у выніку міграцый».[112]

Як адзінка летазлічэння сезоны не ўжываліся ў актавых дакументах. Разам з тым яны часта ў гэтай функцыі сустракаюцца ў летапісах, хроніках, мемуарных і эпісталярных крыніцах: «Тои же осени Ярослав дасть сестру свою за Казимера, и ходи Ярослав двоижьды на мазовшаны»[113] ; «Тое жь зимы на весну приехал к князю великому Витовту князь Василеи Дмитръевич московскии ко цьстю своему, великому князю Витовту, до смоленска у великий пост»[114]; «Летом великие и силные войска ишли на Москву до царя Дмитра, а нам в том краю силную великую шкоду починили у статку, а найбольшей у конях».[115] і інш.

Працуючы з крыніцамі асабістага паходжання, а таксама летапісамі і хронікамі, удакладненне даты па сезону трэба рабіць вельмі асцярожна, зважаючы на размеркаванне іх па месяцах года ў адпаведнасці з традыцыяй. Межы сезонаў у мінулым былі рухомыя, паганскія народныя традыцыі трывалі вельмі доўга не толькі ў сялянскім і мяшчанскім асяроддзі, але і сярод нобіляў, таму пачатак і канец сезонаў могуць размяркоўвацца не толькі па сучаснай схеме, але згодна з вышэй апісанымі межамі дахрысціянскіх часоў. Не заўсёды надзейнай для ўдакладнення пары года, яе межаў можа быць згадка з'явы надвор'я – снегу, марозу, навальніцы і г.д., паколькі ваганні клімату былі значнымі

[112] Иванов Вяч. Вс. Индоевропейские названия времен года.//Календарно-хронологическая культура и проблемы ее изучения, с. 67

[113] Супраскі летапіс./ Летапісы і хронікі Беларусі., с.81

[114] Летапіс Красінскага - Тамсама, с.193.

[115] Баркулабаўскі летапіс - Тамсама, с.403.

на працягу стагоддзяў. Халодныя XIII, XIV, XV і XVII ст. давалі доўгія зімы, а цёплыя X-XII, XVIII-XIX ст. – кароткія, але і ў межах гэтага размеркавання здараліся анамаліі. Такія неардынарныя сезоны звычайна адзначаліся ў летапісах. У гэтым сэнсе адной з найбольш інфарматыўных крыніц з'яўляецца Баркулабаўскі летапіс, дзе даюцца характарыстыкі надвор'я штогод: «тогды было зиме: ни зима, ни лѣто, ни осень, ни весна аж до месяца мая, до святаго Афанасия, снегу не было»[116](1595–1596 гг.); «зима была люта, снежна, на санех ездили по святе Велебном недели две»[117]і г.д.

**Месяц**

У пісьмовых крыніцах, якія паходзяць з усходнеславянскіх земляў, дахрысціянскія назвы месяцаў згадваюцца толькі ў самых ранніх летапісных спісах. У дакументах і літаратуры, у тым ліку навуковай, беларускія назвы месяцаў пачынаюць актыўна ўжывацца з пачатку 20 ст., а з часоў беларусізацыі 1920-х гг. займаюць дамінуючае месца ў беларускім справаводстве. У якасці адзіных беларускіх назваў яны, да прыкладу, фігуруюць у слоўніку С.Некрашэвіча і М.Байкова, падрыхтаваным у першай палове 1920-х гг. і выдадзеным у Мінску ў 1928 г. Выключэннем тут з'яўляецца толькі май-травень, які падаваўся пад дзвюма дадзенымі назвамі.[118]

*Табліца 2. Назвы месяцаў у славянскіх мовах*

| **Украінская** | **Беларуская** | **Польская** | **Чэшская** | **Славенская** |
|---|---|---|---|---|
| Лютий | Люты | Luty | Únor | svečan |
| Березень | Сакавік | Marzec | Březen | sušec |
| Квітень | Красавік | Kwiecień | Duben | mali traven |
| Травень | Май/ Травень | Maj | Květen | veliki traven |

[116] Баркулабаўскі летапіс/Летапісы і хронікі Беларусі - с.389.
[117] Тамсама.
[118] Некрашэвіч С. Байкоў М. Расійска-беларускі слоўнік. - Мн., 2010, с.237.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Червень | Чэрвень | Czerwiec | Červen | rožnik |
| Липень | Ліпень | Lipiec | Červenec | mali srpan |
| Серпень | Жнівень | Sierpień | Srpen | veliki srpan |
| Вересень | Верасень | Wrzesień | Září | kimavec |
| Жовтень | Кастрычнік | Październik | Říjen | vinotok |
| Листопад | Лістапад | Listopad | Listopad | istopad |
| Грудень | Снежань | Grudzień | Prosinec | gruden |

| **Харватская** | **Сербская** | **Македонская** | **Балгарская** |
|---|---|---|---|
| Veljača | Сэчко | Сечко | Съчен, Сечко, Малък сечко |
| Ožujak | Дэрикожа | Цутар | Сух |
| Travanj | Лажитрава | Тревен | Брязок |
| Svibanj | Цвэтань | Косар | Тръвен |
| Lipanj | Трэшньар | Жетвар | Изок, Червеник |
| Srpanj | Жэтвар | Златец | Чръвенъ, жетар, жътвар, сърпен |
| Kolovoz | Гумник | Житар | Орач, Заре |
| Rujan | Гроздобэр | Гроздобер | Руен, Руй |
| Listopad | Шумопад | Листопад | Листопад |
| Studeni | Студэни | Студен | Груден |
| Prosinac | Колэдар | Снежник | Студен |

У актавых крыніцах, якія паходзяць з беларускіх земляў, ужываюцца як польскія, так і лацінскія назвы месяцаў. Парадоксам з'яўляецца тая акалічнасць, што лацінскія назвы, паходзячы ад імёнаў антычных багоў, старажытнарымскіх імператараў і лічбаў, неслі ў сабе рэшткі даўняй паганскай традыцыі, але былі асвечаны хрысціянскай царквой разам з юльянскім календаром.

Выкарыстанне польскай ці лацінскай назвы найчасцей абумоўлена мовай самаго дакумента. Лацінскія назвы месяцаў ужываюцца як у кірылічных актавых крыніцах, у тым ліку, напісаных стражытнабеларускай мовай; так і ў напісаных лацінкай, у тым ліку польскамоўных. Польскія назвы за вельмі рэдкім выключэннем выкарыстоўваюцца ў польскамоўных дакументах. Пэўна, на пазначэнне месяца паводле польскай ці лацінскай традыцыі ўплывалі і асабістыя густы пісара або іншага ўрадніка. Так, у дакументах Метрыкі ВКЛ у першыя дзесяцігоддзі XVI ст. актыўна ўжываюцца польскія назвы месяцаў. Да прыкладу, акт продажу маёмасці за 1518 г., напісаны на польскай мове, датаваны наступным чынам: «Datum w Wilnie, dnia 4 miesąca stycznia» (Даны ў Вільні, дня 4 месяца студзеня)[119]. Падобным чынам датуецца такі ж акт за 1530 год: «Datum w Wilnie, dnia 7 miesąca kwietnia» («Даны ў Вільні, дня 7 месяца красавіка»).[120] У кірылічных тэкстах польскія назвы месяцаў ужываюцца надзвычай рэдка, датаванне адбываецца з дапамогай лацінскіх назваў: «Лѣта Божого тисеча четыриста тридесять первого, индикта девятого, мѣсеца Апрѣля двадцать пятого дня, на Святого Апостола и Евангелиста Марка.»[121]

Пераход ад лацінскіх назваў да польскіх адбываўся ў польскамоўных дакументах некалькі стагоддзяў. Яшчэ ў XVII ст. у адным дакуменце можна сустрэць і адныя, і другія, напісаныя поруч. «Roku terazniejszego, tysąc szescset szesdziesiątego, począwszu ode dnia pierwszego msca Marca,przez ten cały miesąc Marzec, Kwiecien, Maj y Jun, aż do miesąca Jula…»[122] Ю. Шымански адзначае, што ў Польшчы назвы месяцаў канчатково ўсталяваліся ў XVI ст., да гэтага часу тут назіраецца шматварыянтнасць, калі ў розных мясцовасцях маглі ўпісываць у фармуляр не толькі лацінскія, але і рознага гучання славянскія

[119] Lietuvos Metrika=Lithuanian Metrica Литовская Метрика. Kn. кн.1.- с. 36.

[120] Ibidem - с. 37.

[121] АВАК, т.2 - Вильна, 1867 - с. 1.

[122] АВАК, т. 34, Вильна, 1909 - с.147.

назвы месяцаў. Так, у дакументах кракаўскай капітулы поруч з лацінскімі найменнямі сустракаюцца архаічныя для польскай мовы агульнаславянскія назвы: просінец, стромпач, унор і інш.[123]

Часам месяц маглі пісаць лічбай, як гэта рабіў Ф.Карпінскі ў сваіх успамінах, напісаных у першай палове 19 ст., пазначаючы кастрычнік паводле лацінскай назвы –«8 bra».[124]

Пасля прыняцця хрысціянства і засваення юльянскага календара працягласць месяцаў была сцісла акрэсленая і не змянялася на працягу стагоддзяў. Выключэннем тут можа быць каляндар, уведзены ў час Французскай буржуазнай рэвалюцыі і заснаваны на ім савецкі каляндар 1920-х гг. У СССР у сувязі з каляндарнай рэформай 1929 г. і ўвядзеннем г.зв. табель-календара згодна з пастановай СНК СССР, год падзяляўся на 12 месяцаў па 30 дзён у кожным з дадатковымі 5-6 днямі. Аднак цалкам гэтая пастанова выканана не была.

[123] Szymański J. Dz. cyt. - s.134.
[124] Pamiętniki Franciszka Karpińskiego z rękopismu. - Lwów, 1849 - s,1.

Сямідзённы тыдзень з'яўляецца адной са старажытных адзінак лічэння часу і мае ў сваёй падставе назіранні за станам Месяца адносна Зямлі і зор. Тыдзень прыблізна роўны адной фазе. Лічэнне тыднямі было характэрна для народаў, якія карысталіся месячным календаром, але было перанесена ў сонечны каляндар, зрабіўшы яго сонечна-месячным. У юльянскім і грыгарыянскім календарах колькасць тыдняў няроўная: год падзяляецца на 52 тыдні і застаецца яшчэ адзін або два (у высакосным годзе) дні. У сувязі з гэтым дні тыдня штогод перамяшчаюцца па датах.

Пазначэнне нумара тыдня не было абавязковым у фармуляры дакументаў, гэтая частка даты згадвалася звычайна тады, калі ішла гаворка аб рэлігійным святце: «...по Великодни на третьей недели, у четверг» (1543 г.)[125], «...в пятницу, в тыдень по святой Малкгрете» (1548 г.)[126] і г.д. Гэты элемент календара часцей ужываўся не ў фармуляры, а ў змесце дакумента, калі неабходна было дакладна пазначыць час якой-небудзь справы, падзеі, ці дагавора.

Тыдзень не заўсёды быў сямідзённы. У міжваенны перыяд у СССР тройчы праводзіліся каляндарныя рэформы, якія закранапі менавіта працягласць гэтай адзінкі лічэння часу. 29 жніўня 1929 г. СНК СССР прыняў пастанову «Аб пераходзе на неперарыўную вытворчасць на прадпрыемствах і ва ўстановах СССР», паводле якой прадпісвалася ўжо з 1929-1930 гаспадарчага года пачаць паступовы і планамерны перавод прадпрыемстваў і ўстановаў на новы графік работы. Такі перавод быў завершаны вясной 1930 г. пасля надрукавання ў газеце «За индустриализацию» пастановы ўрадавай камісіі пры Радзе Працы і Абароны. Згодна з гэтай пастановай быў уведзены вытворчы табель-каляндар. У гаспадарчым годзе, згодна з ім, прадугледжвалася 360 дзён, якія падзяляліся на 72 пяцідзёнкі. 5-6 дзён, якія заставаліся, вырашана было лічыць святочнымі

---

125 АВАК, т. 33, Вильна, 1908 - с.4.

126 Тамсама, с. 13.

– гэта былі рэвалюцыйныя святы 22 студзеня, 1 і 2 мая, 7 і 8 лістапада.

Працаўнікі згодна з гэтай пастановай былі падзеленыя на 5 груп, кожнай групе былі ўсталяваныя дні адпачынку ў кожную пяцідзёнку на ўвесь год. Пасля чатырох дзён працы быў выхадны дзень, але не агульны, а толькі для дадзенай групы. Такім чынам забяспечвалася непарарыўнасць выкарыстання станкоў

**ТАБЕЛЬ-КАЛЕНДАРЬ НА 1931 ГОД.**

| | ЯНВАРЬ | | | | | | | ФЕВРАЛЬ | | | | | | | МАРТ | | | | | | | АПРЕЛЬ | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I день | 1 | 6 | 11 | 16 | 21 | 27 | | 1 | 6 | 11 | 16 | 21 | 26 | | | 3 | 8 | 13 | 18 | 23 | 28 | | 2 | 7 | 12 | 17 | 22 | 27 |
| II день | 2 | 7 | 12 | 17 | 23 | 28 | | 2 | 7 | 12 | 17 | 22 | 27 | | | 4 | 9 | 14 | 19 | 24 | 29 | | 3 | 8 | 13 | 18 | 23 | 28 |
| III день | 3 | 8 | 13 | 18 | 24 | 29 | | 3 | 8 | 13 | 18 | 23 | 28 | | | 5 | 10 | 15 | 20 | 25 | 30 | | 4 | 9 | 14 | 19 | 24 | 29 |
| IV день | 4 | 9 | 14 | 19 | 25 | 30 | | 4 | 9 | 14 | 19 | 24 | | | 1 | 6 | 11 | 16 | 21 | 26 | 31 | | 5 | 10 | 15 | 20 | 25 | 30 |
| V день | 5 | 10 | 15 | 20 | 26 | 31 | | 5 | 10 | 15 | 20 | 25 | | | 2 | 7 | 12 | 17 | 22 | 27 | | 1 | 6 | 11 | 16 | 21 | 26 | |

| | МАЙ | | | | | | | ИЮНЬ | | | | | | | ИЮЛЬ | | | | | | | АВГУСТ | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I день | | 4 | 9 | 14 | 19 | 24 | 29 | | 3 | 8 | 13 | 18 | 23 | 28 | | 3 | 8 | 13 | 18 | 23 | 28 | | 2 | 7 | 12 | 17 | 22 | 27 |
| II день | | 5 | 10 | 15 | 20 | 25 | 30 | | 4 | 9 | 14 | 19 | 24 | 29 | | 4 | 9 | 14 | 19 | 24 | 29 | | 3 | 8 | 13 | 18 | 23 | 28 |
| III день | | 6 | 11 | 16 | 21 | 26 | 31 | | 5 | 10 | 15 | 20 | 25 | 30 | | 5 | 10 | 15 | 20 | 25 | 30 | | 4 | 9 | 14 | 19 | 24 | 29 |
| IV день | | 7 | 12 | 17 | 22 | 27 | | 1 | 6 | 11 | 16 | 21 | 26 | | 1 | 6 | 11 | 16 | 21 | 26 | 31 | | 5 | 10 | 15 | 20 | 25 | 30 |
| V день | 3 | 8 | 13 | 18 | 23 | 28 | | 2 | 7 | 12 | 17 | 22 | 27 | | 2 | 7 | 12 | 17 | 22 | 27 | | 1 | 6 | 11 | 16 | 21 | 26 | 31 |

| | СЕНТЯБРЬ | | | | | | | ОКТЯБРЬ | | | | | | | НОЯБРЬ | | | | | | | ДЕКАБРЬ | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I день | 1 | 6 | 11 | 16 | 21 | 26 | | 1 | 6 | 11 | 16 | 21 | 26 | 31 | | 5 | 12 | 17 | 22 | 27 | | | 2 | 7 | 12 | 17 | 22 | 27 |
| II день | 2 | 7 | 12 | 17 | 22 | 27 | | 2 | 7 | 12 | 17 | 22 | 27 | | 1 | 6 | 13 | 18 | 23 | 28 | | | 3 | 8 | 13 | 18 | 23 | 28 |
| III день | 3 | 8 | 13 | 18 | 23 | 28 | | 3 | 8 | 13 | 18 | 23 | 28 | | 2 | 9 | 14 | 19 | 24 | 29 | | | 4 | 9 | 14 | 19 | 24 | 29 |
| IV день | 4 | 9 | 14 | 19 | 24 | 29 | | 4 | 9 | 14 | 19 | 24 | 29 | | 3 | 10 | 15 | 20 | 25 | 30 | | | 5 | 10 | 15 | 20 | 25 | 30 |
| V день | 5 | 10 | 15 | 20 | 25 | 30 | | 5 | 10 | 15 | 20 | 25 | 30 | | 4 | 11 | 16 | 21 | 26 | | | 1 | 6 | 11 | 16 | 21 | 26 | 31 |

**ЯНВАРЬ. 22** — день 9 янв. 1905 г. и памяти вождя пролетар. В. И. Ленина.
**МАЙ. 1-2** дни Интернац. **НОЯБРЬ 7-8** — дни праздн. Пролетарск. революции.

*Каляндар на 1931 г. з пяцідзённым тыднем*

і іншага абсталявання на вытворчасці.[127] Групы, якія працавалі па асобных табель-календарах, былі пазначаны колерамі – жоўтым, чырвоным, фіялетавым, ружовым і зялёным.

Падобнае пераўладкаванне календара, з адмаўленнем ад сямідзённага тыдня, было ў свой час прадпрынята ў Францыі ў гады Вялікай французскай рэвалюцыі. Згодна з пастановай

[127] Селешников С. И. История календаря и хронологии. - с. 162-163.

Канвента ад 5 кастрычніка 1793 г. побач з іншымі зменамі замест сямідзённага тыдня ўводзіліся дэкады, якія складаліся з дзесяці дзён. Месяцы адпаведна мелі па тры дэкады, а ў канцы года ўводзілася 5–6 дзён (г.зв. санкюлатыды), вольных ад працы. Назвы дзён дэкады паходзілі ад лацінскіх назваў парадкавых нумароў. Лічэнне дэкадамі, між іншым, практыкавалася і ў часы СССР, але не мела замацаванага месца ў сістэме лічэння часу.

Пяцідзёнка нядоўга выкарыстоўвалася ў СССР. Ужо 21 лістапада 1931 г. СНК СССР прыняў пастанову «Аб перарыўным працоўным тыдні ва ўстановах», паводле якой некаторым наркаматам дазвалялася выкарыстоўваць шасцідзённы перарыўны тыдзень з акрэсленымі днямі: 6, 12, 18, 24 і 30 кожнага месяца. У лютым выхадны дзень прыпадаў на апошнюю дату або пераносіўся на 1 сакавіка. У месяцах, якія мелі 31 дзень, апошні дзень лічыўся працоўным, але аплачваўся як звышурочны. Гэтая пастанова пачала дзейнічаць з 1 снежня 1931 г.




*Табель-каляндар на 1939 г.*

Пастановы СНК аб пяцідзёнцы і шасцідзёнцы для асобных галін эканомікі дзейнічалі да сярэдзіны 1940 г. 26 ліпеня гэтага года Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прыняў пастанову «Аб пераходзе на васьмігадзінны працоўны дзень, сямі-

дзённы працоўны тыдзень і аб забароне самавольнага адыходу рабочых і служачых з прадпрыемстваў і ўстановаў». Неабходнасць сямідзённага тыдня тлумачылася патрэбамі ўзмацніць абароназдольнасць краіны. На наступны дзень у развіццё дадзенай пастановы выйшла яшчэ адна, якой замацоўваліся святочныя дні – 22 студзеня (дзень утварэння СССР), 1 і 2 мая – Дзень салідарнасці працоўных, і 7 і 6 лістапада – Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэтай жа пастановай скасоўваліся раней існуючыя ў сельскай мясцовасці 6 асобных непрацоўных дзён, а таксама агульныя для ўсёй краіны святочныя дні – 12 сакавіка (Дзень падзення самаўладдзя) і 18 сакавіка (Дзень Парыжскай камуны).

7 сакавіка 1967 г. ЦК КПСС, Савет Міністраў і УЦСПС прынялі пастанову «Аб пераводзе рабочых і служачых прадпрыемстваў, установаў і арганізацый на пяцідзённы працоўны тыдзень з двума выхаднымі днямі».[128] Гэтая пастанова ўводзілася пастунова і закранула не ўсе галіны гаспадаркі і сацыяльнага жыцця – на пяцідзённы працоўны тыдзень, да прыкладу, не былі пераведзены сістэма адукацыі і ахова здароўя.

Асобным пытаннем з'яўляецца вызначэнне пачатку тыдня - ён можа пачынацца з нядзелі або з панядзелку. Да дваццатага стагоддзя ў хрысціян і іўдзеяў традыцыйна тыдзень пачынаўся з нядзелі і заканчваўся ў суботу. Упершыню панядзелак быў абвешчаны першым днём тыдня ў пастанове ад 26 ліпеня 1940 года і застаецца ў Беларусі такім да сёння.

---

[128] Селешников С. И. История календаря и хронологии. - С. 163-164.

## Дзень тыдня.
## Лацінскае пазначэнне дзён тыдня





*Я.Карскі, які распрацаваў формулу для вылічэння дня пры рабоце з кірылічнымі крыніцамі.*

Пазначэнне дня тыдня пры напісанні даты не з'яўлялася абавязковай часткай фармуляра, але дастаткова часта сустракаецца як у актавых крыніцах, так і ў летапісах і хроніках, у крыніцах асабістага паходжання.

На Беларусі назвы дзён тыдня маюць славянскае паходжанне, апрача суботы, назва якой запазычана з яўрэйскай мовы.

У раннесярэднявечных лацінскамоўных дакументах, у тым ліку тых, што паходзяць з тэрыторыі Беларусі, выкарыстоўваецца іншае пазначэнне дзён тыдня. У еўрапейскіх народаў у той час у паўсядзённым выкарыстанні замацавалася традыцыя, пазычаная з антычнага Рыму, паводле якой для назвы дзён тыдня выкарыстоўвалі імёны антычных багоў, а таксама найменні нябесных цел. Гэтыя назвы і сёння выкарыстоўваюцца ў многіх еўрапейскіх мовах.

Каталіцкая царква, імкнучыся выкараніць паганскія звычаі, адмовілася ад ужывання гэтых назваў, уводзячы ўласную нумарацыю дзён тыдня. Будзённыя дні пазначаліся словам feria и да их дадаваўся парадкавы нумар: панядзелак - feria sekunda; аўторак - feria tertia ; серада - feria quarta; чацвер - feria quinta; пятніца -feri asexta; замест нядзелі маглі ўжываць назву – feria prima; суботу пазначаць як feria septima. «Datum Grodnae, feria secunda in vigilia Sancti Andreae Apostoli». («Дадзены ў Гродна, у панядзелак, у свята Святога Андрэя Апостала»)[129]; «Actum et datum Cracoviae, feria quinta, ipso die festi Sanctorum Simoni set Iudae Apostolorum («Складзена і дадзена ў Кракаве, у чацвер, у дзень Святых Сымона і Юды Апосталаў»)[130]; «Actumin Grodno, feria quinta Caenae Domini[131]» («Складзена ў Гродна, у чацвер, у дзень Тайнай Вячэры»)[132]; «Dan w Trokach, feria tertia proxima ante festum corporis Christi». («Дадзены ў Троках, у аўторак, бліжэйшы перад святам Цела Гасподня», 1412 г., 31

[129] LietuvosMetrika=LithuanianMetrica Литовская Метрика. , Kn. 25. - s.79.
[130] Ibidem -s.81.
[131] Так у тэксце.
[132] LietuvosMetrika=LithuanianMetrica Литовская Метрика. , Kn. 25 - s. 290.

мая).[133] Субота часцей пазначалася назвай, паколькі гэтае слова было запазычана з старажытнаяўрэйскай мовы і не мела сувязі з антычнымі паганскімі назвамі: «Datum Cracovae, sabbato ante festum Trium Regum proximo». (Дадзена ў Кракаве ў суботу, бліжэйшую перад святам Трох Каралёў)[134]; «Actum in castro Mielnic ensi sabbatho post festum Visitationis Beatissimae Virginis Mariae proximo, anno Domini 1652»[135]. («Дадзены ў сядзібе Мельнік у суботу, бліжэйшую пасля свята Звеставання Марыі, год ад Раства Хрыстова 1652» – 29 сакавіка).

Часам ужываўся выраз «octavo (octavae)» – праз тыдзень, г.зн. паўтарэнне таго ж дня цераз тыдзень, ці цераз тыдзень пасля акрэсленай даты: «Aktum et datum Vilnae, in octava Visitationis Gloriosissimae Virginis Mariae» («Складзена і дадзена ў Вільні, праз тыдзень пасля Звеставання»)[136]; «Dan w Wilnie, we wtorek w oktawe S. Agnieszki («Дадзены в Вільне, у аўторак у актаву св. Агнесы (28 студзеня))»[137]

Да гэтага выразу магло дадавацца «infra», «intra», «inter», «sub», што азначае нейкі дзень унутры таго тыдня, што наступае пасля акрэсленай даты, часцей, каталіцкага свята. Пры дацiроўцы маглі выкарыстоўвацца таксама тэрміны «proxima» (бліжэйшы, той, што побач), post(пасля), ante (перад) і іншыя.

Пры падобнай дацiроўцы назва месяца не ўжывалася, пазначаны быў толькі дзень і год.

Дзень тыдня ўлічваўся пры вызначэнні тэрміна працы адміністрацыйных і судовых установаў, для акрэслення тэрмінаў гандлёвых аперацый і ў іншых падобных сітуацыях. Характэрным прыкладам можа служыць рашэнне Стэфана Баторыя ў пытанні аб правядзенні пасяджэнняў земскага суда ў Куявах і Брэсце Куяўскім, прынятае ў 1581 г.: «Roki wtore w

[133] Skarbiec dyplomatów papieskich, cesarskich, królewskich, uchwał narodowych, postanowień różnych władz i urzędów posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi Litewskiej i ościennych im krajów. Zebrał i w treści opisał Ignacy Daniłowicz. – T.2 - Wilno, 1862. -s .9
[134] Ibidem. -s.297.
[135] АВАК, т. 33 - с.378
[136] Тамсама, с.272.
[137] Skarbiec dyplomatów. -s.216.

Kuiawach, oboyga Woiewodztwa, ktore w iesieni we dwu niedziel po Ś. Bartołomieiu, wedle konstytucyi, odprawować zwykli ochraniając wątpliwości ludzkiey dla odmiany dniow Ś. Bartołomieia. Deklaruiemy, za prośbą Posłow onych Woiewodztw, tą to konstytucyą, aby zawzdy przerzeczone Roki, pewne dni swe Wtorkowe miały. A gdy inszego dnia niżeli we Wtorek trafi się dzieńŚ. Bartołomieia, tedy też Roki maią się poczynać w Brześciu w pierwszy Wtorek, po wyścu dwu niedzieli od Ś. Bartołomieia». («Другія рокі земскія ў Куявах, абодвух ваяводстваў, якія восенню у двух тыднях па св. Барталамеі, паводле канстытуцыі, адбываць звычайна павінны, ахоўваючы сумненні людскія з-за адмены дзён С. Барталамея. Абвяшчаем, па просьбе паслоў гэтых ваяводстваў, гэтую канстытуцыю, абы заўсёды названыя рокі звычайнымі днямі сваімі мелі аўторкі. А калі на іншы дзень, а не на аўторак, прыпадзе дзень Св. Барталамея, тады рокі павінны пачынацца у Брэсце ў першы аўторак пасля зыходу двух тыдняў ад св. Барталамея»).[138] Дзень Св. Барталамея адзначаецца каталікамі 24 жніўня, а восеньская сесія земскага суда павінна была адбывацца ў Радзяёве, дзе звычайна збіраліся сеймікі, 7 верасня. У год прыняцця канстытуцыі дзень Св. Барталамея прыпадаў на чацвер, а аўторкам ён павінен быў стаць у 1585 г. Такім чынам, сесія земскага суда павінна была адбывацца ў Радзяёве раз на кожныя шэсць гадоў пачынаючы з 1585 г.

Вызначэнне дня тыдня можа прынесці новыя веды аб вывучаемай з'яве, адкрыць новы ракурс, погляд на яе. Так, да прыкладу, 19 лютага 1861 г., калі быў падпісаны Маніфест аб адмене прыгоннага права, было нядзеляй. Нядзеляй было ў гэтым годзе і 5 сакавіка – дзень, калі дадзены Маніфест быў абвешчаны ўпершыню. Выбар нядзелі для пачатку сялянскай рэформы, як можна меркаваць, быў невыпадковым. Нядзеля была святочным днём для сялян, у гэты дзень наведвалі царкву. Менавіта з амбонаў цэркваў у Пецярбургскай губерні была ўпершыню абвешчана царская воля – сяляне, якія прыйшлі на нядзельную службу, павінны былі ўспрыняць гэта як міласць, асвечаную

[138] Volumina Legum. Przedruk zbioru prawPrawa, konstytucye y przywileie Królestwa Polskiego, Wielkiego Xięstwa Litewskiego y wszystkich prowincyi należących na walnych seymiech koronnych od Seymu Wiślickiego roku pańskiego 1347 aż do ostatniego Seymu uchwalone. T. 2 – СПб, 1859 - s.208

царквой. Выбар нядзелі і для падпісання Маніфеста, і для яго абвяшчэння адразу надаваў дадзенай падзеі ўрачысты статус.

Часам у актавых і іншых дакументах трапляецца згадка дня тыдня без пазначэння даты, і ў гэтым выпадку даводзіцца аднаўляць датаванне, карыстаючыся метадамі храналогіі, ускоснымі дадзенымі ці логікай, заснаванай на веданні эпохі і традыцый лічэння. Так, да прыкладу, у Дэкрэце мешчанам віленскім і ковенскім, дадзеным Жыгімонтам 13 сакавіка 1535 года, упісана, што ў «прішлыі понеделок» была прысяга двух бурмістраў, і тэрмін дадзенай прысязе, а значыць і паўнамоцтвам рускага і літоўскага бурмістраў – адзін год.[139] Аднаўленне даты прысягі падаецца дастаткова важным, бо такім чынам акрэсліваецца дата перыядычнай змены вышэйшыхураднікаў гэтых магдэбургскіх гарадоў. Методыка аднаўлення дат паводле згадкі дня тыдня (гл. Дадаткі), дазваляе акрэсліць, што 13 сакавіка, калі быў падпісаны Дакрэт, з’яўлялася суботай, а аўторак пасля ёе – 16 сакавіка. Менавіта ў гэты дзень прыносілі прысягу бурмістры Вільні і Коўна.

Вылічэнне дня тыдня для любой даты з дапамогай вуснага ліку было адным з дапаможных сродкаў для акрэслення Вялікадня, для арыентацыі ў летазлічэнні. Яно мела ўласную методыку, добра вядомую ўсходнеславянскім кніжнікам і багасловам. Падрабязнае апісанне метадаў такога вылічэння з дапамогай табліц, а таксама суставаў рукі, аналіз згадак гэтых спосабаў вылічэння ў кірылічных крыніцах прыводзіць у сваёй грунтоўнай працы ўкраінскі астраном і матэматык І.Клімішын.[140] Ключавым інструментам, які дазваляў вылічаць дзень тыдня, было вруцэлета – літара-лічба, якая надаецца ўсім нядзелям у акрэсленым годзе, пачынаючы ад першага года ад стварэння света. Паняцце вруцэлета не страціла сваё значэнне і сёння, яно ўжываецца ў гісторыка-храналагічных вылічэннях.

Формулу для вылічэння дня тыдня вывеў і прапанаваў для ўжывання пры рабоце з кірылічнымі крыніцамі Я.Карскі.

Дзень тыдня не заўсёды супадаў у грыгарыянскім і юльянскім календарах, што было звязана з парушэннем парадку нумарацыі дзён пры каляндарнай рэформе. Не заўсёды супадае дзёнь тыдня і пры ўжыванні розных стыляў.

---

139 Ibidem.-s. 115.

140 Климишин И.А. Указ.соч. - с. 355-356.

Спецыфікай беларускіх земляў ва ўжыванні дацiроўкі падзей у адпаведнасці з рэлігійным жыццём з'яўлялася шматварыянтнасць, што было абумоўлена поліканфесійнасцю грамадства. Каталіцтва, праваслаўе, уніяцтва, пратэстантызм (апошні ў меншай ступені) мелі ўласныя каноны вызначэння дня паводле царкоўнага календара. Апрача хрысціянства, на нашых землях прадстаўлены былі мусульманства і іўдаізм, якія таксама выкарыстоўвалі падобны спосаб дацiроўкі, абапіраючыся на ўласныя рэлігійныя традыцыі. У дадзеным раздзеле мы звяртаем больш пільную ўвагу менавіта на хрысціянскія традыцыі датавання, паколькі хрысціянскія святы і прысвяткі найчасцей сустракаюцца ў актавых крыніцах, у дакументах іншага характару.

Хрысціянскія святы ў святле храналогіі можна падзяліць на рухомыя (пераходзячыя) і нерухомыя (непераходзячыя). Для датавання ўжываліся абодва гэтыя тыпы.

На працягу стагоддзяў ужыванне рэлігійных святаў для дацiроўкі было адным з найбольш распаўсюджаных спосабаў пазначыць час падзеі. Гэтая традыцыя нараджаецца, фактычна, адначасова з узнікненнем рэлігіі і існуе ў паўсядзённым жыцці да сёння. У актавых дакументах ад датавання з дапамогай пазначэння рэлігійнага свята Еўропа пачала пазбаўляцца толькі ў часы Рэнесансу, калі рушыў працэс секулярызацыі культуры і грамадскага жыцця. У дакументах жа асабістага паходжання, літаратурных творах, публіцыстыцы датаванне з дапамогай згадкі рэлігійнага свята затрымалася. Асаблівую ролю падобнае датаванне выконвае ў грамадстве ці краіне, дзе царква адыгрывае важную сацыяльную, а часам і палітычную ролю. Да часоў Рэнесанса менавіта царква і касцёл былі на еўрапейскіх землях захавальнікамі ведаў аб часе, менавіта яны вялі дакладны летазлік, што было неабходна для слушнасці вызначэння часу службаў і іншых рэлігійных рытуалаў, адпаведнага канонам рэлігіі. Адмова ад датавання з дапамогай рэлігійных святаў адбывалася паступова, расцягнуўшыся на некалькі стагоддзяў.

Датаванне з дапамогай праваслаўнага ці каталіцкага свята заставалася пашыраным на беларускіх землях фактычна да пачатку XX ст., яно магло дадавацца да асноўнай даты, паказанай днём і месяцам. Думаецца, што такая практыка добра ўпісвалася ў аграрны характар гаспадаркі і перавагу ў ліку насельніцтва саслоўяў, якія звязаны былі з сельскагаспадарчай вытворчасцю. Сельскагаспадарчы каляндар грунтаваўся менавіта на календары царкоўным, што, між іншым, відавочна сёння ў народным беларускім календары. Разам з тым, зварот да дацыроўкі з дапамогай рэлігійных святаў па-рознаму выглядае ў розных тыпах крыніц, у розныя стагоддзі і ў розных землях. Так, для Кароны, а таксама для агульных дакументаў Рэчы Паспалітай дацыроўка з дапамогай рэлігійных святаў і на латыні з'яўлялася звыклай і часта ўжыванай. Падобным чынам, побач з лічбавымі датамі, пазначаюцца сеймавыя канстытуцыі яшчэ ў часы Станіслава Аўгуста.[141] Трэба заўважыць, што ў справаводстве Рэчы Паспалітай, а найбольш у дакументах яе цэнтральных органаў, у судах ужыванне лацінскай дацыроўкі было цесна звязана з распаўсюджаным звычаем выкарыстання лацінскіх выразаў, г.зв. вульгарнай латынню, якой прасякнута была бюракратычная польская мова. Менавіта за яе ачышчэнне ад такіх вульгарызмаў змагаліся дзеячы Асветніцтва ў апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай.

У літвінскім справаводстве дацыроўка з дапамогай рэлігійных святаў сустракаецца значна радзей, чым у каронных. Падобная дацыроўка, да прыкладу, выкарыстоўвалася ў гродскіх кнігах, у справах земскіх, падкаморскіх, копных, гродскіх судоў толькі ў тым выпадку, калі фармуляр дакумента быў напісаны на латыні. У гэтых актах падобная дацыроўка можа сустрэцца як выключэнне, найчасцей ва ўпісаных дакументах ці ў змесце рашэння. У справах Галоўнага трыбуналу святы ўжываліся для

[141] Volumina legum. Prawakonstytucye y pryzwileie Krolewstwa Polskiego i Wielkiego Księstwa Litwskiego i wszystkich prowincyi naliezących od seymu Wislickiego roku Panskiego 1347 az do ostatniego seymu uchwalone T. 7. (1764-1768) – Warszawa, 1781.

пазначэння сесіі, аб чым будзе гаворка ніжэй. На нашую думку, «больш свецкае», чым у Кароне, напісанне дат у дакументах тлумачыцца, найперш, поліканфесійнасцю грамадства, што асабліва характэрна было для гарадоў. У Кароне , дзе панавала каталіцтва, не ўзнікала пытанне, святам якой канфесіі пазначаць дату, да таго ж касцёл культываваў латынь і яе традыцыі пазначэння дат.

Найчасцей такая дацiроўка пасля XVI ст. сустракаецца ў дакументах асабістага характару, у наратыўных крыніцах. Шырока прадстаўлена дацiроўка з дапамогаю рэлігійных святаў у летапісах і хроніках, асабліва тых, якія напісаныя кірылічным пісьмом. Тое, што менавіта кірылічныя апавядальныя крыніцы актыўна ўжываюць такую дацiроўку, тлумачыцца, на нашую думку, тым, што час іх стварэння, за вельмі рэдкім выключэннем, не сягае далей за XVII ст., калі ўжо працэс секулярызацыі жыцця грамадства, найперш прадстаўнікоў ардадамінантнай культуры, набывае значнае развіццё. У летапісных кірылічных крыніцах выкарыстоўваюцца ў якасці дат як святы, так і прысвяткі, як рухомыя, так і нерухомыя святы. «Лѣта божа нароженя 1563 року. Мѣсяца февраля в 15 день, заговѣвши мясом маслѣнои недѣли, в понедѣльник...»[142]; «Лета божого нароженя 1595, месяца ноябра 30 дня в понедело(к) за тыдзень пред святым Николою…»[143]. Такую дацiроўку выкарыстоўваюць і аўтары польскамоўных дыярыюшаў і хронік, але інтэнсіўнасць узгадкі рэлігійных свят тут залежыць ад набожнасці аўтара і іншых абставінаў. Красамоўнай ілюстрацыяй гэтай тэзы могуць быць успаміны Яна Цадроўскага[144] і Адама Каменскага[145], напісаныя ў сярэдзіне-другой палове XVII ст. Першы з іх быў

---

142 Румянцаўскі летапіс./Летаппісы і хронікі Беларусі. - с. 263

143 Баркулабаўскі летапіс/ Тамсама. - с.388.

144 Коршунаў А.Ф. Успаміны Яна Цадроўскага // Беларуская літаратура. Вып. 5. Мн., 1977. С. 154-167.

145 Коршунаў А.Ф. «Дыярыуш» Адама Каменскага Длужыка // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Міжвузаўскі зборнік. Вып. 2. Мн., 1974. С. 183-207.

пратэстантам, у якіх адсутнічае культ святых. У ягоных нататках рэлігійныя святы згадваюцца тройчы – Вялікдзень, чацвер на пасхальным тыдні і дзень Пятра і Паўла. Ва ўспамінах католіка Адама Каменскага ўся храналогія пабудавана на згадцы рэлігійных святаў, прытым як каталіцкіх, так і праваслаўных («рускіх»). Такая асаблівасць храналогіі, магчыма, звязана з тым, што ўспаміны Каменскага датычаць яго жыцця ў Сібіры ў час маскоўскага палону. Беларускі шляхціч апынуўся ў краі, дзе была іншая вера, дзе было іншае летазлічэнне, або яго ўвогуле не вялі, дзе адсутнічала актыўнае палітычнае і грамадскае жыццё, якое патрабуе дакладнага і непарарыўнага лічэння часу. У дыярыўшы Альбрэхта Радзівіла, які таксама быў католікам і вёў свае запісы на лацінскай мове амаль у той жа час, што і Каменскі, датаванне з дапамогай рэлігійных святаў практычна адсутнічае, запісы пазначаюцца лічбамі, а згадка пра святы з'яўляецца зрэдку як дадатак да асноўнага датавання.[146]

Рэлігійныя святы традыцыйна ўжываліся для вызначэння тэрмінаў пры разнастайных дамовах ці фінансавых аперацыях. Гэта традыцыя захавалася і ў перыяд, калі кірылічнае і польскамоўнае лацінкавае справаводства перасталі ўжываць згадку святаў у фармуляры актаў. У якасці даты часцей выкарыстоўвалі нерухомыя святы, што дазваляла дакладней акрэсліць прамежак часу. Такі прыём датавання выкарыстоўваўся на розных узроўнях: у гандлёвых і пазыкавых аперацыях, у судовых рашэннях, у міждзяржаўных дамовах. Такім чынам, да прыкладу, быў вызначаны шасцігадовы тэрмін перамір'я ў час Лівонскай вайны: «...от Благовещеньева дни лета 7064-го до Благовещеньева ж дни 7070-го году»[147]. З дапамогай даты рэлігійнага свята мог вызначацца тэрмін выплаты падаткаў. У дадзеным выпадку падобнае датаванне было найбольш аптымальным, паколькі ў сялянскім і ў значнай ступені ў хрысціянскім мяшчанскім асяроддзі час традыцыйна лічыўся па царкоўным

146 Pamiętniki Albrychta Stanisława X. Radziwiłła kanclerza w Litewskiego. T. 1-2, Poznań, 1839.

147 Опись архива Посольского приказа. - с.88.

календары. Такім чынам, да прыкладу, быў акрэслены тэрмін выплаты срэбшчыны ў 1522 г.: «...и рокъ то*и* серебъщыне положыли собрано*и* и *от*несенои до ска*р*бу н(а)шого быти отъ руских масленых минулых Запустовъ у двана*д*цати неделях… и рокъ покладаемъ то*и* друго*и* серебъщчине, на которы*и* тая серебщына мае*т* до ска*р*бу н(а)шого отънесена быти, пе*р*вы*и* рокъ на Тры короли, а остаточны*и* рокъ пе*р*вое недели уступившы в Постъ».[148] У 1523 г. наступным чынам вызначаўся час позвы ў суд: «И Кемпа положыл с ним рокъ по Трех королях в ты*и*дзень, гдебы король, его м(и)л(о)сть, дворомъ своимъ былъ, тамъ мелъ Михна пан Фе*д*ко поставити».[149] У 1567 г. падобна вызначаўся час выплаты застаўных грошай за трыманне маёнтку: «...na rok swętego Jakuba summa jego spełna kop sześćset y sześćdziesąt odłożona będzie» («на тэрмін святога Якуба сумма ягоная цалкам коп шэсцьсот і шэсцьдзесят адкладзена будзе)[150]; «...ktorzy mają się ziechać do Winnice po S. Michale na dzień 24 Oktobra, w roku teraźniejszym 1616» («...якія павінны прыехаць да Вінніцы пасля св. Міхала на дзень 24 кастрычніка у год цяперашні 1616»).[151]

Характэрнай прыкметай стаўлення да рэлігійных святаў як да акрэсленага элементу летазлічэння, а не як сакральнай з'явы, можа быць выкарыстанне яго пры здзелках паміж іnames іnавернамі. Так, зямянін Слонімскага павета Гарабурда у 1605 годзе, пазычаючы ў яўрэйкі Ханны Еськаўны Шыманавае сто сорак коп літоўскіх грошай, вызначыў датай іх вяртання дзень свята Тройцы гэтага ж года, што было запісана ў гродскія кнігі. Паказальна, што тэрмін вяртання быў узгоднены з крэдыторшай і не выклікаў пярэчанняў, а грошы Гарабурда абавязаўся ў гэты святочны дзень прынесці ёй дадому.[152]

---

[148] Lietuvos Metrika=Lithuanian Metrica Литовская Метрика. , Kn. 11 (1518-1523),Vilnius, 1997 – p.133.

[149] Lietuvos Metrika=Lithuanian Metrica Литовская Метрика. , Kn. 11 (1518-1523)1997 – p.143.

[150] Lietuvos Metrika=Lithuanian Metrica Литовская Метрика. , Kn. 530 (1566-1572),Vilnius, 1999,– p. 63.

[151] Volumina Legum. Przedruk zbioru praw T. 3 - s.141.

[152] АВАК, т. 28, Вильна,1901 - с.73

Рэлігійныя святы, як рухомыя, так і нерухомыя, вызначаліся ў якасці тэрміна правядзення кірмашоў. Так, да прыкладу, выглядала сітуацыя ў Шчучыне: «Паводле прывілея на Магдэбургскае права, падпісанага Аўгустам III, ад 23 мая 1761 г., у Шчучыне зацвярджаліся 12 кірмашоў штогод (у дзень трох польскіх каралёў[153], у дзень ачышчэння Маці Божай, на св. Казіміра, на другім тыдні пасля Пасхі, на Св. Духа – трохдзённы, на св. Кацярыны, на св. Іаана, у дзень Св. Марыі Магдаліны – двухтыднёвы, на Узнясенне Маці Божай, на Раство Маці Божай, у дзень Св. Сімона і Іуды – двухтыднёвы, у дзень Успення Маці Божай), а таксама два штотыднёвыя таргі (па нядзелях і чацвяргах)».[154]

Асаблівасцю датавання дакументаў з дапамогай згадкі рэлігійных святаў на Беларусі было актыўнае ўжыванне іх народных назваў, пры тым як у крыніцах асабістага паходжання, так і ў актах. Выключэннем з дадзенай традыцыі з’яўляюцца толькі лацінскамоўныя дакументы, але і ў іх назвы рэлігійных святаў часам даюцца скарочана ці з памылкамі.

У народных уяўленнях назвы рэлігійных святаў пераасэнсоўваліся, частка з іх, якая ў рэлігійным календары не мела канкрэтнага патрона, персаналізавалася (Тройца, Пакроў, Каляда і інш.). Сутнасць і значэнне хрысціянскіх святаў прывязваліся да рытму сельскагаспадарчых работ, і святыя, апосталы і пакутнікі станавіліся «працаўнікамі» ў полі, на агародзеці ў садзе селяніна.

Народныя назвы святаў мелі мноства варыянтаў, па-рознаму яны называліся ў розных рэгіёнах, па-іншаму іменаваліся ў розных канфесіях, змяняліся на працягу стагоддзяў. Частка з такіх назваў захавалася да сёння, выяўлена і занатавана этнографамі і мовазнаўцамі. Таму пры аднаўленні такім чынам напісанай даты варта звярнуцца менавіта да даследаванняў

---

[153] Тут,хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе каталіцкае свята Трох каралёў.

[154] Соркіна І. Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. – Вільня, 2010 - с.113.

этнографаў, фалькларыстаў і дыялектолагаў.[155] Але значэнне часткі народных назваў цяпер страчана, і ў гэтым выпадку бывае даволі цяжка дакладна аднавіць дату.

Народныя назвы мелі як рухомыя, так і нерухомыя святы, пры тым найвялікшай колькасцю варыянтаў адрозніваліся найбольш шанаваныя, вялікія святы. Падобнае найменне святаў ужывалі і нобілі, і прадстаўнікі ніжэйшых варстваў грамадства.

## Нерухомыя святы і іх выкарыстанне ў крыніцах

Нерухомыя святы і прысвяткі звязаны з Новым запаветам і царкоўнай гісторыяй. Яны ўзніклі ў час, калі на еўрапейскіх землях дзейнічаў юльянскі каляндар, якім мы карыстаемся і сёння (грыгарыянскі каляндар, заснаваны на юльянскім летазлічэнні, адрозніваецца ад апошняга толькі прынцыпам інтэркаляцыі). Нерухомыя святы і прысвяткі маюць канкрэтную дату ў календары, якая не залежыць ад дня тыдня і іншых элементаў летазлічэння або астранамічных з'яваў. У агульным выглядзе, калі не зважаць на нюансы і акалічнасці, аб якіх будзе гаворка ніжэй, для рэдукцыі даты, паказанай з дапамогай рэлігійнага свята, на сучаснае свецкае летазлічэнне дастаткова зазірнуць у царкоўны каляндар. Дадзім некалькі прыкладаў. «Actum in castro regio Melnicensi die dominico postride festi sancti Adalberti anno Domini 1580...» (Складзены у замку Мельніцкім у нядзелю на наступны дзень пасля свята святога Адальберта у год ад нараджэння Хрыстова 1580...)[156] Дзень памяці св. Адальберта Пражскага (Войцеха), які быў надзвычай шанаваны ў Чэхіі і Польшчы, каталіцкі касцёл адзначае 23 красавіка. Значыць, дзень, у якім быў складзены дадзены акт, можна вызначыць як 24 красавіка. Пазначэнне

[155] Гл. напр.: Васілевіч Ул. Беларускі народны каляндар // Паэзія беларускага земляробчага календара / Склад. А.С. Ліс. Мн., 1992. - с. 554-612.
[156] АВАК, т.33,Вильна, 1908 - с.87.

праваслаўных нерухомых святаў выкарыстаў для датавання сваёй працы над рукапісам Камянецкай Чэцці паповіч Бярозка: «...ѡ*т* с(вя)того Семіѡна до соро*к* с(вя)тыхъ»[157]. Дзень святога Сямёна Стоўпніка адзначаецца праваслаўнай царквой 1 верасня. Дзень Сарака святых (пакутнікаў Севасційскіх) святкуецца 9 сакавіка. Такім чынам, Бярозка перапісваў Чэццю з 1 верасня па 9 сакавіка.

Выкарыстанне рэлігійных святаў у якасці даты радзей можна сустрэць у кірылічных актах. Амаль заўсёды яны згадваюцца ў дацыроўцы лацінскамоўных дакументаў, што было традыцыйным з першых дзесяцігоддзяў існавання ВКЛ. Паказальна, што ў ліставанні з Ордэнам, з еўрапейскімі манархамі і папам пры дацыроўцы выкарыстоўваюцца, як дазваляюць меркаваць апублікаваныя дакументы, амаль выключна рэлігійныя святы і эра ад РХ. У тым ліку, такую дацыроўку ўжывае Вітаўт, хаця ў актах, якія адрасатамі мелі жыхароў ВКЛ ці Кароны і былі напісаны кірыліцай, падобная дацыроўка сустракаецца дастаткова рэдка.

Складанасць з акрэсленнем даты з дапамогай згадкі нерухомага рэлігійнага свята ў крыніцах беларускага паходжання звязана з некалькімі акалічнасцямі. Адной з іх з'яўляецца поліканфесійнасць, характэрная для нашых земляў. Каталіцкі касцёл і праваслаўная царква па-рознаму вядуць свой рэлігійны каляндар, пантэон святых адрозніваецца ў гэтых канфесіях. Таму пры слабым знаёмстве з рэлігійнымі традыцыямі абодвух або адной з канфесій даводзіцца звяртацца да розных рэлігійных календароў. Дадатковую складанасць у вызначэнні даты нерухомага рэлігійнага свята дае тая акалічнасць, штоў каталіцтве і праваслаўі ёсць агульныя шанаваныя святыя, пакутнікі, іншыя рэлігійныя постаці, але даты іх шанавання часам бываюць розныя. Гэта абумоўлена некалькімі акалічнас-

[157] Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. – Спб, 1890 – с.161

цямі. Пасля 1582 г., калі пачаў дзейнічаць грыгарыянскі каляндар, агульныя для дзвюх канфесій святы і прысвяткі пачалі адзначацца ў розныя дні ў сувязі з розніцай у календарах (юльянскі ў праваслаўных, грыгарыянскі ў католікаў). Часам пазначэнне календара, паводле якога адзначаецца свята, згадваецца ў крыніцах, асабліва ў апошняй чвэрці XVI – першыя дзесяцігоддзі XVII ст. Так, у статуце віленскага цэха капялюшнікаў і валюшнікаў, прынятым у часы Стэфана Баторыя і пацверджаным у 1636 г. Уладзіславам IV, наступным чынам пазначаецца дзень выбараў майстрамі цэхавых старшыняў: «w dzień świętego Jana Krzciciela, według nowego kaliendarza» («у дзень святога Яна Хрысціцеля, паводле новага календара»).[158]

Розніца ў даціроўцы нерухомага рэлігійнага свята ці прысвятка звязаная таксама з адрозненнем у канонах, традыцыях. У гэтых выпадках з'яўляецца неабходнасць акрэсліваць канфесійную прыналежнасць складальнікаў дакумента, ці асобаў, якія ў ім згадваюцца. Так, тастамент князя Аляксандра Гальшанскага ад 1473 г. утрымлівае наступную дату: «[W] Wilnie, w poniedzjałek przed swętem s[wętej] Mary Magdaliny» («У Вільні, перад святам святой Марыі Магдаліны»)[159]. Каталіцкі касцёл адзначае дзень шанавання Марыі Магдаліны як нерухомае свята, якое прыпадае на 22 ліпеня. У праваслаўных Марыя Магдаліна шануецца ў дзень святых жанчын-міраносіц у другі тыдзень пасля Вялікадня, і ў дадзеным выпадку гэтае свята не мае акрэсленай даты, уваходзячы ў кола рухомых, звязаных з Вялікаднем. Каб вызначыць дакладную дату напісання тастамента, можна было б высветліць канфесійную прыналежнасць яго складальніка. Паводле тастамента князь у час свайго пасольства ў Польшчу адпісаў маёнтак Свяраны касцёлу святога Станіслава. З вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што датаванне тастамента было зроблена па каталіцкай

[158] АВАК, т. 10 - Вильна, 1879 - с. 24.
[159] Lietuvos Metrika=Lithuanian Metrica Литовская Метрика. , kn. 1 – p.48.

традыцыі, паколькі князь быў католікам. Але можна ўзяць пад увагу тое, што праваслаўныя вельмі рэдка вызначалі Марыю Магдаліну сярод іншых жонак-міраносіц, не вылучалі асобна яе дзень у календары. Такім чынам, дату напісання тастамента можна вызначыць як 22 ліпеня 1473 г. З іншага боку, згадка каталіцкага або праваслаўнага святога пры датаванні дакумента, асабліва тастамента, з вялікай верагоднасцю можа сведчыць аб канфесійнай прыналежнасці асобы, ад імя якой складаўся дадзены акт ці дакумент прыватнага характару (ліст, дыярыуш і да т.п.). У выпадку Аляксандра Гальшанскага выкарыстанне каталіцкага свята для датавання тастаменту з'яўляецца ўскосным сведчаннем ягонага вераспавядання.

У беларускіх крыніцах часам сустракаецца пазначэнне, да якой канфесіі належыць згаданае свята: «свяце рымскім», «свяце рускім» і да т.п: «Лета ѡ(т) нарожен*ѧ* Сына бож*ого* тисеча ше*т*со*т* тры*д*ца*т* че*т*ве*р*того м(еся)ца ге*н*вара се*м*на*т*цато*го* дн*ѧ*. На рочко*х* судовы*х* зе*м*ски*х* ѡ тро*х* Корол*ѧх* св*ѧ*те ры*м*ско*м* припалы*х* к судо*в*не у Ви*л*ни…»[160]; «Na rokoch sudowych zemskych wodle poradku statutowoho o swetoy Troycy swiate rymskom prypalych...» («На паседжаннях судовых земскіх паводле палажэнняў Статуту у святую Тройцу, рымскае свята, прыпадаючых...»).[161] Адзначым пры тым, што судовыя паседжанні, у т.л. трыбунальскія, паводле традыцыі і законаў праводзіліся ў акрэслены тэрмін (трыбунальскія – спачатку некалькі разоў на год, пазней два разы, урэшце раз на год), і заўсёды ў актах пазначаліся з дапамогай згадкі рэлігійнага свята: «...на двоихъ рокахъ покладалъ позвы: оденъ на роки о Светом Михалѣ, святѣ Рымскомъ в року прошломъ осмдесятъ третемъ сужоные выданый, а другій на роки Трикорольскіе, в року нинѣшнем осмдесятъ четвертомъ минулые покладалъ...»[162] ; «...году теперь идучомъ тисеча шестьсот двадцатомъ, месеца Октебра шестого дня, тутъ у Виль-

[160] НГАБ, ф.694, воп.4, спр.956 (т.2), арк.389.
[161] АВАК, т. 33 -Вильна, 1890 - с. 73.
[162] АВАК, т. 2 - Вильна, 1867 - с.8.

не подъ часъ отправованья роковъ земскихъ Михайловскихъ будучом»[163]. Тэрмін правядзення сесіі акрэсліваўся спецыяльнай сеймавай ці сеймікавай пастановай і зацвярджаўся каралём, такі ж парадак існаваў пры змене ці ўдакладненні тэрміну.

Яшчэ адной акалічнасцю, якая ўскладняе, а часам нават робіць немагчымым дакладнае вызначэнне даты, пазначанай у крыніцы святам ці прысвяткам, з'яўляецца наяўнасць у царкоўным календары аднайменных святых ці іншых шанаваных асобаў (Ганна, Юры, Мікалай, Марыя); апрача таго праз увесь каляндар праходзяць святы багародзічнага цыклу. Не заўсёды ў крыніцы згадваецца, якi менавіта святы, апостал ці пакутнік, ці якое са святаў багародзічнага цыклу маецца на ўвазе.Так, да прыкладу, у прывілеі віленскаму цэху кушняроў, дадзеным Стэфанам Баторыем, наступным чынам агаворваюцца абавязкі цэхавых майстроў у дачыненні да горада: «Маютъ они сытити на врочистые свята шесть кроть до року, то есть: ку дню светого Духа, ку панне Маріи и Покрову, и Миколе светому, ку Божому нароженью и Великодню».[164] У дадзеным выпадку не пазначана, якое свята багародзічнага цыклу («ку панне Маріи») маецца на ўвазе – Звеставанне, Успенне, Раство Багародзіцы ці іншае. Што ж датычыцца Св. Міколы, у каталікоў ён узгадваецца ў літургіі толькі 6 снежня, а ў праваслаўных яго дзень святкуюць двойчы – 6 снежня і 9 мая. Аднаўленне даты тут можа быць толькі на падставе логікі і ведання эпохі, але і тады належыць рабіць агаворку. Лічачы па парадку пераліку святаў, выстаўляць пачастунак кушняры павінны былі на Раство Багародзіцы – 8 верасня (яно святкуецца перад Пакровам і пасля пераходнага свята Тройцы), а таксама на Міколу восеньскага – 6 снежня. Пацверджаннем таго, што ў дадзеным дакуменце гаворка ідзе менавіта пра 6 снежня, можа служыць іншы акт, які датычыць таксама цэхавых спраў і які быў створаны ў гэты ж час – статут

[163] АВАК, т.20 - Вильна, 1893 – с. 264
[164] АВАК,т.10 - с.8.

віленскага цэха капялюшнікаў і валюшнікаў, які ўжо згадваўся намі вышэй. Адна з дат у ім напісана наступным чынам: «Dat w Wilniewe środę przed świętem śwętego Mikołaja biskupa, dnia IIImiesąca Decembra, anno MDCXXXVI» («Дадзены ў Вільні ў сераду перад святам Святога Мікалая біскупа, дня 3 месяца снежня, года 1586»)[165].

Аналіз ужывання ў якасці даты нерухомых святаў паказвае дынаміку змен у канфесійнай сітуацыі на беларускіх землях. На працягу XIV-XV стст. доля каталіцкіх святаў у датах актавых крыніц паступова павялічваецца, а ў XVI-XVII стст. яны пачынаюць займаць дамінуючае становішча. Каталіцкія святы ў гэты час ужываюцца для датавання і вызначэння тэрмінаў нават там, дзе справа не датычыць толькі католікаў, а часам і тады, калі гаворка ідзе толькі аб праваслаўных. Яскравым прыкладам падобнай тэндэнцыі могуць служыць фундушавыя запісы Жыгімонта Аўгуста за 1565 г. і Стэфана Баторыя за 1581 г. на шпіталь пры праваслаўнай царкве Прачыстае Багародзіцы ў Гродна, упісаныя ў гродскую кнігу ў 1596 г. Паводле ўпісу загадвалася, каб «певная сума пенезей, то есть десеть копъ грошей литовское личбы, в кождый рокъ на певный часъ, то есть на день светого Мартина месеца ноября одинацотого дня, до того шпиталю въ руки старшому шпиталъному отдавана была»[166]. І ў католікаў, і ў праваслаўных святы біскуп Марцін Турскі (Марцін Міласэрны) уваходзіць ў лік шанаваных святых. Але дні яго шанавання розныя. У праваслаўных Св. Марцін (Мартын) узгадваецца 13 лютага. У каталіцкім літургічным календары дзень Св. Марціна прыпадае на 11 лістапада, але паколькі для каталікоў гэта быў адзін з найбольш паважаных святых, яго свята адзначалася тры дні – 10, 11 і 12 лістапада. Згодна з традыцыяй дзень Св. Марціна лічыўся ў літвінаў і балтаў апошнім восеньскім святам, у гэты дзень у вёсках абіралі старастаў,

---

165 Тамсама,с.29.
166 АВАК, т. 1 - Вильна, 1865 - с. 14.

разлічваліся з кавалём і пастухом.[167] Дзень Св. Марціна быў у тыя часы тэрмінам складання падаткаў да дзяржаўнага скарбу, калі рабілася рэвізія і падлік: «A liczbę zaś na ś. Marcin w Warszawie y w Wilnie uczynić dostatecznie będą powinni przed Pany podskarbbiemi, Komornymy Litewskim, przy bytności Szafarzow naznaczonych...» («А колькасць жа на св. Марцін у Варшаве і ў Вільні дастаткова павінны зрабіць перад панамі падскарбіямі каронным і літоўскім у прысутнасці шафараў[168] прызначаных»)[169]. Такім чынам, грошы на шпіталь пры праваслаўнай царкве, як сімвал каралеўскай ласкі, ахвяраваліся на дзень аднаго з найбольш шанаваных каталіцкіх святых, у вялікае свята каталіцкіх вернікаў.

Асаблівасцю ўжывання нерухомых святаў была тая акалічнасць, што ў розных мясцовасцях па-рознаму шанавалі розных святых, у розных парафіях ці прыходах вызначаліся, апрача агульнашанаваных, і свае, мясцовыя патроны, дзень якіх быў святочным днём і асобна адзначаўся ў календары. Пры тым гэта мог быць дзень, звязаны з нейкім эпізодам з жыцця ці ўшанавання святога, пакутніка або апостала, які не адзначаўся спецыяльна касцёлам ці царквой (перанясенне мошчаў, зафіксаваны ў дадзенай мясцовасці цуд або інш.). Часам такія даты таксама станавіліся элементам лічэння часу і пазначаліся ў дакументах. Але яны маглі знікнуць цераз нейкі перыяд, і цяпер аднавіць падобную дату дастаткова цяжка. Пералік такіх свят адносна каталіцкіх парафій Польшчы даецца ў «Chronologii polskiej» пад рэдакцыяй Уладарскага[170], але што датычыць нашых земляў, пакуль што падобнае даследаванне і падсумаванне не зроблена.

[167] Климка Л.А. Рунические календари в Литве //Историко-астрономические исследования. Выпуск XVIII / ответственный редактор А.А. Гурштейн, Москва, 1986 – с.343.(339-344)

[168] У дадзеным выпадку - назва ўрада дворскага, асоба, якая распараджалася грошамі, прызначанымі на ўтрыманне двара, і падпарадкоўвалася падскарбію.

[169] Volumina Legum. Przedruk zbioru praw. T. 2 – s. 217.

[170] Święta i święci kościoła rzymskiegoobchodzone w Polsce./Włodarski B. Chronologia polska – s, 221-261.

## Рухомыя святы і іх выкарыстанне для датавання

Рухомыя святы не маюць фіксаванай даты ў хрысціянскім рэлігійным календары, што абумоўлена іх паходжаннем, сувяззю са старажытным іўдзейскім месячным календаром. Гэтыя святы найбольш старажытныя ў хрысціян і грунтуюцца на Старым Запавеце. Гісторыя іх паходжання, распрацоўкі канонаў святкавання добра вывучана, таму абмяжуемся толькі найбольш істотнымі для нашай праблематыкі звесткамі. Парадак рухомых хрысціянскіх святаў залежыць ад даты святкавання галоўнага з іх – Пасхі (Вялікадня). Пасха – дзень святкавання ўваскрэсення Хрыста, – кананічна была рэгламентавана на Нікейскім зборы 325 г. Да гэтай рэгламентацыі дзень ўваскрашэння па-рознаму вызначаўся ў раннехрысціянскім свеце. У малаазійскай рымскай правінцыі Асія ўзнікла плынь хрысціянства, прадстаўнікі якой лічылі, што Пасху належыць святкаваць паводле іўдзейскага каледара, г.зн. пасля 14 нісана. Паводле свяшчэннага падання, Хрыстос быў распяты ў пятніцу, у дзень іўдзейскага свята Пасхі і ўваскрос ў наступную нядзелю. Іўдзейскі каляндар быў месячным. Ён быў заснаваны на руху Месяца адносна Зямлі і зор. У гэтым календары было 12 месяцаў па 29 і 30 дзён і 354 дні. Такім чынам, іўдзейскі каляндар апярэджваў сонечны на 11-12 дзён, і дзень Пасхі «вандраваў» па сонечным календары, пераходзячы ў іншыя месяцы і сезоны. Пазней месячны іўдзейскі каляндар быў рэфармаваны шляхам дадання дадатковага г.зв. эмбалісмічнага месяца. Каб сінхранізаваць месячны каляндар з рухам Сонца, час ад часу да года дадавалі адзін месяц. Існавалі два цыклы ўвядзення такога дадатковага месяца – 8-і 19-гадовы. Апошні, больш дакладны, быў акрэслены ў Старажытным Кітаі і Індыі, а затым нанова адкрыты ў 432 г. да н.э. грэчаскім астраномам і матэматыкам Метонам і атрымаў ягонае імя[171].

[171] Климишин И. А. Указ. соч.- с.54

У іўдзейскім календары Пейсах (першапачаткова – дзень плёнаў, дзень складання ахвяры богу, затым – адзначэнне дня ўратавання яўрэяў у час аднаго з пакаранняў у Егіпце) заўсёды святкаваўся ў сярэдзіне месяца, калі на небе была поўня. У той год, калі быў распяты і ўваскрос Хрыстос, 14 нісана і поўня адбыліся пасля веснавога раўнадзенства. Для іўдзееў, якія жылі ў той час па месячным календары з эмбалісмічным месяцам, гэта не мела прынцыповага значэння. Для хрысціян жа, якія карысталіся сонечным календаром, прынцыповай станавілася фіксацыя дня ўваскрэсення ў нядзелю пасля веснавога раўнадзенства і поўні. Яшчэ адной прычынай, якая абумовіла розныя дні святкавання Пасхі ў тых хрысціян, якія не падтрымалі меркаванне асійцаў, было рознае вызначэнне дня раўнадзенства, а таксама выкарыстанне розных цыклаў – Метонава ці 8-гадовага пры вылічэнні дня поўні. У Рыме і ў Александрыі былі складзены пасхаліі (табліцы, якія акрэслівалі дні Пасхі і іншых рухомых хрысціянскіх святаў), але даты святкавання ў іх былі рознымі, паколькі ў падставы вылічэння былі пакладзены розныя месячныя цыклы. Усе гэтыя разыходжанні часам прыводзілі да канфліктаў паміж рознымі хрысціянскімі супольнасцямі і ўрэшце выклікалі неабходнасць узгадніць і ўніфікаваць прынцыпы вылічэння Пасхі для ўсяго хрысціянскага свету. Гэтую задачу павінен быў вырашыць Нікейскі збор.

Тэксты рашэнняў самога збору хрысціянскіх іерархаў у Нікеі да нас не дайшлі, але захаваліся іншыя сведчанні і дакументы, якія дазваляюць акрэсліць каноны, вызначаныя ім.[172] Спынімся на тых, якія маюць істотнае значэнне для нашай праблематыкі. Паводле рашэнняў у Нікеі раўнадзенства атрымала фіксаваную дату – 21 сакавіка. Пасха ж павінна была святкавацца ў першую нядзелю пасля раўнадзенства і настаўшай пасля гэтага раўнадзенства поўні. Паколькі фазы Месяца, а так-

[172] Огицкий Д.П. Канонические нормы православной Пасхалии // Богословские труды. - 1971. - № 7. - С. 204-211.

сама заснаваны на іх тыдзень з’яўляюцца рухомымі адносна сонечнага календара, рухомай будзе і Пасха.

Паколькі дата раўнадзенства дакладна акрэсленая і замацаваная, існуе адрэзак, які называюць пасхальнымі межамі – гэта час, у які Пасха можа адбыцца. Ён акрэсліваецца датамі 22 сакавіка – 25 красавіка. Найраней Вялікдзень можна святкаваць у тым выпадку, калі поўня прыпала на дзень раўнадзенства і суботу. Тады наступная нядзеля – 22 сакавіка – можа быць святам. У тым выпадку, калі поўня была 20 сакавіка ў суботу, прыйдзецца чакаць месяц да новай поўні і толькі тады святкаваць Пасху.

Існуе меркаванне, што паводле біблейскіх канонаў Вялікдзень нельга святкаваць адначасова з іўдзейскай Пасхай, і таму пры такім супадзенні праваслаўныя перасоўваюць сваё свята.[173]Сучасныя праваслаўныя тэолагі і гісторыкі царквы ставяць пад сумнеў дадзенае сцвярджэнне. Так, Д.П.Агіцкі ў артыкуле, прысвечаным праваслаўным канонам Пасхі і сутнасці рашэнняў Нікейскага збору, піша наступнае: «Новый вопрос, который предстояло решить Никейскому Собору, состоял в следующем: всегда ли следует считать, что 14 нисана — это то полнолуние, которое считается 14 нисана у евреев, или же христианам следует иметь по этому вопросу свое мнение и решать вопрос о первом весеннем лунном месяце и его четырнадцатом дне самостоятельно, с учетом более точных астрономических данных?…Чтобы положить конец таким расхождениям, Никейский Собор … определял всем следовать второй практике, основанной на самостоятельном, не зависящем от еврейского календаря, решении. Таков смысл Никейского определения и запрета праздновать Пасху «с иудеями» (μετά των Ιουδαίων) до весенне-

[173] Я. Крук і А.Катовіч, да прыкладу, пішуць наступнае «В соответствии с ветхозаветной историей и событиями последних дней жизни Христа новозаветная пасха не может праздноваться одновременно с иудейской (что зачастую встречается в практике католической церкви). – Крук Я. Котович А. Колесо времени: традиции и современность. – 3-е изд., испр. и доп. – Мн., Беларусь, 210 – с.133.

го равноденствия.»[174] Дыскусія вакол трактавання пастановаў Нікейскага збору ў праваслаўнай багаслоўскай літаратуры яшчэ ідзе, але для гістарычнай храналогіі і нашай праблемы істотнае значэнне маюць каляндарныя і астранамічныя падставы вылічэння Пасхі. З часоў Нікейскага збору ў якасці кананічнага быў вызначаны 19-гадовы Метонаў цыкл, які ўжываўся ў Александрыі, звычайна яго таксама называюць Александрыйскім. Да 8 ст. іўдзейскі Пейсах і хрысціянская Пасха неаднаразова супадалі, пасля ж з-за натуральных прычын – апярэджвання месячнага іўдзейскага календара і адсоўвання дня іўдзейскага Пейсаха далей ад вясновага раўнадзенства – адначасовае святкаванне праваслаўнага Вялікадня і яўрэйскага свята сталася немагчымым. Менавіта таму праваслаўная Пасха, якая святкуецца паводле Александрыйскай пасхаліі і юльянскага календара, цяпер не патрабуе перасоўвання: яна не можа супасці з Пейсахам. Каталіцкая Пасха можа супадаць са старазапаветнай, што абумоўлена не толькі розніцай у календарах, але і тым, што касцёл адышоў ад ужывання Александрыйскай пасхаліі, распрацаваўшы ўласную. Каталіцкі Вялікдзень у 30% выпадкаў супадае з праваслаўным, у 45 % бывае на тыдзень раней, у 5 % – на 4 тыдні і ў 20 % – на 5 тыдняў; але ніколі не бывае пазней за яго, таксама не бывае розніцы ў 2 і 3 тыдні.

Вылічэнне дня Пасхі для даўніх кніжнікаў і тэолагаў не ўяўляла значнай цяжкасці. Дзеля гэтага выкарыстоўваліся спецыяльныя методыкі падліку, сярод іх – прыёмы лічэння з дапамогай суставаў рукі. Гэты спосаб часам называлі «рукой Дамаскіна», магчыма, па імені грэчаскага багаслова Яна Дамаскіна (680–760 гг.), хаця ў працах апошняга такі метад не згадваецца. Апісанне лічэння часу, у тым ліку дат рухомых святаў з дапамогай суставаў рукі дае ў «Псалтыры з часаслоўцам», надрукаваным у Заблудаве ў 1569 г., Іван Фёдараў. Да апісання прыкладаюцца малюнкі.[175]

---

[174] Огицкий Д.П. Канонические нормы православной Пасхалии - с. 205.

[175] Падрабязней аб дадзеным метадзе лічэння гл.: Климишин И. А. Указ. соч., с.263-270.




*Схемы вылічэння дня Пасхі і іншых праваслаўных святаў па суставах рукі. (паводле Клімішына)*

Для акрэслення Пасхі ўжываліся таксама адмыслова складзеныя храналагічныя табліцы.[176] Аднымі з найбольш ранніх падобных табліц, а таксама храналагічных вылічэнняў, звязаных з Пасхай, з'яўляецца праца Кірыка Наўгародца, створаная ў 12 ст.[177] Валоданне падобнымі вылічэннямі, пры тым шараговымі святарамі, часам відавочна з дакументаў: «...арусan w Kobrzniu w lito tysiecza czterechsot szestdesat tretoie, kruch slonca perszey, a luny desaty, indykta trynancatoho, mesacza Februarya dewiatoho na sirhi z dniuy nedely, apysal Senko diak kniachy-

[176] Городецкий М.Л. Первые астрономические таблицы в средневековой Руси.// Календарно-хронологическая культура и проблемы ее изучения : к 870-летию«Учения» Кирика Новгородца – с. 35-49; Климишин И. А. Указ. соч., с. 355-371.

[177] Симонов Р.А. Некоторые проблемы«Учения» Кирика Новгородца// Тамсама, с. 5-13.

ny Serhowicz»[178]. У дадзеным выпадку дзяк Сенка, які пісаў ад імя княгіні ў 1463 у Кобрыне дарчую на праваслаўную царкву, згадвае элементы, што з'яўляюцца неабходнымі пры вылічэнні Пасхі, найперш, круг Месяца.

Матэматычную формулу для вылічэння дня Пасхі, якая можа выкарыстоўвацца як для юльянскага, так і для грыгарыянскага календароў, у 1800 г. прапанаваў Карл Гаўс. Праўда, спосаб вывядзення гэтага метаду ён не дадаў. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў матэматык удасканальваў гэты метад. У 1991 г. метад вылічэння Пасхі для грыгарыянскага календара прапанаваў астраном і матэматык Жан Мэюс (Jean Meeus). Ягоны метад сёння лічыцца найбольш дасканалым.

Пасха, як найвялікшае рухомае свята хрысціян, акрэслівае парадак іншых рухомых святаў. Менавіта ад дня, у які будзе святкавацца Вялікдзень, залежаць і перадпасхальныя, і пасля пасхальныя тыдні. У праваслаўнай і каталіцкай традыцыях размеркаванне, змест і назвы некаторых з іх адрозніваюцца. Увесь пасхальны цыкл ахоплівае 140 дзён, па 10 тыдняў перад і пасля Пасхі. Другім буйнейшым святам у пасхальным цыкле з'яўляецца Пяцідзясятніца. Яе значэнне адрозніваецца ў католікоў і праваслаўных. Так, у праваслаўнай традыцыі Пяцідзясятніца, або дзень Святога Духа, – тое ж, што і Тройца. Гэтае свята, змест якога тлумачыцца святкаваннем сашэсця Святога Духа на апосталаў, адзначаецца ў нядзелю, на пяцідзясяты дзень пасля Пасхі. У католікоў гэты дзень носіць назву Зялёных Святаў, Дня Святога Духа, а Тройца адзначаецца цераз тыдзень пасля яго. У сувязі з гэтым, да прыкладу, павінна вызначацца дата наступнага дакумента: «Dan w Warszawie w piątek przed swiętem Troycy swiętej bliszy, roku Panskiego tysiąc sześćsetnego trzydestego, panowania krolewstw naszych Polskiego czterdziestego trzeciego, a Szweckiego trzydiestego siodmego roku» («Дадзены ў Варшаве ў пятніцу, якая бліжэйшая перад святам Святой Тройцы, года Хрыстова тысяча шэсцьсот трыццатага,

---

[178] АВАК, т 33 - с.4.

уладарання каралеўстваў нашых Польскага сорак трэцяга, а Шведскага трыццаць сёмага года»).[179]

Для работы з крыніцамі, якія паходзяць з беларускіх земляў, неабходна ўлічваць розніцу не толькі ў назвах, але і ў часе, калі адзначаецца рухомае свята, якая існуе паміж каталіцкай і праваслаўнай традыцыямі. Так, пры аналізе дзвюх ніжэй прыведзеных дат, належыць браць пад увагу, што ў 1582 год касцёл перайшоў да грыгарыянскага календара, і дата Пасхі і залежных ад яе святаў будзе вылічвацца па іншых формулах і табліцах. Першы з гэтых дакументаў, які ўхваляе дамову паміж Вітаўтам, Ягайлам і Сігізмундам ў дачыненні да земляў Русі, Падоліі і Малдовы, складзены ў 1412 г. і мае наступную дату ў фармуляры: «Dan w Trokach, w sobotę po Wielkiej nocy» («Дадзены ў Троках у суботу па Вялікдню»)[180]. Тут Вялікдзень агульны і для праваслаўных, і для католікаў. Другі таксама абапіраецца на датаванне з дапамогай рухомага свята, але ўжо каталіцкага, паводле нядаўна прынятага грыгарыянскага календара: «Sub positione feria secunda post Invocavit anno Domini 1590» («Пазначаецца панядзелкам пасля першай нядзелі Вялікага посту года Гасподня 1590»).[181] Да таго ж трэба ўлічваць, што каталіцкія святы праходзілі эвалюцыю, у літургічны каляндар дадаваліся новыя, або змяняўся статус ужо існуючых святаў. ІІ Ватыканскі збор 1962–1965 гг. правёў літургічную рэформу, унёс папраўкі ў каляндар як рухомых, так і нерухомых святаў. Таму менавіта, працуючы з дадзеным элементам летазлічэння, даследчык не павінен дапускаць анахранізмаў.

Звычайна ў працах па храналогіі, найперш польскай, дацыроўка з дапамогай святаў вызначаецца як касцёльны каляндар. У ім пазначэнне святаў робіцца на латыні, акрэсліваюцца асобна таксама дні тыдня, звязаныя з парадкам літургіі. Для

---

[179] АВАК, т.20 – с.297.

[180] Skarbec dyplomatów. -s 9

[181] АВАК,т. 33 - с.72.

пазначэння асобных дзён ужываліся наступныя даты літургічнага календара:

- *Dominika Resurectionis* – Пасха;
- *Septuagesima* – пачатак Вялікага посту (Сямідзясятніца, першы дзень пасхальнага тыдня, перадпосце);
- *Dies Cinerum, caputjejunii* – Папелец, серада, якая пачынала Вялікі пост;
- *Quadragesima* – Вялікі пост
- *Ascensio domini* – саракавы дзень пасля Пасхі, Узнясенне, заўжды ў чацвер;
- *Dominica Pentecostes* – Зялёнае Свята, Дзень Святога Духа, Пяцідзясятніца;

Асобна пазначаліся нядзелі і некаторыя важныя для вернікаў дні. Часам яны атрымлівалі назву, выпрацаваную на падставе першых словаў Інтраіту (уступнай часткі літургіі), які выконваўся ў гэты дзень. Прывядзем некаторыя з іх, што найчасцей сустракаюцца ў дакументах:

- *Invocavit* – першая нядзеля Вялікага посту;
- *De Passione, De Palmis*– апошняя нядзеля перад Пасхай;
- *Laetare* – чацвёртая нядзеля пасля Пасхі;
- *In Coena Domini* – чацвер перад Пасхай, Вялікі чацвер;
- *In Parasceve* – пятніца перад Пасхай, Вялікая пятніца;
- *Sabbatum Sanktum* – субота перад Пасхай, Святая субота;
- *Conductus Paschae, Albis, Quasimodo* – Праводная нядзеля, першая пасля Пасхі;
- *Dominica prima Adventus* – першая нядзеля чатырохтыднёвага посту перад Раством Хрыстовым;
- *Gaudete* – трэцяя нядзеля чатырохтыднёвага поста перад Раством Хрыстовым (Адвента);
- *Lux fulgebit* – першы дзень пасля Раства Хрыстова;
- *Puer natus* – другі дзень пасля Раства Хрыстова.

Характэрны прыклад такога датавання дае ў артыкуле аб дачыненнях з Ордэнам А.Ліцкевіч. Дагавор паміж магістрам

Лівоніі Вільгельмам фон Фрымерсгаймам і Ягайлам і Полацкай зямлёй аб перамір'і да свята Пяцідзясятніцы датаваны быў так: «feria  proxima, qua cantatur Oculi post Dominicanum» («у бліжэйшы дзень пасля нядзелі, у якую пяецца Oculi»). А. Ліцкевіч наступным чынам каментуе дату : «Вялікі пост у 1380 г. пачынаўся 6 лютага. Згаданая ў тэксце дакумента Dominica Oculi – трэцяя нядзеля Вялікага посту. Названа паводле першых радкоў імшы, якая пачынаецца словамі: «Oculi mei semper ad Dominum, quia ipse evellet de laqueo pedes meos» (Пс. 24:15). У 1380 г. гэтая нядзеля прыпадала на 26 лютага, адпаведна наступны пасля яе дзень: панядзелак 27 лютага». [182] Такое ж датаванне сустракаем у дарчай, складзенай у 1443 г. і ўпісанай у кнігі Драгічынскага гродскага суда: «Actum et datum Bude, feria sexta proxima ante dominicam Oculi».[183]

Дастаткова часта, як гэта адзначалася ў выпадку нерухомых святаў, згадка каталіцкага або праваслаўнага свята пасхальнага цыклу можа сведчыць аб канфесійнай прыналежнасці аўтара дакумента або іншай асобы, якая мае да яго дачыненне.

Рухомыя святы пры ўжыванні для вызначэння перыядычных тэрмінаў штогод даюць розныя даты. Гэтая акалічнасць не прымалася да ўвагі ў мінулым, рухомыя святы маглі фігураваць у тэрмінах побач з нерухомымі, што давала таксама штогод іншую карціну размеркавання акрэсленых падзей і абавязкаў. Дзеля ілюстрацыі прадставім некалькі прыкладаў. Тэрмін выплаты чопавага наступным чынам акрэсліваўся пры Жыгімонце III: «Ktore to czopowe na Seymie tym na potrzebę Rzeczyposp: uchwalone, masię zacząć od przyszłej Wielkiiey nocy...» («Гэтае чопавае на Сейме тым на патрэбы Рэчы Пасп(алітай) прызнанае, павінна пачацца ад будучага Вялікдня…)[184]. У XVII ст. наступным чынам акрэсліваліся тэрміны выплаты павіннасцей

[182] Ліцкевіч, А. Дагаворы паміж князямі ВКЛ, нобілямі Жамойціі і прадстаўнікамі Тэўтонскага ордэна ў Прусіі і Лівоніі (1367-1398 гг - с.312

[183] АВАК, т. 33 - с.3.

[184] Volumina Legum. Przedruk zbioru praw. – T. III- Petersburg, 1859, s 273.

чыншавікамі: «Powinnośći. Ci wszystcy powinni placić na rok trzykroć każdy z nich po dwanasci pieniendzy, to jest o Bożym Narodzeniu, o Wielkiej nocy, o swiętym Pietrze, a kiedy by tego ptrzeba była oswiętym Pietrze powinni na tłok do żniwa dzień ieden po iednym człowieku...» («Павіннасці. Гэтыя ўсе павінны плаціць штогод тройчы кожны з іх па дванаццаць пенязей, гэта значыць на Раство Хрыстова, на Вялікдзень, на Святога Пятра, а калі будзе патрэба на Святога Пятра павінны на талаку да жніва адзін дзень па адным чалавеку…).[185]

Якім чынам ужываць ці называць святы ў дакументах – жорсткіх правілаў не існавала. Фактычна, адзінай больш-менш устойлівай традыцыяй было напісанне іх з вялікай літары, а таксама пазбяганне змяшчэння ў адным храналагічным шэрагу каталіцкіх і праваслаўных святаў. Таму менавіта, у адной крыніцы можна сустрэць усе магчымыя прынцыпы напісання рэлігійных святаў, уключаючы народныя назвы і лацінскае іх пазначэнне, рухомыя і нерухомыя: «Roki Ziemskie Halickie, ktore według konstytucyi *anni* 1609 w Poniedziałek po S.Troycy do sądzenia naznaczone były, znosiemy: a miasto nich, aby były *feria secunda post Dominicam Iubilate*, a ponich Trębowelskie we dwie niedziele sądzone, uchwalamy. Insze roki Powiatu tegoż według pierwszej konstytucyi, w pierwszy Poniedziałek po Gromnicach, i po Sw. Marcinie przypadające, *in robore* zostawiamy" (Рокі земскія Галіцкія, якія паводле канстытуцыі 1609 у панядзелак па С. Тройцы для суда прызначаны былі, адменяем: а замест іх каб былі ў панядзелак пасля *Dominicam Iubilate*, а пасля іх Трэмбавецкія цераз два тыдні ўхваляем. Іншыя рокі павету гэтага ж, паводле першай канстытуцыі ў першы панядзелак па Грамніцах і па Св. Марціне прыпадаючыя, у моцы пакідаем»)[186]. У дадзеным прывілеі Жыгімонта III ужыты для датавання два тэрміны для рухомых дат літургічнага календара – Тройца і

[185] АВАК, т.20 – с. 283.
[186] Volumina Legum. Przedruk zbioru praw. T 3. –s.143

Dominicam Iubilate. Апошні – пазначэнне, якое ўжывалася для трэцяй нядзелі пасля Вялікадня, што звязана з парадкам літургіі ў гэты дзень. Інтраіт пачынаўся радкамі 66 (65) псалма «Jubilate Deo omnis terra». Тут жа два нерухомых святы – Грамніцы і дзень Св. Марціна. Ужываецца лацінская назва аднаго з дзён пасхальнага цыклу і народная назва нерухомага свята Стрэчання Гасподня (Грамніцы), якая была характэрнай для беларусаў і ўкраінцаў.

## Юльянскі каляндар

Каляндарная праблема для Беларусі з'яўляецца актуальнай на працягу чатырох з паловай стагоддзяў, з даты прыняцця грыгарыянскага календара. Яе вастрыня з часам паменшылася, але не знікла цалкам. Сутнасць яе базуецца на поліканфесійнасці нашага грамадства, паколькі каталіцкі касцёл і праваслаўная царква карыстаюцца рознымі календарамі. Месца і роля двух календароў у жыцці Беларусі па-рознаму выглядалі ў розныя перыяды гісторыі, што знайшло адбітак і ў паўсядзённым жыцці, і ў гістарычных крыніцах, у фальклоры і прыгожым пісьменстве.

Першым упарадкаваным календаром, які прыйшоў на нашую зямлю адначасова з хрысціянствам, быў юльянскі каляндар, які на той час быў найбольш ужываным на землях, якія раней знаходзіліся ў складзе ці пад уплывам Рымскай імперыі.

Гісторыя юльянскага календара добра апісана ў працах па храналогіі, таму спынімся тут толькі на найбольш істотнай інфармацыі аб яго паходжанні і прынцыпах лічэння часу.

Асноўныя прынцыпы юльянскага календара былі распрацаваны ў старажытным Егіпце. Паводле календара егіпцян год падзяляўся на 365 дзён, высакосных гадоў у ім не было. Працягласць Трапічнага года была з высокай доляй дакладнасці падлічана, у чым асабліва парупіліся александрыйскія астраномы, але гэта не адбілася на календары. Разыходжанне паміж каляндарным і Трапічным гадамі складала тут розніцу, якая за чатыры гады давала лішні дзень. Каляндарны год апярэджваў Трапічны, і святы і іншыя зафіксаваныя ў календары даты перамяшчаліся па сезонах. Агульны цыкл гэтага календара, г.зн., поўны абарот Трапічнага года па ўсіх месяцах і днях, складаў 1460 гадоў. Рэфармаванне каляндарнага года шляхам устаўкі дадатковага дня прадпрымалася ў Егіпце ў эліністычную эпоху. Рэформа павінна была адбыцца згодна з указам Пта-

лемея III Эвергета ў III ст. да н. э., аднак яна не прыжылася, паколькі ламала звыклы ўклад жыцця, які налічваў не адно стагоддзе.[187] Егіпетскі каляндар, як і досвед александрыйскіх астраномаў, прышоўся дарэчы ў Рымскай імперыі, дзе выкарыстоўваўся ўласны месячна-сонечны каляндар, які быў недасканалы і заблытаны.[188] Э.Бікерман адзначае, што Юлі Цэзар, які ў 46 г. да н.э. правёў каляндарную рэформу, не ўдасканальваў стары рымскі лік часу, а прыняў новы[189], заснаваны на разліках александрыйскага астранома і матэматыка Сазігена. Па імені рэфарматара дадзены каляндар і атрымаў сваё імя. Год у ім налічваў 365 цэлых сутак, а для ліквідацыі разыходжання з Трапічным годам, які налічвае 365 сутак, 5 гадзін, 48 мінут і амаль 46 секунд, кожныя чатыры гады дадаваўся адзін дзень. Такія гады атрымалі ў нашай мове назву высакосныя, якая з'яўляецца скажоным лацінскім выразам «bi sextus» – «падвойны шосты», паколькі дадатковы дзень у такім годзе з'яўляўся другім шостым днём перад сакавіцкімі календамі.

Юльянскі каляндар, заснаваны на шматстагоддзевым вопыце лічэння часу і глыбокіх для сваёй эпохі астранамічных ведах, быў амаль дасканалай сістэмай. Год падзяляўся на дванаццаць месяцаў, якія мелі назвы рымскіх багоў, а частка – нумарацыю. У пачатковыя стагоддзі сваёй гісторыі рымляне лічылі толькі месяцы, якія ўваходзілі ў цыкл сельскагаспадарчых работ. Таму менавіта, год, які пачынаўся ў сакавіку, заканчваўся дзясятым месяцам – снежнем. Паводле рэформы Цэзара год быў павялічаны на 90 дзён; з 12 месяцаў, якія яго складалі, няцотныя мелі па 31 дню, цотныя – па 30, за выключэннем лютага, які ў простым годзе меў 29 дзён, а ў высакосным 30.

Згодна з рэформай, год павінен быў пачынацца 1 студзеня, што было абумоўлена тэрмінам паўнамоцтваў чыноўнікаў,

---

[187] Климишин И.А. Указ. соч. - с. 224

[188] Падрабязней аб старажытнарымскім календары гл.: Бикерман Э. Хронология древнего мира. - с.38-41.

[189] Тамсама - с.42.

а таксама тым, што ў час рэформы на гэты дзень прыпадаў маладзік.

Юльянскі каляндар не адразу адваяваў пазіцыі сярод іншых каляндарных сістэм, якія існавалі і ў самой Рымскай імперыі, і ў яе бліжэйшым памежжы. Імперскія ўлады не ставіліся жорстка да справы распаўсюджання новага календара. Паводле даследаванняў Э. Бікермана, яшчэ ў 5 ст. н.э. некаторыя былыя рымскія правінцыі карысталіся ўласным календаром, у іншых мясцовасцях юльянскі існаваў поруч з мясцовым, а ў некалькіх гарадах і правінцыях быў парушаны. [190]Парушэнні ў адліку часу паводле новага календара былі зроблены і ў самім Рыме. Пасля смерці Цэзара пантыфікі пераблыталі парадак высакосных гадоў і на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў дадавалі дадатковы дзень кожныя тры гады замест чатырох. Апошняе выклікала неабходнасць папраўкі, што было зроблена імператарам Аўгустам у 9 г. да н.э. Дададзім, што ўслед за перайменаваннем квінтыліюса ў гонар Юлія Цэзара наступны за ім месяц атрымаў імя Аўгуста і папоўніўся адным днём за кошт лютага. Такім чынам была паламана стройная сістэма чаргавання цотных і няцотных месяцаў – наступны за цотным жніўнем верасень стаў кароткім і г.д.

Юльянскі каляндар пры ўсёй ягонай дасканаласці меў адную памылку – пры разліках не было ўлічана, што каляндарны год адрозніваецца ад астранамічнага не на 6 гадзін, а на 5 гадзін, 48 мінут і 46 секунд. Розніца ў 11 мінут і 14 секунд спачатку была непрыкметнай, але за 128 гадоў яна складала дзень, а за 1280 гадоў – 10 дзён. Апярэджваючы Трапічны год, каляндарны юльянскі год з цягам часу ўсё меней стаў адпавядаць сонечнаму рытму. Гэтая неадпаведнасць урэшце выклікала неабходнасць рэфармавання, у выніку якога з'явіўся грыгарыянскі каляндар.

На працягу двух тысячагоддзяў свайго існавання юльянскі каляндар стаў асновай для лічэння часу, для складання раз-

[190] Бикерман Э. Хронология древнего мира. - с.42-45.

настайных метадаў акрэслення рэлігійных святаў, руху небесных цел і іншых вылічэнняў.

Пры складанні Пасхалій на працягу многіх соцень гадоў, карыстаючыся юльянскім календаром, іх складальнікі злучылі ў адну сістэму ўсе неабходныя для такіх вылічэнняў цыклы, а таксама іншыя, якімі карысталіся для адліку часу. Як адзначае А.Зялінскі, на падставе юльянскага каляндара з'яўляецца магчымасць узаемаўзгадніць усе распаўсюджаныя і найбольш запатрабаваныя ў часы сярэднявечча цыклы, якімі мералі час: вялікі індыктыён, які пабудаваны на падставе вылічэння цыклічнасці размеркавання дзён тыдня і фаз месяца па акрэсленых каляндарных датах.

За пункт адліку ўзяты I год эры ад СС візантыйскага каляндара і юльянскага года. Кожныя 532 гады такое размеркаванне паўтараецца. Падкрэслім, што дадзены цыкл характэрны менавіта для юльянскага календара.

А.Зялінскі ўключыў у сваю схему таксама Круг Сонца, які дае магчымасць вылічэння вруцэлета і размеркавання па датах дзён тыдня; Круг Месяца для акрэслення фаз Месяца; візантыйскія індыкты (15-гадовы цыкл), а таксама іншыя, больш вялікія цыклы, вядомыя са старажытнасці. Падобная схема атрымала назву Светастваральнага (Миротворного) круга. Навуковец адзначае, што дадзеную схему ведалі ў краінах, дзе было прынята праваслаўе.[191]

На падставе юльянскага календара акрэсліваліся першапачатковыя пункты эры ад стварэння свету і ад нараджэння Хрыста. Юльянскі каляндар быў пакладзены ў аснову арыгінальнай сістэмы лічэння часу, якая ў храналогіі атрымала назву эры Скалігера.

***Юльянскі перыяд*** (эра Скалігера) Французскі гісторык і філосаф Жазэф Скалігер (5 жніўня 1540 г. – 21 студзеня

[191] Зелинский А.Н. Конструктивные принципы древнерусского календаря. /. «Контекст-1978», М.: «Наука», 1978. С. 62-135.

1609 г.), імкнучыся размясціць гістарычныя падзеі на адной часовай стужцы, прапанаваў дастаткова простую храналагічную мадэль, якая атрымала назву юльянскага перыяду. За пачатковы пункт адліку навуковец узяў 1 студзеня 4713 г. да н.э. Дадзеная дата была вылічана на падставе ўзгаднення трох цыклаў – 28-гадовага Круга Сонца, які ляжыць у аснове вылічэння дня тыдня; 19-гадовага Круга Месяца (цыкла Метона) і 15-гадовага цыкла індыктаў. Усе гэтыя цыклы маюць агульны перыяд у 7980 гадоў. Палова гэтай лічбы і стала пачатковым пунктам, ці эрай Скалігера. Першыя гады ўсіх гэтых цыклаў у гэты дзень супадаюць.

У далейшым Джон Гершаль удасканаліў методыку Ж.Скалігера, прапанаваўшы ўсе даты ў юльянскім перыядзе паказваць як лічбу дзён, якія прайшлі ад пачатковага пункту – эры Скалігера (Юльянскі дзень).

Юльянскі перыяд не ўлічвае гады, месяцы, тыдні; ён паказвае толькі дні па юльянскім календары. Такая асаблівасць робіць яго зручным для вылічэння адрэзку часу, які аддзяляе адну падзею ад другой, ці колькасці дзён, на працягу якіх адбываецца нейкая падзея. Юльянскі перыяд да сёння выкарыстоўваецца ў астраноміі, актуальным ён з’яўляецца і для гісторыкаў, бо можа дапамагчы вылічыць працягласць гістарычнай падзеі. Да таго ж юльянскі перыяд з’яўляецца дапаможным сродкам для ўзгаднення розных сістэм лічэння часу.

Юльянскі каляндар на працягу стагоддзяў быў інструментам, з дапамогай якога вымярала час хрысціянства. Ён быў асвечаны, з’яўляючыся падставай для рэгулявання парадку ажыццяўлення культу, і фактычна ўваходзіў у пералік кананічных элементаў рэлігіі. Яго рэфармаванне, змены ў ім у гэтай сувязі маглі разглядацца як ерась, якая падрывае асновы веры.

## Грыгарыянскі каляндар

Грыгарыянскі каляндар не з’яўляецца арыгінальнай сістэмай лічэння часу, паколькі грунтуецца на юльянскім календары, у якім папраўлены прынцып карэляцыі Трапічнага і каляндарнага гадоў. Фактычна, грыгарыянскі каляндар выводзіць свой радавод яшчэ са старажытнай егіпецкай сістэмы лічэння часу, у якую ўнесены папраўкі.

Гісторыя распрацоўкі грыгарыянскага календара ў агульных рысах выгдядае наступным чынам..

Галоўнай прычынай узнікнення грыгарыянскага календара была памылка ў вылічэнні даўжыні Трапічнага года і адпаведна гэтай памылцы няслушна зробленая інтэркаляцыя[192] – акрэсленне перыяда ўстаўкі высакоснага года для ўзгаднення каляндарнага і Трапічнага гадоў. У дадзеным кантэксце Трапічны год разглядаецца як адрэзак часу, за які Сонца, калі назіраць з Зямлі, праходзіцьад аднаго сонцазвароту, напрыклад, вясновага раўнадзенства, да такога ж, завяршаючы поўны цыкл змен сезонаў. Сёння працягласць Трапічнага года, дзякуючы апошнім вылічэнням, акрэсліваецца як 365 дзён 5 гадзін 49 мінут 30 секунд. Розніца паміж астранамічным годам і каляндарным, які прапанаваў Сазіген, улічваючы інтэркаляцыю, склала больш чым 11 мінут. Гэтая памылка за 128 гадоў давала адзін дзень, і калі першапачаткова яна была амаль неадчувальнай, дык цераз тысячу гадоў пасля ўвядзення юльянскага календара разыходжанне з рытмамі сонцазварота стала істотным.

Адным з першых, хто прапанаваў прывесці юльянскі каляндар у адпаведнасць з рухам сонца, быў Нічыпар Грыгара (Νικηφόρος Γρηγοράς, каля 1295 — каля 1360 гг.) – грэчаскі філосаф, астраном, пісьменнік і багаслоў. Знаходзячыся пры двары візантыйскага імператара Андроніка ІІ, які быў прыхільнікам навукі, Грыгара прапанаваў рэфармаваць калян-

[192] Інтэркаляцыя (ад лат. intercalatio — уставка, дадатак) – тут, тэрмін, які ўжываецца ў храналогіі для акрэслення метада карэляцыі астранамічных з’яў і элементаў лічэння часу.

дар, але, ня гледзячы на згоду імператара з яго думкай, рэформа не была прадпрынятая, паколькі магла выклікаць хваляванні ў імперыі.[193]

Недакладнасць юльянскага календара ў XIV ст. адзначалі як візантыйскія, так і заходнееўрапейскія кніжнікі і філосафы. Мацей Властар (? – каля 1360 г.), працы якога былі добра вядомыя і ў ВКЛ, і ў Масковіі дзякуючы перакладам украінскага кніжніка Епіфана Славінецкага, разумеючы недакладнасць календара, лічыў непатрэбнай яго рэформу, паколькі, як і многія ў яго часы, быў упэўнены ў хуткім канцы свету. Праз паўтара стагоддзі па эры ад СС наступаў 7000 год, заканчваліся выпрацаваныя Пасхаліі, меліся прароцтвы і паданні. Такой жа думкі пра непатрэбнасць рэформы ў сувязі з хуткім канцом свету прытрымліваўся Ісак Аргір (паміж 1300 і 1310 – каля 1375 гг.), візантыйскі матэматык і філосаф.[194] Дапасаванне існуючага календара да руху сонца, апрача іншага, зрабіла б магчымым супадзенне праваслаўнай і іўдзейскай Пасхі, што не адбывалася з 8 ст, калі адставанне юльянскага календара дастаткова далёка адсунула 21 сакавіка ад рэальнага вясновага раўнадзенства. Адзначым пры тым, што візантыйскія мысляры вялі адлік гадоў па эры ад СС і з дапамогай візантыйскіх індыктаў. Гэтыя элементы летазлічэння стагоддзямі былі звязаныя з юльянскім календаром у адзіную сістэму, аб чым ішла гаворка вышэй. Гэтая сістэма з'яўлялася часткай рэлігіі, яна была асвечана і кананізавана.

У Еўропе ўжо ў часы сярэднявечча таксама стала зразумелай недакладнасць юльянскага календара, але ў адрозненне ад Візантыі, дзе сістэма лічэння часу была адзінай і не змянялася на працягу стагоддзяў, тут сітуацыя выглядала інакш. У Еўропе, уключаючы ВКЛ, ва ўжытку былі розныя эры, пароснаму вёўся адлік індыктамі ці яго ўвогуле не было. Важнай умовай для ўдасканалення ці ўвогуле рэфармавання календара

[193] Никифор Григора и его «Римская история»//Григора Н.Римская история, начинающаяся со взятия Константинополя латинянами, Том 1 (1204-1341) – М, 2004 - с.12.

[194] Селешников С. И. История календаря и хронология. - с.64-65.

была поліканфесійнасць, і хаця каталіцтва з'яўлялася пануючай рэлігіяй еўрапейскіх дзяржаваў, у ім самім меліся розныя плыні. Важную ролю ў асэнсаванні неабходнасці перамен у сістэме лічэння часу адыгрывалі сацыяльныя працэсы, якія развіваліся ў еўрапейскім грамадстве – нараджэнне новага ладу, новых сацыяльных адносін, новай сацыяльнай варствы – буржуазіі.

Менавіта XIV ст. стала тым пунктам, які паклаў пачатак працэсу рэфармавання юльянскага календара. Недакладнасць яго не толькі адбівалася на адпаведнасці вылічэння Пасхі, калі каляндарнае вясновае раўнадзенства не адпавядала пазіцыі сонца, а значыць, у нейкай ступені парушала каноны. Важным чыннікам станавілася эканоміка. Ужо ў XIV ст. пачынае актыўна развівацца прамысловасць і гандаль італьянскіх гарадоў – Фларэнцыя, Сіена, Піза становяцца асяродкамі фармавання новага сацыяльнага ладу. Паколькі ў падставе гэтага развіцця ляжалі галіны, якія базіраваліся на сельскагаспадарчай сыравіне, для прамыслоўца важным станавіўся час яе збору, магчымасць перавозкі і сыравіны, і тавараў, у тым ліку марскім шляхам. Як пісалася раней, у Заходняй Еўропе ў гэты час панаваў касцёльны каляндар. Паводле рухомых і нерухомых свят датавалі не толькі акты – імі традыцыйна пазначалі этапы сельскагаспадарчых работ, выплаты падаткаў, дні кірмашоў і г.д. З-за недакладнасці календара літургічныя даты цяпер спазняліся адносна сезонных змен надвор'я і ўскладнялі арганізацыю вытворчасці і збыт тавараў. Неабходнасць дакладна ведаць час, які пры разбурэнні натуральнай гаспадаркі становіцца важным чыннікам паспяховага вядзення спраў, знайшла свой адбітак у з'яўленні першых гарадскіх гадзіннікаў. Менавіта ў XIV ст. яны пачынаюць усталёўвацца на ратушах у італьянскіх гарадах і на іншых грамадскіх будынках. Амаль адначасова з першымі італьянскімі гадзіннікамі з'яўляюцца вежавыя дзыгары ў Польшчы: у 1367 г. – у Вроцлаве; праз два дзесяцігоддзі пасля яго – у Казімежы і Мехаве; у 1390 г., у часы Ягайлы – у Кракаве.[195]

[195] Szymański J. Nauki pomocnicze historii - s.138-139.

Юльянскі каляндар і ў сярэднявеччы, і ў часы Рэнесанса мог быць рэфармаваны толькі царквой – ён успрымаўся як частка хрысціянскай традыцыі, на перагляд якой дадзены сацыяльны інстытут меў у той час манапольнае права. Вышэйшыя каталіцкія іерархі неаднойчы прадпрымалі спробу ўнесці змены ў каляндар. Адным з першых, хто зрабіў спробу такой рэформы быў папа Клімент VI. У канцы 1340-х гг. у неўзабаве набытым ім Авіньёне гэты асветлены і прагрэсіўны для сваіх часоў пантыфік стварыў камісію з астраномаў і матэматыкаў, якая павінна была разглядзець магчымасць рэфармавання юльянскага календара. Але давесці справу да выніку перашкодзіла эпідэмія чумы, адна з найбольш страшных у сярэднявечнай Еўропе. Хвароба вынішчыла амаль трэць насельніцтва кантынента. З-за эпідэміі прадпрымаць якія-небудзь рэформы было немэтазгодна, папа з дваром закрыўся ў Авіньёне і праз некалькі год памёр.

Рэфармаваннем календара меркаваў заняцца вядомы матэматык і астраном, пачынальнік трыганаметрыі Рэгіямантан (Іаган Мюлер). У сярэдзіне XV ст., працуючы ў Нюрнбергу, ён вёў астранамічныя назіранні, заснаваў друкарню, дзе выдаваў уласныя кнігі, у тым ліку аб каардынатах нябесных цел, якія передрукоўваліся і выкарыстоўваліся да XVIII ст. Ім былі надрукаваны два астранамічны календары – «нямецкі» і «лацінскі», у якіх на перыяд з 1475 па 1531 гг. былі паказаныя святочныя дні, неаменіі і поўні, даты месячных і сонечных зацменняў. Тут жа надрукаваныя былі інструкцыі па вырабу сонечных гадзіннікаў. У планах Рэгіямантана было выданне ўласнай працы аб рэформе існуючага календара пад назвай «De Instauratione Calendarii ecclesiae» («Аб аднаўленні царкоўнага календара»), аб чым ён паведамляў у анонсе ў 1474 г. Кніга не была аднак надрукаваная, рукапіс яе не захаваўся, але ў выдадзеным раней «лацінскім» календары навуковец адзначыў недахопы і памылкі пры вылічэнні Пасхі і прыклаў пасхалію 1475 –

1531 гг.[196] Рэгіямантан не рэалізаваў сваіх меркаванняў наконт календара: запрошаны папам да Рыму, як лічылася, менавіта для падрыхтоўкі каляндарнай рэформы, ён раптоўна памёр.

Спробы пачаць рэформу існуючага ў Еўропе летазлічэння прадпрымаліся яшчэ некалькі разоў, але яе мог санкцыяніраваць не столькі нават галоўны пантыфік, колькі збор. З часоў збору ў Пізе (1409 г.), а таксама Канстанцкага збору (1414–1418 гг.) менавіта агульнае рашэнне вышэйшых каталіцкіх іерархаў магло даць згоду на грунтоўныя змены ў асновах веры і ўладкаванні касцёла. Рэфармаванне календара, які быў часткай хрысціянскай традыцыі, паводле якога ішоў разлік Пасхалій, які налічваў на той час паўтары тысячы гадоў, магло адбыцца толькі тады, калі новы клас – буржуазія – набудзе належную вагу ў еўрапейскім грамадстве і паставіць пытанне не толькі аб летазлічэнні, але і аб самой царкве як сацыяльным інстытуце. Рэфармаванне календара, такім чынам, належыць разглядаць як з’яву, якая нарадзілася ў рэчашчы барацьбы Рэфармацыі і Контррэфармацыі.

Найважнейшае значэнне для замены юльянскага календара грыгарыянскім мелі рашэнні Трыдэнцкага збору, які лічыцца лёсаносным у гісторыі каталіцтва. Трыдэнцкі збор (1545–1563 гг.) фактычна правёў рэфармаванне каталіцкай царквы, зрабіўшы яе больш адкрытай для вернікаў, больш прыстасаванай для новага сацыяльнага ладу. Каляндарнае пытанне, якое разглядалася на зборы поруч з іншымі, не было тут канчаткова вырашана, але рэфармаванне юльянскага календара пасля зменаў у больш істотных для каталіцтва дагматах не выдавалася цяпер кардынальным парушэннем традыцый. Змяніць каляндар можна было і таму, што перагледжаны быў парадак літургіі. Менавіта ён у большасці краінаў Еўропы служыў для датавання і быў прывязаны да канкрэтных дзён у календары.

[196] Белый Ю. А. Иоганн Мюллер (Региомонтан). 1436—1476. М.: Наука, 1985 – с.34.

Для рэформы календара ў XVI ст. былі і іншыя, апрача сацыяльных і канфесійных, умовы. Вялікія крокі на шляху пазнання сусвету зрабіла астраномія. Геліяцэнтрычная тэорыя Каперніка, новыя астранамічныя прыборы і метады вымярэнняў дазволілі больш дакладна вылічыць працягласць Трапічнага года.

Рэформа календара, праведзеная папам Грыгорыем XIII, такім чынам, мела амаль трохсотгадовую гісторыю. Да падрыхтоўкі яе ў розныя часы працавалі Мікалай Кузанскі, Мікалай Капернік і іншыя астраномы і матэматыкі.

Падрыхтоўка рэформы рушылася ў пачатку 70-х гг. XVI ст., калі папа Грыгорый XIII стварыў камісію для распрацоўкі прынцыпаў папраўкі юльянскага календара. У склад камісіі ўвайшлі матэматыкі і астраномы браты Луіджы і Антоні Лілія. Першасную ролю ў працэсе падрыхтоўкі прынцыпаў рэформы на гэтым этапе адыграў Луіджы Лілія, які быў прафесарам ва ўніверсітэце ў Перуджы. Ён займаўся вылічэннямі фаз Месяца, склаў табліцы эмпактаў. Рукапіс яго, падрыхтаваны ў 1575 г.,увайшоў у зборнік «Compendiu em novae rationis restituendi kalendarium», надрукаваны ў 1577 г. і разасланы ва ўніверсітэты каталіцкіх краін для апрабацыі. Між іншым, гэты зборнік трапіў пры дапамозе Стэфана Баторыя і ў Кракаўскі ўніверсітэт у красавіку 1578 г. [197] Складанасць папраўкі календара была не толькі ў тым, што неабходна было вылічыць зручную і дакладную сістэму інтэркаляцый. Не менш важным было пазбегнуць памылак у вылічэннях даты Пасхі, каб новы каляндар не вельмі разыходзіўся з канонамі, прынятымі на царкоўных зборах, у тым ліку Нікейскім і Трыдэнцкім. Луіджы Лілія памёр у 1576 годзе і не паспеў ажыццявіць рэформу. Склад камісіі змяніўся, у яе ўвайшлі кардынал Д.Сірлеці, а таксама, што для нас асабліва важна, астраном і матэматык езуіт Хрыстафор Клавіюс (Clavius Bambergensis). У савецкай літаратуры па гістарычнай храналогіі гэтая постаць называецца «прапагандыстам», а не

---

[197] Włodarski B. Chronologia polska. - s. 39.

аўтарам рэформы[198], не згадваецца і ягоная прыналежнасць да ордэну іезуітаў. На нашу думку, менавіта Клавіюс зрабіў найбольш значную частку працы па акрэсленні прынцыпаў пераходу на новы каляндар. Яго пяру належыць надрукаваная ў 1588 г. праца «Novi calendarii romani apologia» і выдадзеная ў 1595 годзе работа « Romani calendarii ... explicatio». Пазднеў па просьбе папы Клімента VIII Клавіюс напісаў яшчэ пяць тамоў, прысвечаных каляндарнай праблеме. Хрыстафор Клавіюс быў вядомым матэматыкам, аўтарам папулярных падручнікаў, многа гадоў выкладаў у Collegio Romano ў Рыме. Як астраном ён стаяў на пазіцыях Пталемея, лічачы Зямлю цэнтрам сусвета, што не перашкаджала яму перапісвацца з Галілеем. Ён таксама займаўся праблемамі вымяральных астранамічных інструментаў. Важна адзначыць, што працу «Gnomonices libri octo», прысвечаную гэтай праблеме і выдадзеную ў 1581 г., Клавіюс прысвяціў Стэфану Баторыю.[199] Існуе меркаванне, што на барэльефе на грабніцы Грыгорыя XIII у базыліцы Св.Пятра ў Рыме менавіта Х.Клавіюс паказаны ў момант перадачы папе рукапісу з новым каляндаром. У савецкай літаратуры гэтая постаць акрэсліваецца як Антоні Ліліа.

21 лютага 1582 г. убачыла свет була папы Грыгорыя XIII «Inter gravissimas», якой абвяшчаўся пераход на новы каляндар у каталіцкіх краінах Еўропы. Умовы правядзення рэформы календара прадугледжвалі выняцце з лічэння часу 10 дзён – памылкі, якая назбіралася не з часоў прыняцця юльянскага календара, а ад даты Нікейскага збору, каб раўнадзенства ізноў прыпадала на 21 сакавіка. Пасля 4 кастрычніка 1582 г. павінна было наступіць адразу 15 кастрычніка. Такім чынам, між іншым, парушаўся парадак размеркавання дзён тыдня па каляндарных датах. Другой рысай рэформы было ўвядзенне новага прынцы-

[198] ХреновЛ., Голуб И. Время и календарь, М, 1989 - с.53.

[199] Падрабязней аб дзейнасці і поглядах Х.Клавіюса на каляндарную праблему гл.: James M. Lattis. Between Copernicus and Galileo: Christoph Clavius and the Collapse of Ptolemaic Cosmology - University of Chicago Press, 2010, с. 20-22;

пу інтэркаляцыі. Каб пазбегнуць на будучае разыходжання з Трапічным годам, змяншалася колькасць высакосных гадоў. Калі ў юльянскім календары паводле эры ад РХ высакоснымі лічыліся ўсе сотыя гады (напрыклад, 1500, 1600, 1700 і г.д.), дык у новым ліку сярод сотых гадоў высакоснымі станавіліся толькі тыя, у якіх дзве першыя лічбы былі кратныя 4. Іншымі словамі, за 400 год «выкідваліся» тры дні, якія заставаліся ў юльянскім календары, што дазваляла ўтрымліваць раўнавагу з Трапічным годам. Яшчэ адной умовай рэформы была тая акалічнасць, што ўвядзенне новага каляндара павінны былі ажыццяўляць свецкія ўлады. Касцёл толькі рэкамендаваў новы каляндар, а час, умовы і прынцыпы яго ўвядзення павінны былі выбіраць самі еўрапейскія краіны.

Увядзенне новага календара ў сістэму летазлічэння расцягнулася на стагоддзі і не завершана да сённяшняга часу. Такое становішча абумоўлена канфесійнымі пытаннямі, найперш разыходжаннем у меркаваннях адносна недатыкальнасці канонаў хрысціянства паміж каталіцкай царквой і праваслаўнай, а таксама пратэстантамі.

Час і акалічнасці прыняцця грыгарыянскага календара еўрапейскімі краінамі добра апісаны ў спецыяльнай літаратуры[200], таму спынімся тут толькі на асобных момантах гэтага працэсу.

Паводле папскай булы новы каляндар павінен быў пачаць дзейнічаць у каталіцкіх краінах 5 кастрычніка 1582 г. Але дадзеная дата была непрынцыповай, паколькі час рэформы вызначалі свецкія ўлады. У Францыі і Латарынгіі згодна з эдыктам Генрыха III новы каляндар уводзіўся 9 снежня 1582 г. – пасля гэтай даты адразу было 20 снежня. У Гішпаніі, адной з найбольш

[200] Rutkowski H, Gregoriańska reforma kalendarza, / Kultura polska a kultura europejska. Prace ofiarowane Januszowi Tazbirowi w sześćdziesiątą rocznicę urodzin, red. M. Bogucka, J. Kowecki, Warszawa 1987, s. 122–130. ; GingerichO. The recepcion of the Gregorian Calendar/ Gregorian Reform of the Calendar . - s.265-280; Fischer K. Appended Note. On the Calendar Reform in Bohemia and Moravia/Ibidem – s. 281-286.

каталіцкіх краін на кантыненце, паводле дэкрэта, які быў выдадзены Філіпам II 19 верасня 1582 г., новы каляндар уводзіўся ў адпаведнасці з папскай булай – 5 кастрычніка. У Свяшчэннай Рымскай імперыі, падзеленай на шматлікія землі, рэформа праводзілася ў розныя часы, зважаючы на рэлігійную прыналежнасць жыхароў і ўладцаў. Пасля 5 снежня1583 г. настала 16 снежня 1583 г. у Баварыі, Зальцбургу, Рэгенсбургу; праз месяц пасля іх грыгарыянскі каляндар пачаў дзейнічаць у Аўгсбургу; у 1584 г. – у Вестфаліі; Прусія перайшла на новае летазлічэнне ў 1610 г. У Аўстрыі таксама каляндар прымаўся несінхронна ў розных землях – Тыроль прыняў каляндар у 1583 годзе, а ў 1584 г. – іншыя аўстрыйскія землі.

У Рэчы Паспалітай каляндарная рэформа пачала ажыццяўляццаўтэрміны,прапанаваныяпапскайбулай.Такаяпаслухмянасць у стасунку да Ватыкана ў выпадку Рэчы Паспалітай таго часу, на нашую думку, патрабуе дадатковых тлумачэнняў. У 1580-я гады каталіцтва было пануючай канфе-сіяй толькі ў Кароне. ВКЛ заставалася поліканфесійным. Праваслаўе, хоць і аслабленае ў сувязі са знешнепалітычнымі фактарамі – вайной з Маскоўскай дзяржавай, падзеннем Канстантынопаля, было шырока распаўсюджана сярод ніжэйшых слаёў насельніцтва і часткі нобіляў. Актыўна развіваўся пратэстанцкі рух, да гэтага веравызнання ў той час належалі буйнейшыя магнаты, у тым ліку займаючыя вышэйшыя пасады ў Княстве. Пратэстанцкімі былі таксама залежныя ад Рэчы Паспалітай землі і гарады, найперш Рыга. Апрача таго, у разлік неабходна браць палітычнае ўладкаванне тагачаснай Рэчы Паспалітай. Кароль не з’яўляўся абсалютным манархам, унія паміж Каронай і ВКЛ толькі адно дзесяцігоддзе пераўладкавалася з персанальнай у канфедэрацыю, сепаратысцскія настроі і літвінскі патрыятызм былі вельмі моцнымі ў Вільні, з чым Баторыю даводзілася лічыцца.

На нашую думку, на рашэнне караля неадкладна ўвесці новы каляндар паўплывалі ягоныя адносіны з іезуітамі. Напярэдадні і ў час правядзення рэформы Стэфан Баторы вёў

ажыўленыя перамовы і з Ордэнам, і з папам аб адкрыцці іезуіцкіх школ і калегіумаў на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай.[201] Можна меркаваць, што ён мог быць знаёмы з Клавіюсам не столькі нават з-за спраў рэформы, колькі ў сувязі з адукацыйнымі праектамі. Але, безумоўна, кароль ведаў і аб працы календарнай камісіі, і аб ролі езуітаў у падрыхтоўцы рэформы. Гэтае меркаванне пацвярджаецца фактам пасрэдніцтва Баторыя ў перадачы першага праекта рэформы для апрабацыі ў Кракаўскі ўніверсітэт, а таксама тым, што Хрыстафор Клавіюс прысвяціў каралю Рэчы Паспалітай не кнігу па матэматыцы ці іншым навукам, якіх ён напісаў багата, а працу аб уладкаванні астранамічных прыбораў.

Шматгадовыя пошукі польскіх даследчыкаў загада ці распараджэння караля аб увядзенні новага календара не далі вынікаў. Тадэвуш Шульц, аналізуючы дакументы кароннай канцылярыі, сеймавыя канстытуцыі і іншыя акты таго часу, адзначае, што спецыяльнага распараджэння магло і не быць. Ва ўсякім выпадку, у тагачасных крыніцах не сустракаюцца спасылкі на яго пры ўвядзенні ў справаводства новага календара.[202]

Грыгарыянскі каляндар па-рознаму быў успрыняты на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, яго ўвядзенне тут залежала не толькі ад канфесійнай прыналежнасці розных земляў, але таксама ад ступені суверэнітэта ў межах канфедэрацыі. У Кароне і ў цэнтральных органах улады грыгарыянскі каляндар быў уведзены згодна з тэрмінамі, вызначанымі папскай булай. У час увядзення календара ў Варшаве адбывалася пасяджэнне сейма, і, як адзначае Т. Шульц, на ягоных дакументах была ўжо грыгарыянская дата. [203] У гродскіх кнігах, якія паходзяць са Львова, Пшэмысля, Санока і іншых магдэбургскіх гарадоў

[201] Liawszuk W. Stefan Batory i Jezuici w Grodnie: Pierwsza próba założenia kolegium/ Rocznik Grodzieński. №2-2008. - s.63.
[202] Szulc t. Wprowadzenie kaliendarza gregoriańskiego w Rzeczy Pospolitej szlacheckiej.-s.32-34.
[203] Ibidem, s.33.

Правабярэжнай Украіны, якая ўваходзіла ў склад Польшчы, пераход на новы каляндар адбыўся ў першай палове кастрычніка 1582 г., вялікапольскія землі, таксама як каронная і літоўская канцылярыі, перайшлі на новы летазлік з першым днём рэформы.[204]

Каляндарная рэформа для жыхароў Рэчы Паспалітай была надзвычай важнай і лёсаноснай падзеяй. Згадкі аб ёй знаходзім у хроніках, дыярыюшах, лістах на працягу многіх дзесяцігоддзяў: «Року 1583. Григорий XIII, римский папеж, каляндар в Римѣ отновил и дний 10 помкнул»[205]; «Roku 1582-go. Za krola Stefana Batorego rzymianie kaliędarz ruski odmienili, ja-koby swoy rzymski poprawuąc» («Года 1582-га. За караля Стэфана Баторыя рымляне каляндар рускі адмянілі, нібыта свой рымскі папраўляючы»)[206]; «Року 1583 каляндар новый выдан. За короля за Стефана, за митрополита Девочку, за митрополита Полоцкого Терлецкого ляха.»[207]

Увядзенне новага календара не было бесканфліктным як у Кароне, так і ў ВКЛ. Калізіі распаўсюджання новага летазлічэння ў Рэчы Паспалітай неаднаразова прыцягвалі да сябе ўвагу даследчыкаў. Гэтай праблематыцы прысвяцілі свае публікацыі М.Сумцоў[208], А.Дабраньскі[209], І.Мілінкевіч[210].

---

204 Ibidem, s.34.

205 Хрроніка Літоўская і Жамойцкая/ Летапісы і хронікі Беларусі. – с.570.

206 Магілёўская хроніка І. Сурты і Ю. Трубніцкага/ Тамсама. – с.592.

207 Баркулабаўскі летапіс./ Тамсама. – с.380.

208 Сумцов Н. Исторический очерк попыток католиков ввести в южную и западную Россию григорианский календарь // Киевская старина. - 1888. - N 5. - с. 235 – 258.

209 Календарный вопрос в России и на Западе . - СПб : тип. П. П. Сойкина, 1894.

210 Мілінкевіч І.З. Грыгарыянскі каляндар на Беларусі / Мілінкевіч І.З.// Наука-2009: сб. науч. ст. В 2 ч. Ч. 1 / ГрГУ им. Я. Купалы ; редкол.: А.Ф. Проневич (отв. ред.) [и др.]. – Гродно : ГрГУ, 2009. – с. 68-69; Мілінкевіч І.З. Калізіі ўвядзення новага календара Стэфанам Баторыем / Мілінкевіч І.З.// Краязнаўчыя запіскі №9 / рэдкал.: Р.В. Янчалоўская [і інш.] – Гродна, 2013. – с. 107-113

Абапіраючыся на іх працы, а таксама шэраг іншых крыніц, дадзім тут агульны агляд падзей.

Супраць каляндарнай рэформы выступілі навукоўцы з Кракаўскага ўніверсітэта. Яшчэ да яе правядзення пры апрабацыі праекта ўніверсітэт даў адмоўную характарыстыку мяркуемым зменам, спасылаючыся на парушэнне рашэнняў І Усяленскага збору. Супраць рэформы ўжо пасля выхаду папскай булы выказаўся адзін з найбольш паважаных і дасведчаных прафесараў, матэматык, астролаг, лекар і філосаф, дэкан лячэбнага факультэта Ян Лятос. У абарону юльянскага календара і дзеля крытыкі каляндарнай рэформы ім былі надрукаваны дзве работы – «Srogiego i straszliwego zaćmienia słonecznego w roku 1589 przypadającego opisanie» і «Nowa poprawa kalendarza». З-за рэзкай пазіцыі езуітаў у стасунку да яго выступу Я.Лятос вымушаны быў з'ехаць у Астрог, дзе яго горача падтрымаў тагачасны рэктар Астрожскай акадэміі Герасім Сматрыцкі. Ян Лятас да канца жыцця адстойваў правы юльянскага календара. У першыя дзесяцігоддзі XVII ст. у Астрозе ўбачылі свет яшчэ две яго працы, прысвечаныя гэтай праблеме.

Галоўную ролю ў канфліктах, якія ўзніклі ў Рэчы Паспалітай з нагоды рэформы, адыграла пазіцыя праваслаўнай царквы і пратэстантаў.

Хваляванні выбухнулі ў Львове, Вільні, Полацку. «Року 1583 каляндар новы выдан… На тот же час было великое замешание промеж панами и промеж людьми духовными, также и людьми простыми было плачу великого, нарекания сильного, похвалки, посварки, забуйство, грабежы, заклинания, видячы яко новыя свята установляли, празники отменяли, купцом торги албо ярмарки поотменяли, праве было начало пристья антихристова, у таком великом замешанью».[211] .

У Львове мясцовы каталіцкі біскуп Сулікоўскі пры падтрымцы львоўскага бурмістра арганізаваў у час праваслаўнага свята Раства Хрыстова пагромы праваслаўных храмаў, дзе

[211] Баркулабаўскі летапіс./ Летапісы і хронікі Беларусі. - с.380.

праводзілася святочная імша. Ягоны брат Войцех з атрадам шляхцічаў-каталікоў зачынялі цэрквы, выводзілі святароў з-за алтара, іншым чынам перарывалі службу. Падобныя акцыі каталікоў здзейснены былі ў Вільні і Полацку.

Каляндарная ініцыятыва Рыма абмяркоўвалася праваслаўнымі патрыярхамі ў лістападзе 1583 г., што было выклікана зваротамі вернікаў. У выніку 20 (30) лістапада 1583 года Канстантынопальскі патрыярх Іерэмія II, Александрыйскі патрыярх Сільвестр і Іерусалімскі патрыярх Сафроні абвясцілі анафему як уласна грыгарыянскаму календару, так і тым, хто ім карыстаецца. Сваю пазіцыю яны тлумачылі тым, што пры выкарыстанні для разлікаў Пасхі новага календара яна зноў можа супадаць з іўдзейскім Пейсахам. Каляндарная праблема, такім чынам, станавілася раз'яднаўчым пунктам ва унійным працэсе, які пазначыўся на Ферара-Фларэнційскім зборы.

Урэшце пасля звароту да караля праваслаўных іерархаў, найперш з украінскіх земляў, канфлікт быў разгледжаны Стэфанам Баторыем. Спецыяльным прывілеем, выдадзеным у Гродна 21 студзеня 1584 г., кароль надаў права праваслаўным карыстацца юльянскім календаром у якасці літургічнага. Паколькі каляндарныя канфлікты не сціхалі, 18 мая 1585 г. у Кракаве з'явіўся другі прывілей, які пацвярджаў правы праваслаўных на ўласны каляндар, а 8 жніўня 1586 г. – трэці, у якім праваслаўныя святы, якія раней былі непрацоўнымі днямі, павінны былі і цяпер адзначацца гэтаксама.

Грыгарыянскі каляндар не адразу быў прыняты і пратэстантамі, у тым ліку ў Рэчы Паспалітай. Праўда, на тэрыторыі ВКЛ асобных буйных выступленняў пратэстантаў супраць календара не было. Увесь накал гэтай барацьбы ўвабрала Рыга, дзе выбухнула паўстанне, утаймаванае толькі праз некалькі гадоў.

Каляндарнае пытанне абвастрылася ў сувязі з падрыхтоўкай Брэсцкай уніі. Яе натхніцель Іпацій Пацей быў палкім прыхільнікам грыгарыянскага календара і выступаў

за яго выкарыстанне ўніятамі. Але паколькі унія захавала літургічнае адзінства з праваслаўем, гэтая прапанова не была прынятая.

Спрэчкі вакол грыгарыянскага календара не сціхалі некалькі стагоддзяў. Гэтая праблематыка застаецца актуальнай і да сёння, у цэнтры яе – адпаведнасць грыгарыянскага календара пастановам Нікейскага збору і канонам святкавання Пасхі. [212]

Падкрэслім, што юльянскі каляндар у гэты час павінен быў выкарыстоўвацца ў якасці літургічнага. Справаводства, у тым ліку тое, дзе фігуравалі праваслаўныя і пратэстанты, ці праваслаўная царква і пратэстанцскія супольнасці і храмы, павінна было ўжываць грыгарыянскую дату.

Акрэсленне дакладнай даты падзеі, якая прыпадае на час пераходу на новы каляндар, з'яўляецца дастаткова складанай справай, асабліва калі для датавання выкарыстоўваецца згадка рэлігійнага свята і не пазначана яго канфесійная прыналежнасць. Так, у 1584 г. у віленскія гродскія кнігі быў занесены прывілей Стэфана Баторыя аднаму з мясцовых цэхаў, які ўтрымліваў у фармуляры наступнае датаванне звароту майстравых: «...въ року теперешнемъ тысеча пятьсотъ осьмдесятъ четвертомъ, в пятницу третее недѣли по Великодню».[213] У 1584 г. праваслаўны Вялікдзень святкаваўся 19 красавіка (па юльянскім календары), каталіцкі – 1 красавіка (па грыгарыянскім календары). У дакуменце не пазначана, які Вялікдзень маецца на ўвазе. Рашэнне па іх справе кароль прыняў 30 мая гэтага ж года. Калі адлік вёўся ад праваслаўнага свята, дык на разгляд пытання Баторы адвёў два тыдні (19 красавіка па юльянскім календары было 29 красавіка па грыгарыянскім, а пятніца на трэцім тыдні па Вялікадні – 17 мая па грыгарыянскім жа); калі ад каталіцкага – справа цягнулася амаль паўтара месяцы.

---

[212] Гл., да прыкладу, працы праваслаўных публіцыстаў, гісторыкаў царквы і тэолагаў: Златев З. Календарът и Пасхалията на фона историята. -София, 2001, с.258-434; Календарный вопрос: Сборник статей / Редактор-составитель Александр Чхартишвили. - М.: Издательство Сретенского монастыря, 2000 і інш.

[213] АВАК, т.10 - с 10

Часам удакладніць, які менавіта каляндар выкарыстоўваецца ў гэты час у крыніцы, дазваляе згадка дня тыдня, паколькі пры правядзенні рэформы парадак размеркавання іх па датах быў парушаны. Так, у кнізе Брэсцкага гродскага суда адзін з запісаў датаваны панядзелкам 15 мая 1589 г. [214] Панядзелак для гэтай даты адпавядае грыгарыянскаму календара, бо ў юльянскім календары 15 мая было нядзеляй.

Неабходна адзначыць, што ў час правядзення рэформы дакументы цэнтральных органаў улады ў фармуляры будуць мець толькі грыгарыянскую дату.

Новы каляндар мог спецыяльна пазначацца ў дакументах: «W Wizney, roku tysiąc siedmsetnego ośmnastego, dnia drugiego Iulii, ut novum» («У Візне года тысяча сямісотнага васямнаццатага, дня другога ліпеня, па новаму»).[215]

У адрозненне ад Кароны, дзе юльянскі каляндар адразу быў выдалены са справаводства, у ВКЛ ён спарадычна з'яўляўся ў актах у сувязі з рознымі абставінамі. Гэта маглі быць, як можна меркаваць, асабістыя прыхільнасці пісара ці складальніка акта. Падобнае датаванне маецца, дапрыкладу, у Драгічынскай гродскай кнізе за 1624 г. У час эпідэміі месціч Мікалай Казак і ягоная жонка склалі тастамент, якім у выпадку іх смерці пераказвалі маёмасць драгічынскай Спаскай царкве. Тастамент быў напісаны ў іх каранцінным будане і падпісаны суседзямі-мяшчанамі у тым ліку, райцамі. Фармуляр тастаменту складзены наступным чынам: «Działosię w Drogiczynie na Ruskiej stronie; mieszkaiączi w budach czasu powietrza roku Pańskiego thiszącz sesczsetnym dwudiestym czwartem, mieszіąc za podlug stare – o kalendarza dnia 16 Nowembra, przi bitnosci wielu sąszad…» («Было ў Драгічыне на Рускім баку, жывучыя ў буданах на час заразы у год Гасподні тысяча шасцісоты дваццаты чацвёрты, месяца паводле старага календара дня 16 лістапада, у прысутнасці многіх суседзяў»).[216] Зважаючы на змест тастамента, аўтарства,

---

[214] АВАК, т. 28 – с. 24.
[215] АВАК, т. 3 - Вильна, 1870 - с143.
[216] АВАК, т. 33 - с.226.

а таксама яго арфаграфію і лексіку, можна меркаваць, што ў драгічынскім праваслаўным мяшчанскім асяроддзі юльянскі каляндар актыўна ўжываўся ў гэты час. Пазначэнне менавіта такой даты ў вельмі важным дакуменце не рабіла яго несапраўдным, што было пацверджана ўпісам у гродскія кнігі.

Адметным з'яўляецца стасунак А.Філіповіча да двух календароў. У сваім дыярыюшы ён выкладае прывілеі, фундушавыя лісты, выпісы з гродскіх кніг з грыгарыянскай датай. Гэтаксама датуе і падзеі, якіх удзельнікам быў (гэта можна праверыць па ўказаных ім датах сейму ў Варшаве, у час якога ён знаходзіўся ў сталіцы). Адначасова ў супліцы, адрасаванай каралю, А. Філіповіч прыводзіць рэдукаваную з эры ад СС на эру ад РХ дату хросту Кіева Ўладзімірам, піша аб святасці і адзінай слушнасці юльянскага календара: «Которая то церковъ, прейзренемъ Божіимъ принявши щасливе крестъ святый за Володимера святого, княжата руского одъ року 987 (якъ Длугошъ, каноникъ Краковскій, въ кройници своей языкомъ латинскимъ, въ роздѣли второмъ описалъ) черезъ шестсотъ и осмъ лѣтъ, благословенствомъ пастыра власного своего, патріархи Нового Рыму Константинополского, ведлугъ артикуловъ вѣры и порядку въ сакраментахъ и календара правдиве кафолицкого, седми сенодами ствержоного и жадной клятвѣ не подпадаючого, въ покою была».[217]

Юльянскі каляндар вярнуўся ў акты ВКЛ разам з эрай ад СС у час акупацыі маскоўскім войскам часткі яго тэрыторыі ў перыяд вайны сярэдзіны XVII ст. Як адзначалася вышэй, у некаторых гродскіх кнігах, пераважна на ўсходзе і поўдні Беларусі, у час упісання дакументаў магла фігураваць дата па маскоўскім летазлічэнні.

Юльянскі каляндар пасля рэформы мог выкарыстоўвацца і ў крыніцах асабістага паходжання. Так, ён ужыты аўтарам Баркулабаўскага летапісу для датавання сваіх запісаў, выключэннем у гэтай крыніцы з'яўляюцца падзеі Брэсцкага збору, дзе

[217] Диариуш берестейского игумена Афанасия Филипповича, столб. 113.



KALENDARZ
POLSKI y RUSKI
NA ROK PANSKI 1758.
Przybyszowym, po Przestępnym drugi, á według
CHRONOLOGISTOW,

| | | | |
|---|---|---|---|
| Od Stworzenia Swiátá | 5707. | przez Krola Kazimierza | 425. |
| Od Záłożenia Rzymu | 2507. | Od Ucalet teyże przez Jagieł: | 359. |
| Od początku Imperi: Rzyms | 1786. | Od Smierci B. Jana Kantego | 287. |
| Od początku Krolestwá Pol: | [illegible] | Od záłożenia Akádei Zamoś | 169. |
| Od początku W. X. Litewsk: | 1361. | Od śmierci W. Jana Zámoys: | 153. |
| Od początku Wiary S. w Pols | 791. | Od Wiktoryi pod Chocimem | 85. |
| Od Unij W. X. Litewskiego, | 181. | Od Wiktoryi pod Wiedniem | 75. |
| Od Ustawy Trybuni Koron: | 181. | Od Szczęśliwey Koronacyi Náy- | |
| Od Záłożenia Miástá Zámościa | 178. | jasnieyszego KROLA JMCI AU- | |
| Od Záłożenia Akádemij Krákowsk: | | GUSTA III. [illegible] Rok | 25. |

KTOREGO KOSCIELNE REWOLUCYE

| Według Peryodu GRZEGORZA XIII. | Według Peryodu Juliusza Cesarza. |
|---|---|
| XI. Aureus Numerus, Złota Liczba. | Aureus Numerus, Złota Liczba XI. |
| III. Cyclus Solaris, Okrąg Słońca. | Cyclus Solaris, Okrąg Słońca III. |
| VI. Indictio Romana, Poczet Rzym: | Indictio Romana, Poczet Rzyms VI. |
| A. Litera Dominica, Litera Niedzielr | Litera Dominica Literá Niedziel: D. |

XX. Epacta, to iest Dni Roku Słonecznego nád Rok Xiężycowy I.

PRZEZ
M. STANISŁAWA z Łazow DUNCZEWSKIEGO,
w Akádemij Zámoyskiey O. P. Doktora y Mátematyki Professora,
Jásnie Oświeconego Trybunału Koronnego, Geometrę przysięgłego,
WYRACHOWANY.
w Drukarni Zámoyskiey B. JANA KANTEGO, Pátrona K. P. y W. X. L.

*Каляндар на 1758 г., складзены прафесарам матэматыкі С. Дунчэўскім. Замосце, 1757*

частка запісаў пазначана грыгарыянскай датай.

Абодва календары змешчаны былі ў папулярных у той час выданнях, якія на працягу многіх гадоў выдаваў прафесар матэматыкі ў Акадэміі Замойскай Юзаф Станіслаў Дунчэўскі. Гэтыя друкі паказвалі каталіцкія і праваслаўныя даты, эры, даты па месячным календары і інш.[218]

Вяртанню юльянскага календара на беларускія землі, а таксама выкарыстанню двух календароў у Гродзенскай губерні прысвяціла сваю магістарскую дысертацыю І. Мілінкевіч.[219] Абапіраючыся на дадзенае даследаванне і далучаючы ўласныя назіранні, матэрыялы крыніц, прастравім найбольш важныя моманты ў календарнай праблеме ў часы Расійскай імперыі.

Пераход да юльянскага календара адбываўся паступова адначасова з этапамі анексіі тэрыторыі Рэчы Паспалітай Расійскай імперыей. Канчаткова ён быў уведзены царскім указам у 1796 г. Цікавай з’яўляецца сітуацыя з Сапоцкінскім мікрарэгіёнам на заходняй мяжы Беларусі. Пасля 1795 г. ён увайшоў у склад Прусіі, дзе ў той час ужо быў прыняты грыгарыянскі каляндар, пасля 1807 г. гэты мікрарэгіён апынуў-

[218] Kalendarz polski i ruski, Kraków 1725; Zamość 1726-1736; Lwów 1737-1741; Zamość 1742-1775.

[219] Мілінкевіч І. Увядзенне і функцыянаванне грыгарыянскага календара на тэрыторыі Гродзенскай губерні ў XIX – пачатку XX стст. Магістарская дысертацыя. - Гродна, ГрДУ ім. Янкі Купалы, 2013.

ся ў складзе Герцагства Варшаўскага, а з 1815 г. – Царства Польскага, дзе таксама функцыянаваў гэты каляндар. Такім чынам, у Беларусі ёсць куток, дзе грыгарыянскае летазлічэнне дзейнічае без перарываў з 1582 г.

Вяртанне да старога календара, як можна меркаваць, аналізуючы крыніцы, у тым ліку асабістага паходжання, з аднаго боку, не было цяжкім выпрабаваннем для насельніцтва, з другога боку, не было паўсямесным і безумоўным. Юльянскі каляндар да падзелаў знаходзіўся ва ўжытку ў праваслаўных і ўніятаў у якасці літургічнага, цяпер ён толькі змяніў статус. І грыгарыянскі каляндар не знік з летазлічэння, паколькі цяпер ён стаў выкарыстоўвацца толькі як літургічны. Часам грыгарыянскія даты маглі нават у першыя гады пасля падзелу паказвацца ў фармуляры актаў, асабліва тых, якія складаліся органамі шляхецкага самакіравання і судамі. Дадзеныя ўстановы мелі ў першыя дзесяцігоддзі пасля падзелаў адносную аўтаномію, а таксама фармавалі свой штат з мясцовай, у пераважнай большасці, каталіцкай шляхты, для якой грыгарыянскі каляндар быў больш звыклым. Так, да прыкладу, выглядае дата ўпісу ў кнігу Віленскага земскага суда аб фундаванні шпіталя пры Быценскім базыльянскім манастыры ў Слонімскім павеце: «Roku tysiąc siedemset dziewięćdziesiąt siodmego, miesiąca Septembra veteris dwodziestego drugiego, ano vistili Oktobra trzeciego dnia». («Года тысяча сямсот дзевяноста сёмага, месяца верасня старога дваццаць другога, а новага стыля кастрычніка трэццяга дня»).[220]

Грыгарыянскі каляндар зноў вярнуўся ў справаводства беларускіх земляў на паўгода ў перыяд французска-расійскай вайны. У Францыі ў час Вялікай рэвалюцыі дзейнічаў рэспубліканскі каляндар, прыняты Канвентам 5 кастрычніка 1593 г., але 1 студзеня 1806 г. Напалеон зноў вярнуў ва ўжытак грыгарыянскі каляндар.[221] Намі пакуль не знойдзена акта, якім

[220] АВАК, т.33 – с. 235.

[221] Падрабязней аб французскім рэспубліканскім календары гл.: Селешников С.И. История календаря и хронология - с. 79-91.

бы на тэрыторыі Беларусі ў 1812 г. вернуты быў грыгарыянскі летазлік. Можна, аднак, меркаваць, што спецыяльнага загаду не было. Юльянскі каляндар у справаводстве быў для мясцовых патрыётаў адной з прыкмет акупацыйнай улады, і ягоная замена на звыклы, «рэчпаспалітаўскі» такім чынам станавілася натуральнай пры аднаўленні незалежнасці. Гэта было тым болей актуальна, што падкрэслівала еднасць з Каронай, а таксама Францыяй як вызваліцельніцай ад расійскай няволі. Адзін з дакументаў, які намі выяўлены, можа служыць падмацаваннем думкі аб грыгарыянскім летазлічэнні літоўскага ўрада ў 1812 г. Ротмістр Песляк скардзіўся ў органы ўлады аб наездзе і рабаванні яго маёнтка суседам. Паданне было датавана 3 жніўня і зарэгістравана гэтай жа датай, а ў змесце пры апісанні падзей было наступнае датаванне: «w roku terazniejszym 1812 na dniu 20 Jullij n.s.» («у цяперашнім 1812 годзе 20 ліпеня н.с.»)[222]. Абрэвіятура ў дадзеным выпадку з’яўляецца традыцыйным пазначэннем новага стылю, або інакш – грыгарыянскага календара.

Грыгарыянскі каляндар выкарыстоўваўся таксама ў дакументах паўстанняў 1830-1831 гг. і 1863 г. Гэта было натуральна, зважаючы, што кіраўнічыя органы паўстанняў знаходзіліся ў Польшчы, дзе паводле нададзенай яшчэ Аляксандрам І Канстытуцыі быў захаваны ў справаводстве грыгарыянскі каляндар. Следчыя справы дастаткова часта фіксуюць у паказаннях, якія давалі арыштаваныя інсургенты, падвойнае датаванне – ужывацца могуць як грыгарыянскія, так і юльянскія даты ў залежнасці ад сітуацыі, аб якой апавядае арыштаваны. Загады паўстанцкіх органаў, час прыходу ў атрад часта маюць у паказаннях (калі яны запісаныя даслоўна) грыгарыянскую дату, дата арышта, як правіла, юльянская. У ліставанні тых, хто быў сасланы, вельмі часта ўжываецца напісанне даты па абодвух календарах цераз касую рысу. Грыгарыянскія даты ўжываюцца таксама ў мемуарах паўстанцаў, у першую чаргу тых, каму ўдалося выехаць за мяжу.

222 АВАК, т. 37 – с. 256.

У часы Расійскай імперыі ўжыванне двух календароў у адной крыніцы, якая паходзіць з беларускіх земляў – з'ява дастаткова частая. Гэта было абумоўлена не толькі палітычнымі прычынамі, як у час вайны 1812 г. і паўстанняў, і не толькі тым, што грыгарыянскі каляндар захаваўся ў касцёле. Значную ролю ва ўжыванні грыгарыянскага календара адыгрывалі цесныя эканамічныя, палітычныя, культурныя і сваяцкія сувязі з еўрапейскім замежжам, а таксама з Польшчай.

Практыкай было пісаць падвойную дату ў актах у тым выпадку, калі дакументы дасылаліся ў мясцовасць, дзе функцыянаваў іншы каляндар. Менавіта так датавалася перапіска з польскімі губернямі. У гэтым выпадку першай пісалася юльянская дата, затым праз касую рысу – грыгарыянская. Калі грыгарыянская дата знаходзілася ў тэксце дакумента, яе рэдукцыю часцей за ўсё не рабілі. Характэрным прыкладам такога напісання з'яўляецца справа аб тастаменце Тадэвуша Касцюшкі.[223] У маі 1817 г. у варшаўскай «Gazecie wiejskiej» пад загалоўкам «Навіны з Салюра» была надрукавана зацемка, у якой паведамлялася, што 2 красавіка гэтага года да мясцовага натарыюса Франца Ксавера Аміста прыйшоў Тадэвуш Касцюшка, каб засведчыць свой тастамент, якім вызваляў сялян в. Сяхновічы, якімі ён валодаў, ад прыгону. Пасля смерці Касцюшкі тастамент быў прыняты да разгляду ўладамі Гродзенскай губерні, дзе знаходзілася вёска. Паказальна, што і дата зацемкі, і дата тастамента падавалася ў справах па грыгарыянскім календары без рэдукцыі на юльянскі.[224]

У перыядычным друку навіны з краін, дзе ва ўжытку быў грыгарыянскі каляндар, маглі давацца з дзвюма датамі, юльянскай і грыгарыянскай, напісанымі праз касую рысу. Належыць адзначыць, што мясцовай прэсе было забаронена цэнзурай непасрэдна пераказваць замежныя навіны, дазвалялася толькі

---

[223] Тастамент Тадэвуша Касцюшкі/ Куль-Сяльверстава С.Я. Палітыка. Культура. Асоба. – с.89-95

[224] НГАБ у Гродна, ф. 1, воп. 1, спр. 893.

перадрукоўка матэрыялаў аб замежных падзеях са сталічных выданняў.[225]

У Расійскай імперыі неаднаразова паўставала пытанне аб рэфармаванні календара. Маскоўская дзяржава перайшла на эру ад РХ у 1700 г. паводле ўказа Пятра І, але тады быў захаваны юльянскі каляндар, паколькі пераход на «лацінскі» грыгарыянскі мог выклікаць хваляванні, бо закранаў літургічныя асновы праваслаўнай веры. Праз стагоддзе пасля пятроўскай рэформы пераход на новы каляндар мог быць менш праблемным. Мэтазгоднасць такой рэформы абгрунтоўвалася тым, што з канца XVIII ст.  Імперыя стала актыўным гульцом еўрапейскай палітыкі, павялічвала эканамічныя кантакты з краінамі Еўропы, і розніца ў календарах выклікала многа нязручнасцей. Да таго ж у межах самой Імперыі грыгарыянскі каляндар выкарыстоўвалі Фінляндыя і Царства Польскае (пасля 1830 г. – польскія губерні, або г.зв. Прывісленскі край), ён ужываўся і каталіцкім касцёлам.

Упершыню прапанова аб рэфомаванні календара была высунутая Акадэміяй навук у 1830 г. Але супраць гэтага выступіў тагачасны міністр народнай адукацыі К. Лівен. Нагадаем, што 1830 г. быў годам паўстання, грыгарыянскі каляндар быў звязаны з г.зв. «польскім пытаннем» і «каталіцкай інтрыгай», паколькі ён выкарыстоўваўся ў касцёле і Царстве Польскім. Яго прыняцце ў Імперыі магло разглядацца як падрыў асноваў увараўскай формулы «самаўладдзе, праваслаўе, народнасць», якая ў гэты час станавілася галоўнай ідэалагічнай базай расійскай улады. Лівен у дакладзе Мікалаю І ахарактарызаваў мяркуемую рэформу як справу «несвоечасовую, неўласцівую,

[225] Падрабязней аб гэтым гл.: Куль - Сильвестрова С. Е Цензура в Белоруссии в первой трети XIX века (1795 - 1830). : /Книга в пространстве культуры = [Сборник статей] / Институт славяноведения РАН. - Москва: Б/и, 2000. - С. 82 - 99 ; Куль-Сяльверстава С.Я. Цэнзура на Беларусі ў часы Адама Міцкевіча. : Адам Міцкевіч і сусветная культура. кн 3 – Siedlce, 2000 – с.255-263;. Куль-Сяльверстава С.Я. Расейская цэнзура ў Беларусі. : Гістарычны альманах. Том 6. 2002. – с. 44-56.

якая можа выклікаць непажаданыя хваляванні і спакусу для розумаў». Цар у рэзалюцыі адзначыў, што «заўвагі Лівена цалкам справядлівыя».[226]



*І. Медлер 1856 г.*

У 1864 г. праект уласнага календара прапанаваў прафесар Дэрптскага ўніверсітэта Іаган Медлер. Гэта быў адзіны з найбольш шанаваных на той час у Еўропе астраномаў, кіраўнік астранамічнай абсерваторыі, стваральнік першай дэталёвай карты Месяца.[227]

Медлер прапанаваў каляндар, больш дакладны, чым грыгарыянскі. У ім памылка ў адзін дзень назапашвалася за 100 тыс. гадоў. Адмоўнай рысай дадзенага календара, аднак, была складаная сістэма інтэркаляцыі. Устаўкі тэба было рабіць, разлічваючы цыкл у 128 гадоў. Да сённяшняга дня каляндар І.Медлера з'яўляецца самым дакладным календаром, які быў створаны за ўсю гісторыю лічэння часу.

Праект рэформы календара, як няцяжка заўважыць, з'явіўся таксама, як папярэдні, у год паўстання. Магчыма, таму ў гэты час ён не быў разгледжаны. Да гэтага праекта звярнуліся толькі ў 1899 г., калі Рускае астранамічнае таварыства стварыла камісію з прадстаўнікоў розных вучэбных установаў і міністэрстваў для распрацоўкі каляндарнай рэформы. Гэтую камісію ўзначаліў Д. Мендзялееў, які ў той час быў кіраўніком Палаты мер і вагаў, створанай па ягонай ініцыятыве ў 1893 г.

---

[226] Селешников С. И. История календаря и хронология. - с.166.

[227] Аб Ё. Медлеры, як навукоўцы еўрапейскай велічыні, шанаваным студэнтамі піша, у прыватнасці, тагачасны дэрптскі студэнт, а затым вядомы пісьменнік і публіцыст П. Бабарыкін. - Боборыкин П. Д. За полвека. Воспоминания. — М.: Захаров, 2003 - с. 57.

Пытанне аб рэформе календара, як можна меркаваць, узнікла ў сувязі з агульнай тэндэнцыяй да ўніфікацыі вымярэнняў, якая ў гэты час набірала размах у Еўропе. У 1899 г. у Расійскай імперыі выйшаў дазвол аб выкарыстанні, побач з уласна расійскай, метрычнай сістэмы мер, краіна пачала актыўна ўдзельнічаць ва Усясветных выставах, далучылася да шэрагу іншых агульнаеўрапейскіх ініцыятываў у розных галінах эканомікі і сацыяльнага жыцця. Розніца ў летазлічэнні станавілася перашкодай для гэтых працэсаў.

У адказ на дзейнасць гэтай грамадскай камісіі ў Акадэміі навук была створаная свая камісія, якая знаходзілася пад апекай уладаў. У наказе ёй Мікалай II рэкамендаваў узяць пад увагу меркаванні былога міністра народнай адукацыі К.Лівена. Супраць рэформы выступіў обер-пракурор Сынода К.Пабеданосцаў, тагачасны галоўны ідэолаг самаўладдзя. На яго-ную думку, рэформа календара падарве не толькі праваслаўную веру, але і аўтарытэт манархіі. Рэформа зноў была адкладзена. Належыць, аднак, заўважыць, што матэрыялы Мендзялееўскай камісіі ў далейшым былі выкарыстаны пры падрыхтоўцы і рэалізацыі савецкай каляндарнай рэформы.[228]

На беларускія землі грыгарыянскі каляндар вярнуўся раней, чым у былыя абшары Расійскай імперыі. У час Першай Сусветнай вайны пачынаючы з лютага 1915 г. нямецкія войскі пасунуліся на тэрыторыю Беларусі і да 1917 г. выйшлі на лінію Дзвінск-Пінск. На гэтай тэрыторыі пачаў дзейнічаць каляндар акупацыйных уладаў – грыгарыянскі. На гэтую акалічнасць трэба зважаць даследчыкам, якія займаюцца падзеямі 1915–1917 гадоў.

Увядзенне грыгарыянскага календара на былой тэрыторыі Расійскай імперыі было ажыццёўлена пасля прыходу да ўлады бальшавікоў. Рэформа праводзілася хутка і рашуча. Для яе падрыхтоўкі былі выкарыстаны матэрыялы Мендзялееўскай камісіі.

---

[228] Селешников С. И. История календаря и хронология - с.167-168.

Пытанне аб календарнай рэформе было пастаўлена на адным з першых пасяджэнняў СНК 16 (29) лістапада 1917 г. Праз два месяцы была ўтворана камісія, разгляду якой прапанаваліся два праекты рэформы. Паводле аднаго з іх пераход да новага календара павінен быў ажыццяўляцца паступова і расцягнуцца на 13 гадоў – штогод з календара выключаўся адзін дзень, каб урэшце назапашаная розніца ў летазлічэнні была ліквідавана. Але прыняты быў іншы праект, згодна з якім гэтая розніца ліквідавалася адразу. Між іншым, у дзень стварэння каляндарнай камісіі (23 студзеня (5 лютага) 1918 г.) спецыяльным дэкрэтам царква была аддзелена ад дзяржавы. Як памятаем, менавіта ў інтарэсах праваслаўнай царквы Расійская імперыя некалькі стагоддзяў захоўвала юльянскі каляндар у якасці афіцыйнага. На наступны дзень 24 студзеня (6 лютага) 1918 г. быў прыняты дэкрэт «Аб увядзенні ў Расійскай рэспубліцы заходнееўрапейскага календара», які праз дзень падпісаў Ленін.

Паводле дэкрэта з ліку выдаляліся 13 дзён – пасля 1 лютага 1918 г. прадпісана было лічыць 14 лютага. Пераход на новы каляндар павінен быў ажыццяўляцца да 1 ліпеня гэтага ж года: на працягу згаданага адрэзку часу трэба было ўжываць падвойныя даты, юльянская дата пісалася ў дужках пасля грыгарыянскай. Дэкрэт тлумачыў парадак выплаты зарплат, працэнтаў па ўкладах і іншых фінансавых разлікаў за люты.

Па нашых меркаваннях, паказальнай з’яўляецца пазіцыя дзеячоў БНР у стасунку да расійскай каляндарнай рэформы і прадпісанняў дэкрэта СНК. Першая Ўстаўная грамата была прынятая Радай у дзень, калі ў Мінск увайшлі кайзераўскія войскі. Яна была датаваная падвойнай датай, як гэта рабілі ў Савецкай Расіі – 21 (8) лютага 1918 г. Прытым у даце першапачаткова была зроблена памылка, замест 8 было напісана 9. Другая і Трэццяя Устаўныя граматы датаваныя былі толькі грыгарыянскай датай. Дакрэты СНК ужо не мелі значэння для Беларусі.

## Новаюльянскі каляндар

З часу календарнай рэформы 1918 г. спачатку ў савецкай, а цяпер у постсавецкіх гістарыяграфіях склаліся правілы напісання падвойных каляндарных дат. Дата падзеі пазначаецца па двух календарах у тым выпадку, калі ў дадзенай падзеі бралі ўдзел бакі, якія мелі розныя календары. У сувязі з гэтым, дапрыкладу, падвойнымі павінны запісвацца даты паўстанняў 1794, 1830 і 1863 гадоў: паўстанцы ўжывалі грыгарыянскі каляндар, расійскія ўлады – юльянскі.

У сувязі з рэформай календара паўстае праблема правільнага вызначэння дзён нараджэння асобаў, якія нарадзіліся напярэдадні ўвядзення новага летазлічэння і жылі ў савецкі час. Дастаткова часта ў сувязі з markednymi абставінамі іх дзень нараджэння паказваўся па грыгарыянскім календары без указання юльянскай даты. Так, у савецкі час дата нараджэння Ул. Леніна адзначалася 22 красавіка 1870 г. Але гэтая дата – вынік рэдукцыі, бо Ул. Ульянаў нарадзіўся 10 красавіка па юльянскім календары, між іншым, у пятніцу, напярэдадні Пасхі. У сувязі з магчымай блытанінай, калі падобныя даты нараджэння не пазначаны па двух календарах, іх мэтазгодна праверыць.

Каляндарная праблема застаецца актуальнай у сувязі з тым, што юльянскі каляндар дагэтуль ужываецца ў якасці літургічнага. У XX ст. была спроба ягонай рэформы, у выніку чаго з’явіўся новаюльянскі каляндар. Гэты каляндар быў прапанаваны сербскім астраномам і матэматыкам Белградскага ўніверсітэта Мілуцінам Міланкавічам. У аснову новаюльянскага календара быў пакладзены стары юльянскі, але зменены быў прынцып інтэркаляцыі. Разлік высакосных дзён у ім зыходзіць з цыкла ў 900 гадоў: у параўнанні з юльянскім календаром у гэтыя 900 гадоў не дадаюцца 7 высакосных дзён, дзякуючы чаму памылка ў адныя суткі назапашваецца не за 3333 гады, як у грыгарыянскім, і не за 128 гадоў, як у юльянскім,

а за 40 тыс. гадоў. Гэты каляндар быў разгледжаны на нарадзе кіраўнікоў праваслаўных цэркваў у Канстантынопалі ў 1923 г. па ініцыятыве патрыярха Мялецproperly. На нарадзе адсутнічалі прадстаўнікі Рускай, Сербскай, Балгарскай і Іерусалімскай аўтакефальных Цэркваў.[229] На той час частка аўтакефальных праваслаўных цэркваў ужо карысталася грыгарыянскім календаром. На яго яшчэ ў часы Расійскай імперыі перайшла праваслаўная царква ў Фінляндыі. Разам з абмеркаваннем каляндарнай праблемы ставілася і пытанне святкавання Пасхі. Была высунутая прапанова святкаваць яе не паводле александрыйскай пасхаліі, як дагэтуль было, а паводле астранамічных вылічэнняў першай нядзелі пасля першай поўні, якая настае пасля вясновага раўнадзенства. Астранамічныя вылічэнні паводле гэтай прапановы павінны былі рабіцца на шырыні Іерусаліма. Прапанова прывяла да расколу ў асяроддзі праваслаўных іерархаў. Расійская, Іерусалімская, Сербская і Грузінская Цэрквы, манастыры на Афоне пакінулі ў карыстанні юльянскі каляндар і александрыйскую пасхалію. Іншыя перайшлі на новаюльянскі каляндар для вылічэння нерухомых святаў. Паколькі ён, дзякуючы скасаванню памылкі ў інтэркаляцыі, наблізіўся да Трапічнага года, на дастаткова доўгі час (2800 гадоў) даты нерухомых святаў будуць супадаць з грыгарыянскім календаром. Між іншым, з 1923 г. новаюльянскі каляндар выкарыстоўвае праваслаўная царква ў Польшчы.

Трэба адзначыць, што ў СССР была спроба перайсці на новаюльянскі каляндар. 15 кастрычніка 1923 г. тагачасны патрыярх Ціхан выдаў распараджэнне аб увядзенні новаюльянскага календара, але з-за супраціву мясцовых святароў і вернікаў мусіў адкласці гэтую рэформу на неакрэслены час.

[229] Хулап В. Ф. Реформа календаря и пасхалии: история и современность - http://www.travelingtreby.org/ZB_9-10/Orthodox-Calendar_Pagez_Rus.pdf(дата доступа -12.09.2014).

Становішча, якое склалася ў праваслаўі пасля 1923 года афіцыйна было зацверджана на Маскоўскай нарадзе праваслаўных Цэркваў у 1948 г. Паводле яго ўсе праваслаўныя павінны былі адзначаць рухомыя святы на падставе разлікаў па александрыйскай пасхаліі, што ж датычыць нерухомых святаў, паводле якога календара яны павінны адбывацца кожная аўтакефальная Царква вырашае самастойна.[230]

[230] Хулап В. Ф. Згад. твор

6



ІС ХС
НИ КА

ИЖЕ ХО СЬБЕМЬ ХРИСТИАНЬСКА
гоуцртва. и ѡ великѣмь коньстантинѣ ⁘
Помазенти иже, цртвова константинъ
великїи сын. иже абїе повелѣние вьсоупослѣ.
иже вь изгнании хртїаны сьчьстию вь
звращати вьсвоя. и храми оу бодольскы
е низлагати. хвы же цркви сьзидати.
и кь симь и з не сезаконы сьборны. якоже ида
номъ быти идольскымъ храмомъ подь ѡ
властию хвѣмь свщенникомь. и хртїа
номь единѣмь владати и воевати. и
срѣды и петкы все постити се. и внелю пра
зновати и почивати. ѿ вы оубо стртн ради.
ѡвоуже, вьскрсения ради гня. и нюде е рабы
некоуповати. ни жрьтвы явлены творити.
и на кртѣ ктомоу нераспинати кого ѿ соу
жена. блгочьстия ради еже кь кртоу хвоу.
и назлатница же свои и ѡбразь и кртъ вь ѡбра
жати по всюдоу. Иже ноу бо имѣаше мазї

+ въ лѣ. з. ѿ. ѕ. д. ендиктїона. е. го ⁘

Прадстаўлены ніжэй раздзел утрымлівае кароткія рэкамендацыі па рабоце з разнастайнымі сістэмамі вымярэння часу, якія бытавалі на беларускіх землях; формулы і табліцы для рэдукцыі дат, іх акрэслення і ўдакладнення з дапамогай ускосных звестак; спіс літаратуры, якая можа дапамагчы ў больш грунтоўным вывучэнні гістарычнай храналогіі. Паколькі беларускаму гісторыку даводзіцца працаваць не толькі з айчыннымі крыніцамі, але і з дакументамі, створанымі ў блізкім замежжы, тут прадстаўлены і матэрыялы, якія могуць дапамагчы даследчыку ў гэтым выпадку.

Пры цытаванні дакументаў у прыкладах аўтарка імкнулася прытрымлівацца прынцыпаў археаграфічнага выдання дакументаў, аднак па тэхнічных прычынах архаічныя літары кірыліцы былі заменены адпаведнымі па гучанні літарамі сучаснага кірылічнага алфавіту. Польскамоўныя і лацінскамоўныя цытаты пададзены паводле іх публікацыі ў літоўскім выданні «Метрыкі ВКЛ», пераклад зроблены аўтаркай.

## Эра ад стварэння свету, сакавіцкі, ультрасакавіцкі і вераснёўскі пачатак года.

Пры пераводзе дат з эры ад стварэння свету на эру ад Раства Хрыстова (эру Дыянісія) належыць улічваць, калі ў разглядаемы перыяд адзначаўся пачатак года. На беларускіх землях у XII–XIII стст. выкарыстоўваліся сакавіцкі і ўльтрасакавіцкі пачатак года, у XIV–XV стст. – вераснёўскі і студзеньскі, з XVI ст. – студзеньскі і вераснёўскі. Але ад гэтага правіла могуць быць адхіленні ў залежнасці ад паходжання крыніцы.

Для пераводу даты на сучасную эру, калі вядомы стыль дакумента, ужываюцца формулы і табліцы.

**Сакавіцкі пачатак года**

Калі падзея прыпадае на час паміж сакавіком і снежнем, каб атрымаць дату па эры ад Раства Хрыстова, належыць ад даты па эры ад стварэння свету аднімаць 5508 гадоў, калі падзея прыпадае на студзень-люты – аднімаем 5507 гадоў.

*Прыклады*

30 ліпеня 6727 г. будзе адпавядаць 30 ліпеня 1219 г. (6727-5508=1219).

27 лютага 6727 г. будзе адпавядаць 27 лютага 1220 г. (6727-5507= 1220).

**Вераснёўскі пачатак года**

Калі падзея прыпадае на час паміж вераснем і снежнем, каб атрымаць дату па эры ад Раства Хрыстова, належыць ад даты па эры ад стварэння свету аднімаць 5509 гадоў, калі падзея прыпадае на студзень-верасень – аднімаем 5508 гадоў.

*Прыклады*

20 верасня 6959 г. будзе адпавядаць 20 верасня 1450 г. (6959-5509 = 1450).

30 мая 6834 г. будзе адпавядаць 30 мая 1326 г. (6834-5508 = 1326).

**Ультрасакавіцкі пачатак года**

Калі падзея прыпадае на час паміж сакавіком і снежнем, каб атрымаць дату па эры ад Раства Хрыстова, належыць ад

даты па эры ад стварэння свету аднімаць 5509 гадоў, калі падзея прыпадае на студзень-люты – аднімаем 5508 гадоў.

*Прыклады*

24 лістапада 6778 г. будзе адпавядаць 24 лістапада 1269г. (6778-5509=1269).

15 студзеня 6653 г. будзе адпавядаць 15 студзеня 1145 г. (6653-5508=1145).

Калі стыль, які выкарыстоўваецца ў крыніцы, невядомы, або нельга вылічыць, у якім месяцы яна адбывалася, – указваюцца ўсе магчымыя варыянты даты. У гэтым выпадку дата запісваецца з выкарыстаннем касой рысы: 1233/1234; 1222/1223/1224 г.

## Удакладненне даты па згадцы індыкта года

Індыктам называецца нумар года ў 15-гадовым цыкле. Традыцыя лічэння індыктамі ў еўрапейскім свеце склалася яшчэ ў антычныя часы і існавала паралельна з пагадовым лічэннем. Змена індыкта наступала 1 верасня – адпаведна са зменай года па вераснёўскім стылі. Пры выкарыстанні іншых пачаткаў года – у сакавіку ці студзені – індыкт усё роўна змянялі 1 верасня.Таму вераснёўскія гады маюць адзін індыкт, усе астатнія – два. Наяўнасць індыкта ў даце крыніцы дае магчымасць удакладніць, праверыць даціроўку, а ў некаторых выпадках – і акрэсліць стыль, які ўжываўся ў дакуменце, а таксама вылічыць дату падзеі.

Індыкт можна вылічаць простай арыфметычнай аперацыяй, а можна выкарыстоўваць табліцу. Пры вылічэнні індыкта належыць нумар года па эры ад стварэння свету падзяліць на 15 – рэшта і будзе індыктам. Калі ў выніку дзялення рэшты не засталося, значыць індыкт роўны 15. Пры даце па эры ад Раства Хрыстова належыць гэтую дату перавесці ў эру ад стварэння свету і атрыманую суму падзяліць на 15. Атрыманы індыкт будзе адпавядаць для студзеньскага года студзеню-верасню, а

з верасня па студзень ён будзе на адзінку большы. Наяўнасць двух індыктаў у аднаго года стварае магчымасць удакладнення стылю крыніцы.

*Прыклады*

У крыніцы пазначана дата: 1432 год 25 верасня індыкта 11:

1432+5508=6940; 6940 : 15 = 462 і рэшта 10.

Такім чынам, індыкт 6940 года – калі выкарыстоўваецца вераснёўскі стыль, роўны 10. У крыніцы ўжыты студзеньскі стыль, дзе год мае два індыкты: са студзеня па верасень – індыкт 10, з верасня па студзень – 11. Пісар не памыліўся: указваючы дату па студзеньскім стылі, змяніў індыкт у верасні.

У крыніцы пазначана дата: 1561 індыкта 5:

1561+5508=7069; 7069: 15 = 471 і рэшта 4.

Такім чынам, індыкт вераснёўскага 7069 года будзе 4. Указаны ў крыніцы 5 індыкт, хутчэй за ўсё, сведчыць, што падзея адбывалася пасля 1 верасня, а пісар ужываў студзеньскі стыль.

У крыніцы пазначана дата: 6780 г., 17 мая, індыкта 14:

6780:15=452 і рэшта 0, значыць, індыкт года – 15.

Такім чынам, у крыніцы, хутчэй за ўсё, выкарыстаны ультрасакавіцкі стыль, паколькі пры такім пачатку года ад сакавіка да верасня будзе індыкт 14, а з верасня па сакавік – 15.

Індыкт можа быць акрэслены і з дапамогай табліцы індыктаў (Табліца № 2). Дзеля гэтага ў верхняй частцы табліцы належыць знайсці тысячы і сотні гадоў справа, калі дата дадзена па эры ад стварэння свету; або злева, калі ўжыта дата па эры ад Раства Хрыстова. У сярэдзіне табліцы належыць знайсці дзесяткі і адзінкі гадоў вылічаемай даты. На перасячэнні гэтых калонак і будзе індыкт года па вераснёўскім стылі.

Часам у крыніцах для дацыроўкі падзеі ці дакумента ўжываецца толькі індыкт, без згадкі года. У гэтых выпадках належыць прыцягваць ускосныя дадзеныя з самой крыніцы, каб акрэсліць прыблізны час падзей. Такімі ўскоснымі дадзенымі могуць быць згадкі аб князях ці каралях, у час праўлення якіх

адбывалася падзея, аб важных палітычных здарэннях ці з'явах (вайне, перамір'і і г.д.), даты якіх вядомыя.

*Прыклады*

1. У т.3 Метрыкі ВКЛ за 1440–1498 гг. змешчаны наступны запіс: «Саве, соко*л*нику се*л*цо Остапъково; выме*р* де*и* бе*з* наследъка, а соко*л*ни[к] же бы*л*. Приказ пана Товтъвиловъ у Скидли. Мая 11, инъдик(т) 1» (Литовская Метрика= Lietubos metrica/ Лит. ист. ин-т – Вильнюс: Zara, 1998 – 3-я книга записей (1940–1498). – с. 24). З прыведзенага дакумента бачна, што пан Таўтвіл загадаў даць Саве-сакольніку сяло Астапкава, уладальнік якога не меў нашчадкаў. Гэты загад быў выдадзены ў Скідзелі.

Кніга данін (Кн.3), у якой згадваецца Скідзель, дайшла да нас у копіі, складзенай ў канцы XVI ст. пры ўпарадкаванні архіва Вялікага княства Літоўскага. Па меркаванні М.Г.Беражкова, якое падзяляе і А.Груша, пры стварэнні копіі дакументы заносіліся ў яе без дакладнай храналагічнай паслядоўнасці. Таму рэканструкцыя даты можа быць зроблена толькі на падставе ўскосных дадзеных: згадцы аб аўтары загаду (Таўцівіл) і нумары індыкта.

Рэканструкцыя даты можа адбывацца наступным чынам. Таўцівіл Мантоўтавіч (Таўтвіл) быў сябрам Паноў-Рады пры Казіміры Ягелончыку. Урад, на якім ён знаходзіўся, дазваляў у той час рабіць дараванні. Найбольш ранняя вядомая згадка аб Таўцівіле маецца ў хроніцы Яна Длугаша – 1455 г., калі Таўцівіл уваходзіў у склад дэлегацыі ВКЛ да караля і вялікага князя (Цішчанка В.В. Вялікакняжацкая ўлада ў структуры органаў дзяржаўнага кіравання ВКЛ у канцы 14– пачатку XVI стст. Дысертацыя на суіск. вуч. ступ. канд. гіст. навук. – Мінск, 2006. – С.48). Таўцівіл Мантоўтавіч знаходзіўся ў складзе Паноў-Рады і ў 1460-я гады. Ён неаднаразова згадваецца ў дакументах Метрыкі ў гэты перыяд. На 1450–1460-я гады ўказвае таксама тая акалічнасць, што ў масіве дакументаў, якія знаходзяцца ў кніге данін у бліжэйшым атачэнні прыведзенай вышэй згадкі, сустракаецца імя пісара канцылярыі Якуба, час знаходжання

якога на гэтай пасаадзе акрэсліваецца 1449–1476 гг. Такім чынам, шукаемая дата з вялікай верагоднасцю можа знаходзіцца паміж 1450– 1480 гадамі.

У прыведзенай цытаце згадваецца індыкт 1 і дата 11 мая. Індыкт 1 у акрэсленым намі прамежку часу з 1450 г. па 1480 г. са студзеня па верасень маюць 1468 г., а таксама 1453 г. і 1483 г.

1468+5508= 6976; 6976 : 15= 647; рэшта 1 (са студзеня па верасень).

1453+5508=6961; 6961:15=464; рэшта 1 (са студзеня па верасень).

1483=5508=6991; 6991:15=466; рэшта 1 (са студзеня па верасень).

Супраць 1483 г. гаворыць тое, што ад першай вядомай нам згадкі Таўцівіла Мантоўтавіча як сябра Рады (1455 г.) гэтую дату аддзяляе 28 гадоў. У тую эпоху такі тэрмін палітычнага «доўгажыхарства» сустракаецца надзвычай рэдка. Малаверагодна, што Таўцівіл быў падобным выключэннем. Таму застаюцца 1453 і 1468 гады. Такім чынам, дастаткова вялікая верагоднасць, што першая згадка г. Скідзеля ў Метрыцы ВКЛ – 11 мая 1453 г., або 11 мая 1468 г. Выбар паміж дзьвюма датамі можна будзе зрабіць, ажыццявіўшы дадатковыя пошукі.

2. У крыніцы, датаванай індыктам 1, але без года, згадваецца вялікі князь Вітаўт. Час, калі Вітаўт быў вялікім князем – 1392–1430 гг. Звернемся да табліцы індыктаў. У слупку з тысячамі і сотнямі гадоў па эры ад Раства Хрыстова знойдзем 1300 і 1400. Затым пад імі ў слупку індыктаў – лічбу 1 для гэтых абодвух стагоддзяў. Пасля гэтага звернемся да дзясяткаў і адзінак гадоў, якія пазначаны насупраць адшуканага індыкта. На гэтым адрэзку часу індыкт 1 маюць 1393, 1408 і 1423 гады.

У часы Вітаўта побач з лічэннем індыктамі ўжываўся вераснёўскі стыль, таму належыць памятаць аб гэтым пры датаванні дакумента. У сучасным летазлічэнні ўжываецца студзеньскі стыль, гады якога маюць па два індыкты. Такім чынам, падзея магла адбывацца з верасня 1392 г. па верасень

| Эра ад стварэння свету | | | | Эра ад раства Хрыстова | | | 1800 | 1900 | 2000 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1500 | 1600 | 1700 |
| | | | | | | | 1200 | **1300** | **1400** |
| | | | | | | | 900 | 1000 | 1100 |
| | | | | | | | 600 | 700 | 800 |
| | | | | | | | 300 | 400 | 500 |
| | | | | | | | 0 | 100 | 200 |
| 0 | 15 | 30 | 45 | 60 | 75 | 90 | 3 | 13 | 8 |
| 1 | 16 | 31 | 46 | 61 | 76 | 91 | 4 | 14 | 9 |
| 2 | 17 | 32 | 47 | 62 | 77 | 92 | 5 | 15 | 10 |
| 3 | 18 | 33 | 48 | 63 | 78 | **93** | 6 | **1** | 11 |
| 4 | 19 | 34 | 49 | 64 | 79 | 94 | 7 | 2 | 12 |
| 5 | 20 | 35 | 50 | 65 | 80 | 95 | 8 | 3 | 13 |
| 6 | 21 | 36 | 51 | 66 | 81 | 96 | 9 | 4 | 14 |
| 7 | 22 | 37 | 52 | 67 | 82 | 97 | 10 | 5 | 15 |
| **8** | **23** | 38 | 53 | 68 | 83 | 98 | 11 | 6 | **1** |
| Дзясяткі і адзінкі гадоў | | | | | | | Індыкты | | |

1393 г., з верасня 1407 г. па верасень 1408 г., з верасня 1422 г. па верасень 1423 г. – па студзеньскаму стылю. Калі ў крыніцы была б згадка месяца падзеі, можна было б больш дакладна акрэсліць дату, а больш глыбокі аналіз крыніцы дазволіць спыніцца на адной з гэтых дат.

На беларускіх землях традыцыя лічэння індыктамі існавала да сярэдзіны XVI ст. Пазднейі індыкты сустракаюцца ў дакументах, якія зыходзілі з праваслаўнага асяроддзя. У Маскоўскай дзяржаве індыкты ўжываліся да пачатку XVIII ст.

## Дацiроўка падзей па згадках астранамiчных з'яваў

У крыніцах, асабліва летапісах і хроніках, даволі часта сустракаюцца згадкі аб астранамічных з’явах – сонечных і месячных зацьменнях, каметах. Гэтыя звесткі часам можна выкарыстоўваць для дацiроўкі падзей або для ўдакладнення стылю, якім карыстаўся аўтар крыніцы.

Выкарыстанне згадак астранамічных з’яваў для дацiроўкі крыніц павінна выкарыстоўвацца вельмі асцярожна – часам у пісьмовых помніках згадваюцца не толькі астранамічныя з’явы, якія носяць цыклічны характар, і таму могуць датавацца, але і атмасферныя з’явы, праходжанне камет ці буйных небесных цел, якія не маюць пастаяннай арбіты. Важна не блытаць гэтыя з’явы паміж сабой.

У летапісах маюцца паведамленні аб праходжанні камет. Найбольш вядомая з іх – камета Галея, якая мае час абрачэння вакол Сонца 76 гадоў. У летапісны час першае яе з'яўленне адбылося ў 912 г.

Часцей за ўсё ў крыніцах сустракаюцца запісы аб месячных і сонечных зацьменнях. Для вылічэння сапраўднай даты, яе ўдакладнення і знаходжання стылю крыніцы па сонечным і месячным зацменнях існуюць спецыяльныя табліцы: «Перавод даты ў дроб года», «Табліца цыклаў» і «Размеркаванне сонечных і месячных зацьменняў у цыклах». Па табліцы 3 ператва-раем месяц і дзень у дроб года, і гэтую дроб прыпісваем да нумара года. У табліцы цыклаў знаходзім бліжэйшую меншую лічбу і аднімаем яе ад нумара года з дробам. Атрыманую розніцу правяраем па табліцы «Размеркаванне зацьменняў у цыклах». У ёй *с.* – сонечнае, *м.* – месячнае зацьменне; *ч.* – частковае*, п.*– поўнае; знак «!» паказвае, што зацьменне было дакладна. Пры параўнанні атрыманай лічбы і лічбы з табліцы зацьменняў дапушчальна розніца ў 0,01– 0,02.

*Прыклады*

1. У Іпацьеўскім спісе пазначана: «В лето 6621. Бысть знаменье в солнци, в 1 час дня бысть видити всем людям остася солнца мало, акы месяца долов рогома, месяца марта 19 день...»

Праверым слушнасць паведамлення летапісца і ўдакладнім стыль, якім ён карыстаўся.

Пераводзім дату па эры ад стварэння свету на дату ад Раства Хрыстова. Паколькі стыль крыніцы нам невядомы, бярэм сярэднюю лічбу – 5508 г. (у далейшым гэтую аперацыю можна будзе праверыць і ўдакладніць). Пры вылічэнні атрымаем 1113 г. Звернемся да табліцы дробаў. Для 19 сакавіка дроб складзе 0,21; дададзім да даты і атрымаем 1113,21. У табліцы цыклаў знойдзем бліжэйшую меньшую лічбу – 1087,10 і аднімем яе ад 1113,21. Атрыманая розніца складае 26,11 – па табліцы размеркавання сонечных зацьменняў пад гэтай лічбай пазначана поўнае сонечнае зацьменне. Такім чынам, летапісец не памыліўся. Звяртаючыся да пачатку вылічэння, узгадаем, што пры пераводзе даты мы бралі розніцу ў 5508 гадоў – яна характэрна для сакавіцкага і вераснёўскага стыляў. Такім чынам, летапісец карыстаўся ці сакавіцкім, ці вераснёўскім пачаткам года.

2. У Ноўгарадскім першым летапісе па Сінадальным спісе пад 6632 г. згадваецца сонечнае зацменне, якое адбылося 11 жніўня. Пераводзім дату па эры ад стварэння свету на дату па эры ад Раства Хрыстова.Паколькі стыль крыніцы нам невядомы, бярэм сярэднюю лічбу – 5508 г. і пры вылічэнні атрымаем 1124 г. Дроб года для 11 жніўня згодна з табліцай – 0,61, а разам з нумарам года –1124,61. Бліжэйшае меншае па «Табліцы цыклаў» –1116,04; розніца паміж дзвюма лічбамі складае 8,57. Па «Табліцы зацьменняў» акрэсліваем, што ў гэты дзень было частковае сонечнае зацьменне. Для жніўня розніца паміж эрамі складае 5508 гадоў для сакавіцкага і вераснёўскага стыляў. Такім чынам, працуючы з датамі Ноўгарадскага летапісца, належыць памятаць гэтую акалічнасць.

## Акрэсленне дзён тыдня па юльянскім календары

Акрэсліць дзень тыдня па юльянскім календары можна з дапамогай формул і табліц.

**Формула Я. Карскага**

Дадзеная формула дазваляе ўстанавіць дзень тыдня па эры ад Раства Хрыстова і студзеньскаму стылю.

Нумар дня тыдня роўны рэшце ад выразу:

$$x = \left| [N + \tfrac{1}{4}(N-1) + T + 5] : 7 \right|$$

дзе:

**x** – парадкавы нумар дня тыдня, пачынаючы з нядзелі (нядзеля – 1, субота – 0);

**N** – нумар дадзенага года;

**T** – колькасць дзён, якія прайшлі ад пачатку года да вылічаемай даты ўключна.

*Прыклад*

Вылічым, які дзень тыдня быў 3 мая 1791 па юльянскім календары:

$x = [1791 + \tfrac{1}{4}(1791 - 1) + 123 + 5)] : 7 = 338$ , у рэшце – 0.

Такім чынам, 3 мая 1791 г. была субота.

Большуніверсальнайз’яўляецца***формулаМ.Г.Беражкова***, якая дазваляе акрэсліць дзень тыдня не толькі па эры ад Раства Хрыстова, але і па эры ад стварэння свету, а таксама па сакавіцкім, студзеньскім, ультрасакавіцкім і вераснёўскім стылях. Яна ўяўляе сабой удасканаленую формулу Я.Карскага:

$$\mathbf{x = \left| [N + \tfrac{1}{4}(N-P) + t + r] : 7 \right|},$$

дзе:

**x** – парадкавы нумар дня тыдня, пачынаючы з нядзелі (нядзеля – 1, субота – 0);

**N** – нумар дадзенага года;

**t** – колькасць дзён, якія прайшлі ад пачатку года да вылічаемай даты ўключна;

**P** – у сакавіцкім годзе – 0; ва ўсіх астатніх – 1;

**r** – у студзеньскім і вераснёўскім годзе – 5; у сакавіцкім – 4; ультрасакавіцкім – 3.

Дзень тыдня па юльянскаму календара можна таксама акрэсліць з дапамогай табліц. Дзеля гэтага выкарыстоўваецца паняцце вруцэлета – літара-лічба, якая надаецца ўсім нядзелям у акрэсленым годзе, пачынаючы ад першага года ад стварэння свету. Вруцэлета можна вылічыць па формуле.

Вруцэлета года будзе роўна рэшце ад выразу:

для года па эры ад стварэння свету

$$W_в = \left|(B + \tfrac{1}{4}B) : 7\right|,$$

дзе

$\mathbf{W_в}$ – літара-лічба вруцэлета (А, В, Г, Д, Е, S, З);

**B** – нумар года па эры ад стварэння света;

для года па эры ад Раства Хрыстова

$$W_D = \left|(D + \tfrac{1}{4}D + 25) : 7\right|,$$

дзе

$\mathbf{W_D}$ – літара вруцэлета (A, B, C, D, E, F, G);

**D** – нумар года па эры ад Раства Хрыстова.

Вруцэлета можна знайсці і з дапамогай табліцы. Для гэтага належыць знайсці радок з адпаведнай колькасцю тысяч і соцень гадоў, радок з дзясяткамі і адзінкамі гадоў і на іх перасячэнні – літару вруцэлета. Вруцэлетная літара-лічба ў табліцы для юльянскага календара з'яўляецца кірылічнай (гл. далей).

Ведаючы вруцэлета дадзенага года, можна, калі вядомы стыль крыніцы, вылічыць дзень тыдня, на які прыпадае любая дата ў дадзеным годзе. Каб даведацца аб гэтым, належыць звярнуцца да табліцы «Дні тыдня па юльянскім календары». Спачатку трэба знайсці ў табліцы вядомую нам літару-лічбу вруцэлета і правесці ад яе ўніз вертыкальную рысу да дзён тыдня. Затым, улічваючы стыль, адшукаць патрэбны месяц і згаданы дзень, ад якога правесці гарызантальную лінію да дня тыдня. Пры правядзенні дадзенага вылічэння належыць звяртаць увагу на просты ці высакосны год.

*Прыклад*

Акрэслім вруцэлета 1563 г.

<table>
<tr><td colspan="6" rowspan="17">Дзясяткі і адзінкі гадоў</td><td>0</td><td>1</td></tr>
<tr><td>6</td><td>7</td></tr>
<tr><td></td><td>12</td></tr>
<tr><td>17</td><td>18</td></tr>
<tr><td>23</td><td></td></tr>
<tr><td>28</td><td>29</td></tr>
<tr><td>34</td><td>35</td></tr>
<tr><td></td><td>40</td></tr>
<tr><td>45</td><td>46</td></tr>
<tr><td>51</td><td></td></tr>
<tr><td>56</td><td>57</td></tr>
<tr><td>62</td><td>63</td></tr>
<tr><td></td><td>68</td></tr>
<tr><td>73</td><td>74</td></tr>
<tr><td>79</td><td></td></tr>
<tr><td>84</td><td>85</td></tr>
<tr><td>90</td><td>91</td></tr>
<tr><td colspan="6">Тысячы і сотні гадоў</td><td></td><td>96</td></tr>
<tr><td colspan="3">Ад раства Хрыстова</td><td colspan="3">Ад стварэння свету</td><td></td><td></td></tr>
<tr><td>200</td><td>900</td><td>1600</td><td>6100</td><td>6800</td><td></td><td>В</td><td>Г</td></tr>
<tr><td>100</td><td>800</td><td>1500</td><td>6000</td><td>6700</td><td></td><td>Г</td><td>Д</td></tr>
</table>

Такім чынам, вруцэлета 1563 г. – Г.

Да прыкладу, нам трэба акрэсліць, які дзень тыдня прыпаў на 25 сакавіка 1563 г. па студзеньскім стылі. Нам ужо вядома з папярэдняга вылічэння вруцэлета гэтага года – Г. Звернемся да табліцы «Дні тыдня па юльянскаму календара» і знойдзем вруцэлета Г. Затым адшукаем сакавік у раздзеле табліцы «Студзеньскі стыль» і правядзем ад яго ўніз вертыкальную лінію. Затым знойдзем дату 25 сакавіка і ад яе правядзем гарызантальную лінію да слупка з днямі тыдня у калонцы «Г». Атрымалася серада.

| | | | | | | | Месяцы сакавіцкага і ультрасакавіцкага года | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | *сакавік лістапад* | | | | | |
| | | | | | | | **Месяцы студзеньскага года** | | | | | |
| | | | | | | | ***сакавік****лістапад люты(п)* | | | | | |
| | | | | | | | Месяцы вераснёўскага года | | | | | |
| **Вруцэлета** | | | | | | | *сакавік люты(п) верасень(в) снежань (в)* | | | | | |
| А | В | **Г** | Д | Е | S | З | | | | | | |
| **Дні тыдня** | | | | | | | | | | | | |
| нд | пн | аўт | ср | чц | пт | сб | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| пн | аўт | **ср** | чц | пт | сб | нд | | 4 | 11 | 18 | **25** | |
| аўт | ср | чц | пт | сб | нд | пн | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| ср | чц | пт | сб | нд | пн | аўт | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| чц | пт | сб | нд | пн | аўт | ср | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| пт | сб | нд | пн | аўт | ср | чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| сб | нд | пн | аўт | ср | чц | пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

## Акрэсленне даты па згадцы хрысціянскіх святаў

Спасылка на рэлігійнае свята ў крыніцах дастаткова часта замяняе каляндарную дату. Таму акрэсленне дня свята з’яўляецца неабходным для дацiроўкі падзеі.

У хрысціянскай традыцыі рэлігійны святы падзяляюцца на два тыпы – рухомыя і нерухомыя.

Нерухомыя святы прывязаны да канкрэтных каляндарных дзён, што звязана з іх замацаваннем у хрысціянскай традыцыі ўжо пасля распаўсюджання юльянскага календара. Гэтыя святы звязаны з Новым Запаветам, з гісторыяй Хрыста і яго паплечнікаў, з жыццём Маці Божай. Каб удакладніць дату па згадцы нерухомага рэлігійнага свята, дастаткова ведаць, у які каляндарны дзень яно святкуецца (гл. Табліцы «Нерухомыя праваслаўныя святы і прысвяткі», «Нерухомыя каталіцкія святы і прысвяткі»). Складанасць у дадзеным выпадку ў тым, што

ў крыніцах маюцца варыянты назваў рэлігійных святаў, якія не супадаюць з афіцыйнымі, а выпрацаваны народнай традыцыяй (напр. Грамніцы, Стрэчанне – назва царкоўнага свята *Сретение).* Таму неабходна дакладна вызначаць, якое свята згадваецца ў крыніцы.

*Прыклады*

1. У крыніцы пазначана: «А писана сия грамота в день Семиона летопроводца в лето 1451…»

Па календары нерухомых праваслаўных свят дзень Сямёна летаправодца (Св. Семиона) святкуецца 1 верасня. Такім чынам, грамату можна датаваць 1 верасня 1451 г.

2. У крыніцы пазначана: «В лето 6891 Благовещенье бысть в среду по Великодни…»

Па календары нерухомых праваслаўных свят дзень Дабравешчання (Звеставання) адзначаецца 25 сакавіка. Такім чынам, можна акрэсліць і дату Дабравешчання, і дзень Пасхі.

3. У крыніцы пазначана: «На рочкох судовых о святе рымским о трех королях прыпалым…».

Па календары нерухомых каталіцкіх свят дзень Трох каралёў (Trzechkróli) святкуецца 6 студзеня. Абапіраючыся на гэтыя звесткі, проста вызначыць, калі пачаліся судовыя паседжанні паводле дадзенай крыніцы.

Пры рабоце з нерухомымі святамі належыць памятаць, што з канца XVI ст. каталіцкая царква карыстаецца грыгарыянскім календаром, праваслаўныя ж святы вызначаюцца паводле юльянскага календара.

Рухомыя святы прыйшлі ў хрысціянства са Старога Запавету, яны звязаны з месячным календаром і таму вандруюць па датах календара сонечнага. Найбольш значнае рухомае свята – Пасха (Вялікдзень), ад даты якога залежыць размеркаванне па календары іншых рухомых святаў.

Пасха, згодна з традыцыяй, святкуецца ў першую нядзелю пасля вясновага раўнадзенства і поўні. Дата вясновага раўнадзенства замацавана Нікейскім саборам і адзначаецца 21

сакавіка. Усе астатнія кампаненты для вылічэння Пасхі штогод змяняюцца. Нязменным застаецца тэрмін, калі можа быць дзень Пасхі – ад 22 сакавіка да 25 красавіка.

Вылічыць дату Пасхі можна з дапамогай формул і табліц.

Найбольш дасканалай формулай, з дапамогай якой можна вылічыць дату праваслаўнай Пасхі, каторая святкуецца па юльянскім календары, з’яўляецца **формула Гаўса.**

a – рэшта ад дзялення чысла года на 19,

b – рэшта ад дзялення чысла года на 4,

c – рэшта ад дзялення чысла года на 7,

d – рэшта ад дзялення (19a+15) на 30,

e – рэшта ад дзялення (2b+4c+6d+6) на 7.

Калі d+ебольш за 9 – гэта дата красавіка,

калі меньш – дата сакавіка.

Каб атрымаць дату Пасхі, робім яшчэ адну аперацыю:

d+e+22 – для сакавіка,

d+e – 9 – для красавіка.

Прыклады

1. Вылічым, калі святкавалі Пасху ў 1635 г. па юльянскім календары.

(a) 1635:10=86, рэшта 1;

(b) 1635:4=408, рэшта 3;

(c) 1635:7=233, рэшта 4;

(d) (19 x 1 + 15): 30= 1, рэшта 4;

(e) (2 x 3 + 4 x 4 +6 x 4 +6): 7 = 7, рэшта 3;

4+3 = 7; 7< 9, значыць, Пасха святкавалася ў сакавіку;

4+3+22 = 29.

Такім чынам, у 1635 г. па юльянскіму календары Пасха святкавалася 29 сакавіка.

2. Вылічым, калі святкавалася Пасха ў 1721 г.

(a) 1721:19=90, рэшта 11;

(b) 1721:4=430, рэшта 1;

(c) 1721:7=245, рэшта 6;

(d) (19x11+15):30=7, рэшта 14;

(e) (2x1+4x6+6x14+6):7=16, рэшта 4;

14+4=18; 18>9 – дата красавіка;

18-9=9.

Такім чынам, Пасха ў 1721 г. па юльянскім календары была 9 красавіка.

Для вылічэння дня Пасхі па юльянскім календары можна таксама выкарыстаць табліцы. Каб акрэсліць, на які дзень у дадзеным годзе прыходзіцца пасхальная нядзеля, належыць звярнуцца да табліцы «Вруцэлета». Дзень, калі адбываецца перадпасхальная поўня, дапаможа знайсці табліца «Круг Месяца». Прынцып работы з гэтай табліцай той самы, што і з табліцай індыктаў. Затым належыць скарыстаць з табліцы «Акрэсленне дня Пасхі», па якой у адзінае зводзяцца круг Месяца і вруцэлета.

Прыклад

Акрэслім, калі святкавалі Пасху па юльянскім календары ў 1881 г.

Па табліцы вруцэлета знаходзім літару-лічбу Г.

Па табліцы «Круг Месяца» знаходзім лічбу 17**.**

Затым у табліцы «Акрэсленне дня Пасхі» знаходзім радок, у якім маюцца і літара Г, і лічба 17. У гэтым жа радку пазначана дата Пасхі – 12 красавіка.

Для каталіцкай Пасхі, якая з канца XVI ст. святкуецца па грыгарыянскім календары, у дадзеным дапаможніку прапанавана табліца пасхалій, у якой пазначаны дні святкавання Пасхі у адрэзку ад 1582 г. па 2000 г. У гэтай табліцы маленькія літары ***с.***і ***к.*** пазначаюць сакавік і красавік, вялікія ***К.*** і ***С.*** – супадзенне праваслаўнай і каталіцкай Пасхі ў сакавіку і красавіку.

Каталіцкую Пасху можна таксама вылічыць з дапамогай дапрацаванай формулы Гаўса.

а – рэшта ад дзялення чысла года на 19,

b – рэшта ад дзялення числа года на 4,

c – рэшта ад дзялення числа года на 7,

d– рэшта ад дзялення (19a+M) на 30,

e – рэшта ад дзялення (2b+4c+6d+N) на 7.

У адрозненні ад юльянскага календара, дзе M i N маюць фіксаванае значэнне, у грыгарыянскім календары іх трэба акрэсліваць у залежнасці ад года.

Значэнне M i N для акрэсленых стагоддзяў

| гады | M | N |
|---|---|---|
| 1582–1699 | 22 | 2 |
| 1700–1799 | 23 | 3 |
| 1800–1899 | 23 | 4 |
| 1900–2099 | 24 | 5 |
| 2100–2199 | 24 | 6 |

Калі d+e больш за 9 – гэта дата красавіка,

калі менш – дата сакавіка.

Каб атрымаць дату Пасхі, робім яшчэ адну аперацыю:

d+e+22 – для сакавіка,

d+e – 9 – для красавіка.

Калі ў выніку атрымаецца 25 красавіка, але пры гэтым d=28 і a>10, Пасху трэба перанесці на тыдзень раней (г.зн. 18 красавіка).

Калі ў выніку атрымаецца 26 красавіка, Пасха заўсёды святкуецца 19 красавіка.

Прыклад

Вылічым, калі святкавалася каталіцкая Пасха ў 2000 г.

(a) 2000:19=105, рэшта 5;

(b) 2000:4=205, рэшта 0;

(c) 2000:7=285, рэшта 5

У табліцы знаходзім значэнне **M** і **N** – адпаведна 24 і 5;

(d) (19x5+24):30=3, рэшта 29

(e) (2x0+4x5+6x29+5):7=28, рэшта 3

29+3=32; 32>9;

32-9=23.

У 2000 г. каталіцкая пасха святкавалася 23 красавіка.

*Метад вылічэння Пасхі для грыгарыянскага календара, распрацаваны Жанам Меёсам*

Гэты метад быў прадстаўлены Жанам Меюсам у рабоце «Astronomical Algorithms», якая выйшла ў 1991г. Гэты метад можа разглядацца як найлепшы на сёняшні дзень, ён не патрабуе паправак для пэўнага дыяпазону часу, не мае выключэнняў.

a – рэшта ад дзялення нумара года на 19

b – вынік ад дзялення нумара года на 100, акруглены да цэлай лічбы (дробныя адкідваюцца)

c – рэшта ад дзялення года на 100 без акруглення

d –вынік ад b:4, акруглены да цэлай лічбы (дробныя адкідваюцца),

e – рэшта b:4

f – вынік ад (b+8):25, акруглены да цэлай лічбы (дробныя адкідваюцца)

g – вынік ад (b- f+1):3, акруглены да цэлай лічбы (дробныя адкідваюцца)

h – рэшта ад (19xa+b-d-g+15)

i – вынік ад c:4, акруглены да цэлай лічбы (дробныя адкідваюцца)

k – вынік ад c:4

l – рэшта ад (32+2xe+2xi – h – k): 7

m – вынік ад (a + 11xh +22x l): 451, акруглены да цэлай лічбы (дробныя адкідваюцца)

p – вынік ад (h + 1 – 7 x m + 114) : 31

Дзень Пасхі – p + 1.

Месяц – вынік ад (h + 1 – 7 x m + 114) : 31, акруглены да цэлай лічбы (дробныя адкідваюцца).

Каб вылічыць, на якія дні календара прыходзяцца іншыя рухомыя святы, прысвяткі і пасты, можна зрабіць простае вылічэнне, ведаючы, як яны суадносяцца з днём Пасхі. Належыць памятаць, што рухомыя святы падзяляюцца на перадпасхальныя (першая палова) і пасляпасхальныя (другая палова). Дата перадпасхальных святаў залежыць ад дня Пасхі, перад

якой яны адзначаюцца. Пры акрэсленні перадпасхальных святаў належыць зважаць на тое, просты гэтв год, ці высакосны.

За сем тыдняў да Пасхі пачынаецца Вялікі пост, у яго пачатку каталікі адзначаюць Папелец (Popelec). За тыдзень да Пасхі адзначаецца Страсны тыдзень, які пачынаецца Вербнай нядзеляй.

Буйнейшае рухомае свята пасля Пасхі (Вялікадня) – Тройца або Пяцідзясятніца (Зялёныя святы, Зялёная нядзеля – у каталіцкай традыцыі), якая святкуецца на пяцідзясяты дзень пасля Пасхі, абавязкова ў нядзелю.

Для акрэслення рухомага свята можна таксама скарыстаць з табліцы.

### Пераход дат юльянскага календара на грыгарыянскі. Акрэсленне дня тыдня па грыгарыянскім календары

Пры пераводзе дат юльянскага календара на грыгарыянскі належыць памятаць, што розніца паміж імі змяняецца ў залежнасці ад стагоддзя. Крытычнай датай, калі розніца паміж двума календарамі змяняецца, з'яўляецца 29 лютага сотага года, які ў юльянскім календары высакосны, а ў грыгарыянскім просты.

Розніца паміж юльянскім і грыгарыянскім календаром

XVI ст– 10 дзён (з 1582 г.).

XVIIст – 10 дзён.

XVIII ст. – 11 дзён (з 1 сакавіка 1700 г.).

XIX ст. – 12 дзён (з 1 сакавіка 1800 г.).

XX ст. – 13 дзён (з 1 сакавіка 1900 г.).

XXI ст. – 13 дзён.

У гістарычных даследаваннях прынята карыстацца падвойным запісам даты – па юльянскім і грыгарыянскім календарах – у тых выпадках, калі згадваюцца міжнародныя падзеі, у якіх прымалі ўдзел краіны, дзе выкарыстоўваліся розныя календары. Для напісання падвойнай даты ужываюцца дужкі. Напрыклад, даты расійскай гісторыі, згодна з палажэннямі каляндарнай рэформы, да 1 лютага 1918 г. пішуцца наступным

чынам: дата юльянскага календара (дата грыгарыянскага календара); пасля 1 лютага і да 1 ліпеня 1918 г. – дата грыгарыянскага календара (дата юльянскага календара).

Прыклады

Пачатак расійска-французскай вайны 1812 г. – 12 чэрвеня (24 чэрвеня) 1812 г.

Андрусаўскае перамір'е – 30 студзеня (9 лютага) 1667 г.

III Устаўная грамата БНР – 25 (12) сакавіка 1918 г.

Для акрэслення дня тыдня па грыгарыянскім календары можна выкарыстаць формулы і табліцы.

Найбольш простым спосабам вылічэння даты з дапамогай формул і табліцы лічыцца спосаб Л.Т.Сахароўскага. Навуковец прапанаваў спецыяльны каляндар у выглядзе табліцы, у якім пазначаны як гады юльянскага, так і грыгарыянскага календара. Пры вылічэнні дня тыдня Л.Т.Сахароўскі прапанаваў спецыяльны ўніверсальны каэфіцыент «к», які адлюстроўвае наяўнасць высакосных гадоў, асаблівасці іх ужывання ў юльянскім і грыгарыянскім календарах.

*Каляндар Л.Т.Сахароўскага*

| Стагоддзі | | Гады | | | | Месяцы | Значэнне «к» |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| грыгар. | юльян. | дзесяткі | адзінкі | дзесяткі | адзінкі | | |
| 1500; 1900 | 1100;1800<br>1000;1700 | 00<br>40 | 0; 6<br>1; 7 | 90 | 0<br>1;6 | студз.п,<br>кастр., май | 0<br>1 |
| 1400; 1800 | 900;1600<br>1500;2200 | 80 | 2<br>3;8 | 30<br>70 | 7<br>2;8 | жнів.,<br>люты в.<br>лют.п,<br>сакавік<br>лістапад | 2<br>3 |
| 1700; 2100 | 1400;2100<br>1300;2000 | 20<br>60 | 9<br>4 | 10 | 3;9<br>4 | чэрвень<br>верас., снеж. | 4<br>5 |
| 1600; 2000 | 1200;1900 | | 5 | 50 | 5 | крас., ліпень,<br>студзень в. | 6 |

а) адзінкі гадоў належыць выбіраць у слупку, які стаіць побач з дзясяткамі, якія ёсць у даце;

б) парадкавыя нумары дзён тыдня: 0 – нядзеля; 1 – панядзелак; 2 – аўторак; 3 – серада; 4 – чацвер; 5 – пятніца; 6 – субота.

Каб вылічыць дзень тыдня па дадзенай табліцы, належыць зрабіць наступныя аперацыі.

Прыклад

Акрэслім, якім днём тыдня было 1 студзеня 1980 г. па грыгарыянскім календары. Для гэтага ўявім згаданую дату наступным чынам: 19/8/0/студзень/1, дзе

19 – колькасць стагоддзяў па графе «грыгарыянскі каляндар» адпавядае – 0;

8 – лічба дзясяткаў гадоў – адпавядае – 2

0 – колькасць адзінак гадоў – адпавядае – 0

студзень высакосны – адпавядае – 0.

Склаўшы атрыманыя лічбы, атрымаем: 0+2+0+6=8. Да гэтага выніка дададзім нумар даты, якую мы вылічаем, – 1 студзеня: 8+1=9. Атрыманы вынік належыць падзяліць на 7 – 9:7=1, рэшта 2. Рэшта якраз і будзе парадкавым нумарам дня тыдня.

Для вылічэння дня тыдня па грыгарыянскім календары можна выкарыстацьтабліцу «Акрэсленне дня тыдня па грыгарыянскім календары». У ёй у адзінае зведзены вруцэлета, гады, месяцы і дні. Каб вылічыць дзень тыдня па табліцы, належыць зрабіць наступныя аперацыі.

1. Знойдзем вруцэлета зададзенага года. Для гэтага ў радках з сотнямі і тысячамі гадоў знойдзем належнае стагоддзе, а ў слупку з дзясяткамі і адзінкамі – адпаведныя даце лічбы. На перакрыжаванні іх знаходзіцца лацінская літара, якая пазначае вруцэлета дадзенага года.

2. У раздзеле табліцы, дзе пазначаны месяцы, знойдзем радок з месяцам, які ёсць у зададзенай даце, а затым працягнем гэты радок у бок літар вруцэлета і адшукаем знойдзеную раней літару зададзенага года.

3. Ад знойдзенай літары вруцэлета правядзем лінію да пазначаных у нізе табліцы дзён тыдня. Затым у раздзеле лічбаў, якія пазначаюць даты, адшукаем належную дату месяца. Спалучыўшы гэтую дату з дадзенымі ў калонцы « Дні тыдня», атрымаем вынік.

*Прыклад : акрэслім, які дзень тыдня было 24 лістапада 1978 г.*

| **Дзесяткі і адзінкі гадоў** | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 56 | 57 | 58 | 59 | | 60 | 61 | | | | | |
| | | 62 | 63 | | 64 | 65 | 66 | 67 | | | | | |
| | | | 68 | 69 | 70 | 71 | | 72 | | | | | |
| | | 73 | 74 | 75 | | 76 | 77 | **78** | | | | | |
| | | 79 | | 80 | 81 | 82 | 83 | | | | | | |
| | | 84 | 85 | 86 | 87 | | 88 | 89 | | | | | |
| **Тысячы і сотні гадоў** | | 90 | 91 | | 92 | 93 | 94 | 95 | | | | | |
| | | | 96 | 97 | 98 | 99 | | | **Месяцы** | | | | |
| 1500 | **1900** | G | F | E | D | C | B | **A** | студзень П. | | кастр. | | |
| 1600 | 2000 | A | G | F | E | D | C | B | май | | | | |
| | | B | A | G | F | E | D | C | люты В. | | жнів. | | |
| 1700 | 2100 | C | B | **A** | G | F | E | D | люты П. | | сакав. | | **лістап.** |
| | | D | C | B | A | G | F | E | чэрвень | | | | |
| 1800 | 2200 | E | D | C | B | A | G | F | верасень | | снеж. | | |
| | | F | E | D | C | B | A | G | студзень В. | | красав. | | ліпень |
| **Дні тыдня** | | пн | аўт | сер | чац | пт | сб | нядз | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| | | аўт | сер | чац | пт | сб | нядз | пн | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| | | сер | чац | **пт** | сб | нядз | пн | аўт | 3 | 10 | 17 | **24** | 31 |
| | | чац | пт | сб | нядз | пн | аўт | сер | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| | | пт | сб | нядз | пн | аўт | сер | чац | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| | | сб | нядз | пн | аўт | сер | чац | пт | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| | | нядз | пн | аўт | сер | чац | пт | сб | 7 | 14 | 21 | 28 | |

Такім чынам, 24 лістапада 1978 г. была пятніца.

# CALENDARIVM GREGORIANVM PERPETVVM.

Orbi Chriſtiano vniuerſo à GREGORIO XIII. P. M. propoſitum, Anno M. D. LXXXII.

## GREGORIVS EPISCOPVS SERVVS SERVORVM DEI AD PERPETVAM REI MEMORIAM.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Сучасная сістэма летазлічэння ў Беларусі мае доўгую і складаную гісторыю. Яна, увабраўшы ў сябе вопыт лічэння часу многіх народаў, здолела выпрацаваць уласныя традыцыі. Сёння мы карыстаемся календаром, эрай, якія прыняты большасцю краінаў свету, але ў гэтю сістэму арганічна ўпісаныя і ўласна беларускія звычаі, у тым ліку, арыгінальныя назвы месяцаў, рэлігійных святаў, падзел сутак на перыяды (золак, світанак, поўдзень, шэрая гадзіна, поўнач і г.д.) і інш.

Летазлічэнне ў Беларусі на працягу стагоддзяў было своеасаблівым люстэркам, у якім адбіваліся асаблівасці яе эканамічнага, палітычнага, культурнага жыцця. Візантыйскія ўплывы ў першыя стагоддзі нашай пісьмовай гісторыі абумовілі выкарыстанне эры ад Стварэння Свету і візантыйскага індыкту; змена вектара ў геапалітычнай сітуацыі з усходняга на заходні, паступовая вестэрнізацыя пазначыліся заменай візантыйскай эры і індыкта эрай ад Раства Хрыстова, распаўсюджаннем лацінскай традыцыі пазначэння дзён. Беларусы былі сярод першых народаў свету, якія перайшлі на грыгарыянскі каляндар. У сістэме лічэння часу знайшлі ўвасабленне і драматычныя старонкі нашай гісторыі. Гэта, перш за ўсё, датычыць калізій бытавання двух календароў – юльянскага і грыгарыянскага, якія на працягу чатырох стагоддзяў змянялі свой статус адносна афіцыйнага справаводства ў залежнасці ад падзей палітычнай гісторыі. Адначасова ўзаемаадносіны гэтых двух календароў, а таксама традыцыі лічэння часу з дапамогай рэлігійных святаў, калі для пазначэння дзён ужываліся і каталіцкі, і праваслаўны літургічныя календары, з'яўляюцца адлюстраваннем характэрных рысаў беларускага народа – поліканфесійнасці і рэлігійнай талерантнасці.

У гісторыі летазлічэння ў Беларусі яшчэ шмат неперагорнутых старонак. Дэтальнага вывучэння заслугоўвае сістэма падзелу сутак, якая змянялася на працягу стагоддзяў,

выпрацоўваючы новыя элементы і падыходы ў сувязі з удасканаленнем прыбораў для вымярэння часу. Складанай часткай дадзенай праблемы з'яўляецца гісторыя гадзіннікаў, якая пакуль  даследавана недастаткова – маюцца толькі некалькі публікацый А.Кыштымава, прысвечаныя яе асобным аспектам.[231] Больш грунтоўнага даследавання павінна дачакацца гісторыя ўзаемаадносін двух календароў; з дапамогай новых методык работы з датамі павінны быць вывучаны крыніцы, найперш летапісы.

Гістарычная храналогія – адна з базавых спецыяльных дысцыплін, без развіцця якой немагчыма існаванне айчыннай гістарычнай навукі. Аўтарка спадзяецца, што дадзеная работа пакладзе пачатак больш грунтоўным і featured рознабаковым даследаванням гісторыі беларускай сістэмы летазлічэння.

[231] Киштымов А. Л. История часового дела в Беларуси. // Очерки истории науки и культуры Беларуси IX - начала XX в. . / АН Беларуси, Институт истории, Комиссия по истории науки; ред. колл. П.Т. Петриков (предс.) и др.- Минск: Навука і тэхніка, 1996. С. 350-354; Ён жа... Дубровенская гадзіннікавая мануфактура. // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Дубровенскага раёна. Кн. 1. - Мн., 1997. - С. 156-157; Он же. Памятники часового дела: проблемы атрибуции, реставрации и консервации // Рэстаўрацыя і кансервацыя музейных каштоўнасцей: Праблемы і метады іх вырашэння: Матэрыялы навук.-практ. канф. 23-24 лістапада 1999 г., Мінск / Адк. рэд. Л.А. Мяртвішчава. – Мінск.: Выдавец Анікеенка В.П., 2000. – С. 39-43. І інш.

# Літаратура


1. Бережков, Н.Г. Хронология русского летописания/ Н.Г.Бережков – М.,1963.
2. Бикерман, Э. Хронология древнего мира/ Э.Бикерман. – М.1975.
3. Буткевич, А.В. Вечные календари / А.В. Буткевич, М.С. Зеликсон. – М., 1969.
4. Буткевич А. В., Ганьшин В. П., Хренов Л. С. Время и календарь. М., I960 .
5. Васілевіч Ул. Беларускі народны каляндар // Паэзія беларускага земляробчага календара / Склад. А.С. Ліс. Мн., 1992. - с. 554-612.
6. Введение в специальные исторические дисциплины :Учебное пособие/ Т.П.Гусарова, О.В. Дмитриева, И.С.Филиппов и др.- М.,: Изд-во МГУ, 1990 – с. 180-192.
7. Володомонов, Н.В. Календарь: прошлое, настоящее, будущее/ Н.В.Володомонов. – М, 1974.
8. Голенченко, Г.Я. «Календарь» Франциска Скорины/ Г.Я. Голенченко. // Из истории книги в Беларуси. – Минск, 1976.
9. Горбачевскій Н. Краткие таблицы, необходимые для истории, хронологии, вообще для всякого рода археологических изследований и в частности для разбора древних актов и грамот западного края России и Царства Польского./ Н. Горбачевскій– Вільно, 1867.
10. Данилевский И. Н. Нерешенные вопросы хронологии русского летописания/Вспомогательные исторические дисциплины. Т.XV - М, 1983 - с.62-71.
11. Дзярновіч, А. У пошуках календара – у пошуках гармоніі/ А.Дзярновіч. // Унія. – 1991. –№1. – С.26.
12. Ермолаев, И.П. Историческая хронология/ И.П.Ермолаев.– Казань, 1980.
13. Журавель А.В. Месяцы«книжные» и«небесные»: их соотношение на страніцах летописей // Историко-астрономические исследования. Вып. XXX. М.: «Наука», 2005. С. 56–75
14. Завельский, Ф.С. Время и его измерение/ Ф.С. Завельский. – М., 1977.
15. Календарно-хронологическая культура и проблемы ее изучения : к 870-летию«Учения» Кирика Новгородца: материалы науч. конф. Москва, 11-12 дек. 2006 г. / сост. Ю.Э. Шустова; редкол. : Р.А. Симонов(отв. ред.) и др. ; Рос. гос. гуманитар. ун-т, Ист.-арх. ин-т, Каф. источниковедения ивспомогат. ист. дисциплин, Ин-т всеобщ. истории РАН, Моск. гос. унтпечати. — М. : РГГУ, 2006.
16. Календарный вопрос: Сборник статей / Редактор-составитель Александр Чхартишвили. - М.: Издательство Сретенского монастыря, 2000.
17. Каменцева Е.И. Хронология/ Е.И Каменцева. – М.,1967.

18. Каменцева Е.И.Русская хронология: справочное пособие/ Е.И. Каменцева. – М.,1960.
19. Карский Е.Ф. Славянская кирилловская палеография./ . Е.Ф. Карский М., 1979 – с.219-223.
20. Климишин И.А. Календарь и хронология. - Москва, Наука, 1985.
21. Кузьмин. А. Г. Начальные этапы древнерусского летописания.- М., Изд-во МГУ, 1977.
22. Кузьмин А. Г.Хронология начальной летописи. Вестн. МГУ, 1968, № 6 - с. 40-53.
23. Куль-Сяльверстава С.Я.Аб асаблівасцях працы з датамі гістарычных крыніц часоў ВКЛ (14-XVI стст.) / Куль-Сяльверстава С.Я. Палітыка. Культура. Асоба. – Гродна, 2012. - с.131-134.
24. Куль-Сяльверстава С.Я. Роля рэдукцыі дат у гістарычных даследаваннях/Развитие методологических исследований и подготовка кадров историков в Республике Беларусь, Российской Федерации и Республике Польша. Сборник научных статей / под научной редакцией доктора исторических наук, профессора А.Н. Нечухрина.– Гродно: ГрГУ, 2012. - с.118-130.
25. Куль-Сяльверстава С.Я.Гістарычная храналогія. Практыкум для студэнтаў гістарычных спецыяльнасцяў. – Гродна:ГрДУ, 2009.
26. Леонтьева, Г.А., Вспомогательные исторические дисциплины/ Г.А. Леонтьева, П.А Шорин., В.Б Кобрин. – М.,2000.
27. Леонтьева, Г.А. Ключи к тайнам Клио. Палеография, метрология, хронология, геральдика, нумизматика, ономастика, генеалогия/ Г.А. Леонтьева, П.А Шорин., В.Б Кобрин. – М.,1994.
28. Леонтьева Г.А. Палеография, хронология, археография, геральдика: практическое пособие для вузов/ Г.А. Леонтьева. – М.,2000.
29. Мартынов, Д.Я. Века и мгновения/ Д.Я. Мартынов– М.,1961.
30. Мілінкевіч І.З. Грыгарыянскі каляндар на Беларусі / Мілінкевіч І.З.// Наука-2009: сб. науч. ст. В 2 ч. Ч. 1 / ГрГУ им. Я. Купалы ; редкол.: А.Ф. Проневич (отв. ред.) [и др.]. – Гродно : ГрГУ, 2009. – с. 68-69.
31. Мілінкевіч І.З. Калізіі ўвядзення новага календара Стэфанам Баторыем / Мілінкевіч І.З.// Краязнаўчыя запіскі №9 / рэдкал.: Р.В. Янчалоўская [і інш.] – Гродна, 2013. – с. 107-113.
32. Огицкий Д.П. Канонические нормы православной Пасхалии // Богословские труды. - 1971. - № 7. - С. 204-211.
33. Пронштейн, А.П. Хронология/ А.П. Пронштейн, В.Я. Кияшко.–М. 1981.
34. Пронштейн, А.П. Использование вспомогательных дисциплин при работе над историческими источниками/ А.П. Пронштейн. – М.,1972.
35. Пронштейн, А.П. Методика исторического источниковедения/ А.П. Пронштейн. – Ростов, 1976.
36. Пронштейн, А.П.Хронология/ А.П.Пронштейн. – Ростов-на-Дону, 1973.

37. Саламевіч, Я. Календары// Гістарычная энцыклапедыя Беларусі/ Я. Саламевіч. – Т.4. – Мінск, 2001. – С.23–26.
38. Селешников, С.И. Астрономия и космонавтика. Краткий хронологический справочник с древнейших времен до наших дней/ С.И.Селешников. – Киев, 1967.
39. Селешников С.И.История календаря и хронология/ С.И. Селешников. – М., 1977.
40. Смык П. Каляндарная унія на Беларусі: ці магчымая яна калі-небудзь/ П. Смык. //Унія– 1991 –№1 – С.18.
41. Сюзюмов, М.Я. Вспомогательные исторические дисциплины/ М.Я.Сюзюмов. – Сб.1.– Свердловск, 1974.
42. Цибульский В.В. Современные календари стран Ближнего и Дальнего Востока. Синхронистические таблицы и пояснения/ В.В. Цибульский. – М.,1964.
43. Черепнин, Л.В.Русская хронология/ Л.В. Черепнин. – М., 1944.
44. Янин, В.Л.Очерки комплексного источниковедения/ В.Л. Янин. – М.,1977.
45. Bobowski K., Burski K., Turoń B., Encyklopedia nauk pomocniczych historii nowo-żytnej i najnowszej. Wyd. 2, Wrocław 1975.
46. Chronologia polska. Pod red. B. Włodarskiego. Wyd. 2. Warszawa 2006.
47. Ihnatowicz I., Nauki pomocnicze historii XIX i XX wieku. Warszawa 1990.
48. Gregorian Reform of the Calendar: Proceedings of the Vatican Conference to Commemorate its 400th Anniversary, 1582–1982. Vatican City: Pontifical Academy of Sciences, Vatican Observatory (Pontificia Academia Scientarum, Specola Vaticana), 1983.
49. Rutkowski H, Gregoriańska reforma kalendarza, / Kultura polska a kultura europejska. Prace ofiarowane Januszowi Tazbirowi w sześćdziesiątą rocznicę urodzin, red. M. Bogucka, J. Kowecki, Warszawa 1987, s. 122–130.
50. Semkowicz W., Encyklopedia nauk pomocniczych historii, wyd. 4, Kraków 1999
51. Szymański J. Nauki Pomocnicze Historii/ J. Szymański. – Warszawa, 2012
52. Szulc t. Wprowadzenie kaliendarza gregoriańskiego w Rzeczy Pospolitej szlacheckiej /Studia z Dziejów Państwa i Prawa Polskiego, 2011, №14- s. 32-38.

**Табліца1.**

## І Н Д Ы К Т Ы

| 7300 | 7400 | 7500 | Эра ад стварэння свету | | | | | | Эра ад Раства Хрыстова | 1800 | 1900 | 2000 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7000 | 7100 | 7200 | | | | | | | | 1500 | 1600 | 1700 |
| 6700 | 6800 | 6900 | | | | | | | | 1200 | 1300 | 1400 |
| 6400 | 6500 | 6600 | | | | | | | | 900 | 1000 | 1100 |
| 6100 | 6200 | 6300 | | | | | | | | 600 | 700 | 800 |
| 5800 | 5900 | 6000 | | | | | | | | 300 | 400 | 500 |
| 5500 | 5600 | 5700 | | | | | | | | 0 | 100 | 200 |
| 10 | 5 | 15 | 0 | 15 | 30 | 45 | 60 | 75 | 90 | 3 | 13 | 8 |
| 11 | 6 | 1 | 1 | 16 | 31 | 46 | 61 | 76 | 91 | 4 | 14 | 9 |
| 12 | 7 | 2 | 2 | 17 | 32 | 47 | 62 | 77 | 92 | 5 | 15 | 10 |
| 13 | 8 | 3 | 3 | 18 | 33 | 48 | 63 | 78 | 93 | 6 | 1 | 11 |
| 14 | 9 | 4 | 4 | 19 | 34 | 49 | 64 | 79 | 94 | 7 | 2 | 12 |
| 15 | 10 | 5 | 5 | 20 | 35 | 50 | 65 | 80 | 95 | 8 | 3 | 13 |
| 1 | 11 | 6 | 6 | 21 | 36 | 51 | 66 | 81 | 96 | 9 | 4 | 14 |
| 2 | 12 | 7 | 7 | 22 | 37 | 52 | 67 | 82 | 97 | 10 | 5 | 15 |
| 3 | 13 | 8 | 8 | 23 | 38 | 53 | 68 | 83 | 98 | 11 | 6 | 1 |
| 4 | 14 | 9 | 9 | 24 | 39 | 54 | 69 | 84 | 99 | 12 | 7 | 2 |
| 5 | 15 | 10 | 10 | 25 | 40 | 55 | 70 | 85 | | 13 | 8 | 3 |
| 6 | 1 | 11 | 11 | 26 | 41 | 56 | 71 | 86 | | 14 | 9 | 4 |
| 7 | 2 | 12 | 12 | 27 | 42 | 57 | 72 | 87 | | 15 | 10 | 5 |
| 8 | 3 | 13 | 13 | 28 | 43 | 58 | 73 | 88 | | 1 | 11 | 6 |
| 9 | 4 | 14 | 14 | 29 | 44 | 59 | 74 | 89 | | 2 | 12 | 7 |
| Індыкты | | | Дзясяткі і адзінкі гадоў | | | | | | | Індыкты | | |

**Табліца 2.**

## ПЕРАТВАРЭННЕ ДАТЫ Ў ДРОБ ГОДА

Табліца 2
ПЕРАТВАРЭННЕ ДАТЫ Ў ДРОБ ГОДА

| Месяц | Дзень | Дроб | Месяц | Дзень | Дроб |
|---|---|---|---|---|---|
| студзень | 1-2 | 0,00 | ліпень | 1-4 | 0,50 |
| | 3-6 | 0,01 | | 5-8 | 0,51 |
| | 7-10 | 0,02 | | 9-11 | 0,52 |
| | 11-13 | 0,03 | | 12-15 | 0,53 |
| | 14-17 | 0,04 | | 16-19 | 0,54 |
| | 18-21 | 0,05 | | 20-22 | 0,55 |
| | 22-24 | 0,06 | | 23-26 | 0,56 |
| | 25-28 | 0,07 | | 27-30 | 0,57 |
| люты | 29-1 | 0,08 | жнівень | 31-2 | 0,58 |
| | 2-4 | 0,09 | | 3-6 | 0,59 |
| | 5-8 | 0,10 | | 7-9 | 0,60 |
| | 9-11 | 0,11 | | 10-13 | 0,61 |
| | 12-15 | 0,12 | | 14-17 | 0,62 |
| | 16-19 | 0,13 | | 18-20 | 0,63 |
| | 20-22 | 0,14 | | 21-24 | 0,64 |
| | 23-26 | 0,15 | | 25-28 | 0,65 |
| сакавік | 27-2 | 0,16 | | 29-31 | 0,66 |
| | 3-5 | 0,17 | верасень | 1-4 | 0,67 |
| | 6-9 | 0,18 | | 5-8 | 0,68 |
| | 10-13 | 0,19 | | 9-11 | 0,69 |
| | 14-16 | 0,20 | | 12-15 | 0,70 |
| | 17-20 | 0,21 | | 16-19 | 0,71 |
| | 21-24 | 0,22 | | 20-22 | 0,72 |
| | 25-27 | 0,23 | | 23-26 | 0,73 |
| | 28-31 | 0,24 | | 27-30 | 0,74 |
| красавік | 1-4 | 0,25 | кастрычнік | 1-3 | 0,75 |
| | 5-7 | 0,26 | | 4-7 | 0,76 |
| | 8-11 | 0,27 | | 8-11 | 0,77 |
| | 12-15 | 0,28 | | 12-14 | 0,78 |
| | 16-18 | 0,29 | | 15-18 | 0,79 |
| | 19-22 | 0,30 | | 19-22 | 0,80 |
| | 23-26 | 0,31 | | 23-25 | 0,81 |
| | 27-29 | 0,32 | | 26-29 | 0,82 |
| май | 30-3 | 0,33 | лістапад | 30-1 | 0,83 |
| | 4-7 | 0,34 | | 2-8 | 0,84 |
| | 8-10 | 0,35 | | 6-9 | 0,85 |
| | 11-14 | 0,36 | | 10-12 | 0,86 |
| | 15-17 | 0,37 | | 13-16 | 0,87 |
| | 18-21 | 0,38 | | 17-20 | 0,88 |
| | 22-25 | 0,39 | | 21-23 | 0,89 |
| | 26-28 | 0,40 | | 24-27 | 0,90 |
| чэрвень | 29-1 | 0,41 | снежань | 28-1 | 0,91 |
| | 2-5 | 0,42 | | 2-4 | 0,92 |
| | 6-8 | 0,43 | | 5-8 | 0,93 |
| | 9-12 | 0, 44 | | 9-12 | 0,94 |
| | 13-16 | 0,45 | | 13-15 | 0,95 |
| | 17-19 | 0,46 | | 16-19 | 0,96 |
| | 20-23 | 0,47 | | 20-23 | 0,97 |
| | 24-27 | 0,48 | | 24-26 | 0,98 |
| | | | | | |
| | | | | | |

**Табліца 3.**

## ТАБЛІЦА ЦЫКЛАЎ

| 1,44 | 280,45 | 587,92 | 895,40 | 1202,87 | 1510,36 | 1817,82 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1,92 | 309,40 | 616,87 | 924,34 | 1231,82 | 1539,29 | 1846,77 |
| 30,87 | 338,34 | 645,81 | 953,29 | 1260,76 | 1568,24 | 1875,71 |
| 39,81 | 367,28 | 674,76 | 982,23 | 1289,71 | 1597,19 | 1904,66 |
| 88,75 | 396,23 | 703,70 | 1000,26 | 1307,74 | 1615,22 | 1933,60 |
| 117,70 | 425,17 | 732,65 | 1029,21 | 1336,68 | 1644,16 | 1951,63 |
| 146,64 | 454,12 | 750,68 | 1058,15 | 1365,62 | 1673,11 | 1980,58 |
| 175,59 | 472,15 | 779,62 | 1087,10 | 1394,57 | 1702,95 | 2009,52 |
| 204,53 | 501,09 | 808,57 | 1116,04 | 1423,51 | 1731,00 | 2038,47 |
| 233,48 | 530,04 | 837,51 | 1144,98 | 1452,46 | 1759,94 | 2067,41 |
| 261,51 | 558,98 | 866,45 | 1173,93 | 1481,40 | 1788,89 | 2096,36 |

**Табліца 4.**

**Размеркаванне сонечных і месячных зацменняў у цыклах**

| 0,00 с.п.! | 5,70 м.ч! | 11,84 м.ч.! | 17,10 м.ч. ! | 23,24 м.ч.! |
|---|---|---|---|---|
| 0,04 м.ч. | 5,74 с.ч. | 11,88 с.п. | 17,54 с.п.! | 23,28 с.ч.! |
| 0,44 м.ч. | 6,14 с.ч.! | 12,29 с.ч. | 17,58 м.ч. | 23,69 с.ч. ! |
| 0,49 с.п.! | 6,19 м.ч.! | 12,33 м.ч.! | 18,03 с.п. | 23,73 м.ч.! |
| 0,93 м.ч. | 6,63 с.п.! | 12,37 с.ч.! | 18,07 м.ч. | 23,77 с.ч. |
| 0,97 с.ч. | 6,67 м.ч. | 12,77 с.п. | 18,47 м.ч. | 24,17 с.ч. ! |
| 1,37 с.ч. | 7.11 с.п.! | 12,81 м.п.! | 18,51 с.п. | 24,21 м.ч. ! |
| 1,41 м.ч! | 7,16 м.ч. | 12,86 с.ч. | 18,96 м.п. | 24,66 с.п.! |
| 1,46 с.ч.! | 7,56 м.ч. | 13,28 с.ч.! | 19,00 с.п.! | 24,70 м.ч. |
| 1,86 с.ч. | 7,60 с.п.! | 13,30 м.ч.! | 19,40 с.ч. | 25,14 с.п. ! |
| 1,90 м.п. | 8,04 м.п. | 13,34 с.ч. | 19,44 м.ч. ! | 25,18 м.ч. |
| 1,94 с.ч. | 8,09 с.п.! | 13,74 с.п.! | 19,48 с.ч.! | 25,59 м.ч. |
| 2,34 с.ч.! | 8,49 с.ч. | 13,78 м.ч. | 19,89 с.ч. | 25,63 с.ч. ! |
| 2,39 м.ч.! | 8,53 м,ч.! | 14,23 с.п.! | 19,93 м.п. | 26,07 м.п. |
| 2,43 с.ч. | 8,57 с.ч.! | 14,27 м.ч. | 19,97 с.ч. | 26,11 с.п. ! |
| 2,83 с.ч! | 8,97 с.ч. | 14,67 м.ч. | 20,37 с.ч. | 26,52 с.ч. |
| 2,87 м.п. | 9,01 м.п.! | 14,71 с.п. | 20,41 м.ч.! | 26,56 м.ч. ! |
| 3,31 с.п. | 9,06 с.ч. | 15,16 м.ч. | 20,46 с.ч. | 26,60 с.ч. ! |
| 3,36 м.ч. | 9,46 с.ч.! | 15,20 с.ч.! | 20,66 с.п. ! | 27,00 с.ч. |
| 3,76 м.ч. | 9,50 м,ч,! | 15,60 с.ч. | 20,90 м.п. | 27,04 м.п. ! |
| 3,80 с.п.! | 9,54 с.ч. | 15,64 м.ч.! | 21,34 с.п. ! | 27,08 с.ч. |
| 4,24 м.ч. | 9,94 с.п.! | 15,68 с.ч. | 21,38 м.ч. | 27,49 с.ч. ! |
| 4,29 с.п.! | 9,98 м.п. | 16,09 с.ч. | 21,79 м.ч. | 27,53 м.ч.! |
| 4, 73 м.ч.! | 10,43 с.п.! | 16,13 м.п.! | 21,83 с.п ! | 27,57 с.ч. |
| 4,77 с.ч.! | 10,47 м.ч. | 16,17 с.п. | 22,27 м.ч. | 27,97 с.ч. ! |
| 5,17 с.ч. | 10,87 м.ч. | 16,57 с.ч. ! | 22,31 с.п. ! | 28,01 м.ч. |
| 5,21 м.ч! | 10,91 с.п.! | 16,61 м.ч.! | 22,76 м.ч.! | 28,46 с.п. ! |
| 5,26 с.ч.! | 11,36 м.ч. | 16,66 с.ч. | 22,80 с.ч. ! | 28,50 м.ч. |
| 5,66 с.ч.! | 11,40 с.п.! | 17,06 с.ч. ! | 23,20 с.ч. | 28,90 м.ч. |

